29 студзеня 2016 | № 4 (469)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Адкуль сыходзіць пагроза традыцыйным каштоўнасцям?**

стар. 4






5 **ЗАРОБКІ МОГУЦЬ ЗНІЗІЦЦА ДА ЎЗРОЎНЮ ПАЧАТКУ 1990-Х**



Нават 6 мільярдаў крэдытаў, якія афіцыйны Мінск просіць у Расіі і МВФ, не здольныя выправіць сітуацыю ў эканоміцы, яны дазволяць толькі захаваць статус-кво

20 **ЦЯЖКІЯ ЧАСЫ АЛІЕВА**

Азербайджан перажывае ці не самы глыбокі крызіс за ўсе гады праўлення прэзідэнта Ільхама Аліева. Бакінскі эколаг і эканаміст Намік Мамедаў у інтэрв'ю НЧ дапамагае разабрацца ў сітуацыі

7–18 **Літаратурная Беларусь**

23 **ДА МЯСЦОВАГА НАСЕЛЬНІЦТВА БЯЗЛІТАСНЫЯ**

Акрамя забойстваў падчас карных акцыяў, казакі займаліся рэквізіцыямі коней, харчавання і фуражу ў сялян, што звычайна заканчвалася масавым рабаўніцтвам і гвалтам

# Краіна не для крэдытораў

**Беларускія чыноўнікі паглядзелі Еўропу і вырашылі, што нічога добрага там няма**



Сяргей ПУЛЬША

Тры месяцы таму ЕС прыпыніў санкцыі ў дачыненні да шмат якіх беларускіх чыноўнікаў і некаторых кампаній. Да новага разгляду гэтага пытання застаўся месяц.

Еўрапейцы прыпынілі свае санкцыі пад уздзеяннем дзвюх рэчаў. Першая — міратворчыя высілкі афіцыйнага Мінска па ўрэгуляванні канфлікту ва Украіне. Другая — і еўрапейцы не сароміліся гэта прызнаць, — тое, што прэзідэнцкія выбары 2015 года ў краіне прайшлі хоць і недэмакратычна, але мірна. Ну і тое, што напярэдадні выбараў былі выпушчаныя палітвязні, безумоўна, паўплывала.

Між тым, усе казалі пра тое, што гэтае прыпыненне — «крэдыт даверу» ЕС да беларускіх уладаў. Так сказаў міністр замежных справаў Германіі Франк-Вальтэр Штанмаер непасрэдна свайму калегу Уладзіміру Макею, калі сустракаўся з ім у Берліне ў лістападзе. Дзяржсакратар Францыі па еўрапейскіх справах Арлем Дэзір зазначаў, што санкцыі прыпыняюцца з мэтай спрыяць захаванню правоў чалавека, дэмакратыі і прынцыпаў прававой дзяржавы. У гэтым рэчышчы выказваліся ўсе, каму не было лянотна — нават кіраўніца МЗС Харватыі Весна Пусіч.

На жаль, еўрапейцы не звязваюць цесна эканоміку і палітыку. Інакш бы, перш чым выдаваць крэдыт даверу, яны б паглядзелі на тое, як Беларусь абыходзіцца з іншымі крэдытамі. З палітычным крэдытам атрымалася ўсё тое ж самае.

Ці былі выкананыя ўмовы гэтага «крэдыту даверу»?

Як казалі, каментуючы прыпыненне санкцый, нашы беларускія палітыкі, для канчатковага зняцця санкцый ЕС ставіў пэўныя ўмовы. «Палёгкі для незалежнай прэсы, паляпшэнне выбарчага заканадаўства і рэгістрацыю партый і аб'яднанняў», — у лістападзе казаў сустаршыня аргкамітэта па стварэнні «Беларускай хрысціянскай дэмакратыі» Павел Севярынец. І што мы бачым зараз?

Становішча незалежнай прэсы ніяк не змянілася. «Новы час», нягледзячы на неаднаразовыя намаганні рэдакцыі, дагэтуль не бяруць у распаўсюд «Белпошта» і «Белсаюздрук». Гомельскія журналісты-фрылансеры Кастусь Жукоўскі і Ларыса Шчыракова атрымалі з пачатку года тры штрафы на дваіх за «незаконны выраб прадукцыі СМІ». А 25 студзеня ў судзе Фрунзенскага раёна Мінска АМАПаўцы жорстка збілі журналіста партала TUT.BY Паўла Дабравольскага. Збілі пры выкананні ім сваіх журналісцкіх абавязкаў, нягледзячы на журналісцкае пасведчанне.

Палёгкі для прэсы? Ботам табе па твары, а не палёгкі для прэсы!

Дарэчы, Дабравольскага збілі на працэсе над маладзёнамі, якія абвінавачваюцца ў нанясенні на сцены патрыятычных графіці. Праваабаронцы яшчэ да пачатку судовага разбіральніцтва вынеслі вердыкт: калі тыя будуць асуджаныя, то іх адназначна трэба лічыць палітвязнямі, бо асуджаныя яны будуць за выказванне свайго меркавання.

То бок, улады дзейнічаюць па старой завядзёнцы: адных палітвязняў выпусцілі — новых пасадзілі. Гэта адбываецца ўжо не першы раз. І Еўропа магла б нарэшце гэта заўважыць.

Рэгістрацыя партый і аб'яднанняў? Той жа Павал Севярынец не разлічваў, што ў адпаведнасці з еўрапейскай лібералізацыяй улады зарэгіструюць БХД пад якімсьці соўсам. Не разлічваў, але раптам «цуд на Калядых»? Цуду не адбылося — грамадскаму аб'яднанню «Хрысціянска-дэмакратычны рух» Мінюст адмовіў у рэгістрацыі на падставе таго, што «статут аб'яднання не адпавядае патрабаванням заканадаўства».




**Ці былі выкананыя ўмовы «крэдыту даверу»?**

У чым жа неадпаведнасць? У статуце ХДР запісана: адной з мэтаў дзейнасці РГА «ХДР» з'яўляецца «абарона правоў і законных інтарэсаў грамадзян». Па меркаванні Мінюста, «дадзенае палажэнне не адпавядае артыкулу 20 Закона аб грамадскіх аб'яднаннях. Хаця згодна гэтаму артыкулу грамадскія аб'яднанні маюць права абараняць правы і законныя інтарэсы сваіх чальцоў, а таксама прадстаўляць законныя інтарэсы сваіх чальцоў у дзяржаўных органах і іншых арганізацыях».

Як прыгожа Мінюст пазбавіў грамадзянства ўдзельнікаў грамадскіх аб'яднанняў!

Можна было б казаць пра нелюбоў міністэрства да хрысціянскіх дэмакратаў, але яны не адзіныя былі не зарэгістраваныя. «Новая альтэрнатыва» Алега Корбана таксама не была зарэгістраваная з-за «неадпаведнасці назвы аб'яднання названым у статуце мэтам і задачам». І такіх прыкладаў шмат.

Пра лібералізацыю выбарчага заканадаўства ўвогуле ў гэтых варунках казаць не мае сэнсу. Палата прадстаўнікоў на канікулах да вясенняй сесіі, а размова пра далейшае прыпыненне ці адмаўленне санкцый будзе ісці ў лютым.

Узнікае ўражанне, што нашы чыноўнікі паездзілі па Еўропах, паглядзелі, як яны там пакутуюць ад мігрантаў, і вырашылі: «Гэта не пра нас. Лепей мы пад санкцыямі застанемся, чым такое шчасце». Калі ЕС сапраўды ацэніць наш «прагрэс у дэмакратыі», то іншага рашэння, як узнавіць «санкцыйныя спісы», быць не можа.

# З такімі коштамі павымірваем

Марыя ВЕРАС

**За камунальныя паслугі людзі і так плацяць нямала, асабліва на фоне нізкіх заробкаў і адсутнасці працы ў правінцыі. Так лічаць многія жыхары Слуцка. Шмат хто незадаволены павышэннем коштаў у жыроўках яшчэ і па той прычыне, што гадамі не бачыць якасці камунальных паслуг.**

25 гадоў спатрэбілася жыхарам дома №3 па вуліцы Будаўнікоў, каб ліквідаваць працяканне каналізацыйных труб у падвале пяціпавярховага дома. Пры гэтым случчане неаднаразова звярталіся і ў ЖЭУ-4, і ў КУП «Слуцкая ЖКГ», і ў Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. У выніку двойчы на тыдзень шмат гадоў работнікі аварыйна-дыспетчарскай службы добрасумленна з'яўляліся ў падвале дома, прабівалі засор, а затым зніклі да наступнага разу. Прычыну дрэннай працы каналізацыі ніхто і не спрабаваў высветліць.

У пачатку лістапада 2015 года жыхары звярнуліся па параду і дапамогу да грамадзянскай актывісткі Зінаіды Цімошак. У хуткім часе ў якасці добраахвотнага эксперта ў падвале дома пабываў былы начальнік каналізацыйнай службы Міхаіл Мурашка, які высветліў прычыну. У выніку быў складзены зварот па сутнасці праблемы і запатрабавана ліквідацыя прычыны забруджвання падвала. Ужо ў канцы снежня 2015 года былі выкананы ўсе неабходныя работы, і жыхары змаглі парадавацца сухому падвалу.

— Я не разумею, чаму нам неабходна было 25 гадоў пісаць да камунальнікаў, а пасля звяртацца па дапамогу да грамадскіх актывістаў, каб яны адшукалі прафесіяналаў і дапамаглі вырашаць праблему ў той час, калі ў нас існуюць камунальныя службы, — гаворыць мясцовы жыхар Сяргей Долбік. — Навошта было выдаткоўваць грошы на шматгадовае штотыднёвае адкачванне каналізацыйных нечыстотаў працаўнікамі аварыйна-дыспетчарскай службы, калі можна было проста ліквідаваць саму прычыну?

Дык за якія камунальныя паслугі будзе зараз брацца павышаная аплата — за якасць абслугоўвання ці за колькасць змарнаваных гадзін, калі камунальнікі без аніякіх вынікаў гадамі калупаюцца ў падвалах?

У пенсіянеркі Зоі Ігнатаўны Драбені, якая пражывае ў кватэры №1 дома №138-А па вуліцы Леніна, іншая праблема: у кватэры холадна. Сядзіць перад тэлевізарам, захінуўшыся ў коўдру. На нагах валёнкі.

— Грэе толькі верхняя палова радыятара цэнтральнага ацяплення. Ніжняя зусім халодная. Тэмпература ў памяшканні не бывае вышэй за 16 градусаў. Можа, трэба чысціць радыятар. Дык некалькі гадоў таму па зваротах жыльцоў камунальнікі прыходзілі прамываць. Сантэхнік залівау кубачкам ваду ў батарэю. Мусіць, дрэнна прамыў. Зараз зноў збіраем подпісы пад калектыўным зваротам.

Зоя Ігнатаўна лічыць, што грошы за камунальныя паслугі пры нашых пенсіях і слуцкіх заробках людзі плацяць і так не маленькія:

— Тут мы еўрапейцаў аніяк не дагонім, а калі пачнём даганяць па кошту аплат камунальных паслуг без павышэння заробкаў — павымірваем, запатрабаваны будуць толькі пахавальныя службы.

# Мова з Імбрыкам

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Яшчэ на адны курсы беларускай мовы ў Беларусі і не толькі стала больш.**

Пасля прэзентацыі ў віленскім Доме нацыянальных меншасцей, моўныя курсы «Мова з Імбрыкам», ініцыятарам якіх стаў вядомы беларускі прадпрымальнік і вытворца беларускай сувенірнай прадукцыі, уладальнік інтэрнэт-крамы imbryk.by Алесь Мазанік, былі прадстаўлены ахвочым і ў Мінску.

Як зазначыў ініцыятар гэтага моўна-культурніцкага праекта спадар Алесь падчас прэзентацыі, мэта яго курсаў — матываваць беларусаў больш актыўна размаўляць на роднай мове, даваць адпор тым, што па саўковай завядзёнцы публічна і прыватна выказвае непавагу да беларускага слова. Таму на курсах будзе аддавацца перавага жывой гаворцы, аповедам наведвальнікаў пра тое, што для іх азначае беларуская мова, якое значэння яна мае ў іх жыцці, якія перашкоды сустракаюцца ў іх на шляху да беларускасці.

Спадар Алесь падкрэсліў, што яго курсы не будуць паўтараць напрацоўкі, напрыклад, ужо аўтарытэтных курсаў «Мова Нанова» ці іншых. Ён будзе шукаць новыя формы выхавання павагі да нашага агульнага моўнага скарбу. І таму на прэзентацыі, у якасці эксперыментальных сродкаў, першым наведвальнікам курсаў была паказана нізка матывуючых відэаролікаў, якія заклікаюць да вывучэння беларускай мовы.

# Працэс над графіцістамі — дзікунства

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Суд над «графіцістамі» Максімам Пякарскім, Вячаславам Касінеравым і Вадзімам Жаромскім 25 студзеня пачаўся з акцыі салідарнасці з абвінавачанымі.**

Маладыя людзі Павел Сяргей і Максім Шыцік у залі пасяджэнняў разгарнулі расцяжку са словамі «Не — палітычным пераследам» і некалькі разоў выгукнулі: «Мастацтва — не злачынства». У залу ўварваліся работнікі міліцыі і людзі «ў цывільным» і вывелі хлопцаў у калідор.

Адразу ж пасля вываду з залы маладых людзей сталі збіваць. Гукі збіцця чулі і прысутныя ў залі суда. Разам з Сяргеем і Шыцікам збівалі і журналіста Паўла Дабравольскага, які ў гэты момант знаходзіўся за дзвярыма і пачаў здымаць на мабільны тэлефон дзеянні людзей «у цывільным».

Пасля збіцця ўсіх трох адвезлі ў Фрунзенскі РУУС, дзе на кожнага склалі пратаколы па двух артыкулах КоАП (24.1 «Непавага да суда» і 23.4 «Непадпарадкаванне законным патрабаванням службовай асобы»). Потым затрыманых зноў прывезлі ў суд Фрунзенскага раёна. Суддзя Марыя Ярохіна на падставе сведчанняў супрацоўніка міліцыі Сяргея Кавальчука пакарала Максіма Шыціка штрафам у памеры 45 базавых велічыняў (9450000 рублёў), Паўла Сяргея — штрафам у 50 базавых велічыняў (10500000 рублёў). Журналіст Павел Дабравольскі быў аштрафаваны на суму 45 базавых велічыняў.

Павел Дабравольскі знаходзіўся ў судзе па рэдакцыйным заданні для асвятлення судовага працэсу над «графіцістамі». Аднак у залу пасяджэнняў яго не пусцілі, і ён застаўся ў калідоры. Амаль адразу ж пасля пачатку працэсу ў залу ўварваліся людзі «ў цывільным» і вывелі адтуль двух хлопцаў, якія трымалі расцяжку. Ён адразу ж стаў гэта здымаць на мабільны тэлефон. Калі хлопцаў пацягнулі па калідоры, ён пайшоў за імі. Потым іх усіх зацягнулі ў пакой 5 на 5 метраў, які размяшчаўся за залай судовых пасяджэнняў, і пачалі збіваць. У Дабравольскага вырвалі з рук журналісцкае пасведчанне, паклалі тварам на падлогу і моцна білі нагамі. Усё гэта суправаджалася пагрозамі.

Хіба можна так жорстка расправіцца з маладымі людзьмі (фактычна дзецьмі), якія выказалі сваю салідарнасць з абвінавачанымі і адначасова пратэст супраць «заказнога» правасуддзя? Абурае і той факт, што збівалі людзей наўпрост у судзе. Усе чулі і адчувалі зладзейства. І пракурор, і суддзя, і журналісты і іншая публіка.

На мой погляд, гэта проста дзікунства. У будынку суда збіваць мірных людзей, у тым ліку журналіста. І за што? За тое, што яны выказалі свой пратэст цалкам мірнымі сродкамі? Так, яны парушылі грамадскі парадак і, можа быць, выказалі непавагу да суда. Але ж можна былі іх проста вывесці і адвезці для складання пратаколаў. А тут — бойня.

На мой погляд, у дзеяннях людзей «у цывільным», якія «забяспечвалі грамадскі парадак» у будынку суда, можна ўгледзець цэлы букет злачынстваў. Перш за ўсё, гэта перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў (арт. 426 КК). Бо ніхто не дазваляў гэтым «службовым» так жорстка збіваць людзей. Яны дапусцілі ў сваіх дзеяннях наўмыснае прычыненне цялесных пашкоджанняў (арт. 153 КК). Яны доўга збівалі сваіх ахвяраў (па сведчанні відавочцаў і Паўла Дабравольскага, збіццё працягвалася каля 20 хвілін). Гэта можна кваліфікаваць як катаванне (арт.154 КК). У дачыненні да журналіста дзеянні людзей «у цывільным» можна расцаніць як перашкоду законнай прафесійнай дзейнасці журналіста (арт.198 КК).

Свавольства гэтых людзей павінна атрымаць належную прававую ацэнку з боку кампетэнтных органаў. Бо яно выклікала абурэнне ва ўсіх прыстойных людзей. Хіба дапушчальна, каб прадстаўнікі сілавых структураў, прыкрываючыся грамадзянскай формай, паводзілі сябе як бандыты?

Паглядзім, як паступяць у гэтым выпадку нашы праваахоўнікі: адрэагуюць, або, як зазвычай, не заўважаць? Калі не заўважаць, то самавольства будзе працягвацца, пакуль не перапоўніць чашу цярпення. А яна і так на мяжы.

# Прадаўцы супраць дырэктара

**У Полацкім судзе разглядаецца справа наконт аднаўлення на працы прадаўцоў ААТ «ПолацкБудМатэрыялы».**

Справа ў тым, што дырэктар Андрэй Жук усталяваў схаваную відэакамеру ў краме «Гарызонт» і таемна назіраў за працай прадаўцоў.

Пасля тыднёвага сачэння за працай касіраў з дапамогай схаванай камеры была праведзеная раптоўная інвентарызацыя, якая выявіла невялічкую нястачу, каля трох мільёнаў рублёў (150$). Дырэктар крамы прад'явіў прадаўцам зробленыя ўпотай відэазапісы і запатрабаваў пісаць тлумачальныя. У выніку чатыры прадаўцы былі адхіленыя ад працы без аплаты на паўтара месяца, пасля чаго былі звольненыя з прычыны страты даверу. Работнікі крамы лічаць, што схаванае відэаназіранне вялося незаконна і не даказвае іх віны.

Усе звольненыя прадаўцы з'яўляюцца жанчынамі. Дзве з іх звярнуліся ў суд з патрабаваннем прызнаць незаконным адхіленне іх ад працы і аднавіць з выплатай зарплаты за вымушаны прагул і маральныя страты.

На першым пасяджэнні суду прадаўцы ў прысутнасці пракурора распавялі, як адбывалася раптоўная інвентарызацыя. У краму былі выкліканыя ўсе работнікі, якія знаходзіліся ў той дзень паводле графіку на выходным. Адміністрацыя распарадзілася, каб прадаўцы пакінулі свае сумачкі, адзежу і мабільныя тэлефоны ў кабінеце дырэктара, і забараніла карыстацца тэлефонам на ўвесь час праверкі. Інвентарызацыя і наступныя разборкі доўжыліся з 9:00 да 22:00 — трынаццаць гадзін без перапынку на абед і вячэру.

Пазапланавая інвентарызацыя і таемны відэазапіс выявілі звычайныя невялікія парушэнні касавай дысцыпліны, калі разменныя дробныя грошы захоўваліся не ў касавым апараце. Прадаўцы патлумачылі, што вялікая колькасць дробных купюр не змяшчаецца ў стары касавы апарат, і гэтак было зручней даваць дробную рэшту пакупнікам. Таксама выявілася, што работнікі крамы бралі тавар у пазыку да зарплаты. Для гэтага вёўся адмысловы сшытак, дзе запісвалі тавар, узяты работнікамі з крамы да аплаты яго ў дзень выдачы заробку. У гэты сшытак былі запісаны не толькі прадаўцы, але і загадчыца крамы, якая ведала пра такую звычайную практыку. Нават імя дырэктара крамы, спадара Жука, таксама аказалася ў сшытку — ён узяў больш як два гады таму радыётэлефон, за які не разлічыўся дагэтуль. Падчас усіх інвентарызацыяў у краме гэты тэлефон уносіўся ў спіс наяўных тавараў.

Дырэктар ААТ «ПолацкБудМатэрыялы» напісаў на сваіх работнікаў заяву ў міліцыю з далучэннем відэазапісу, але ў РАУС завілі пра адсутнасць у дзеяннях прадаўцоў складу злачынства. Пасля гэтага 6 студзеня дырэктар звольніў прадаўцоў. Яшчэ да звальнення работніцы напісалі скаргі ў пракуратуру і іншыя дзяржорганы пра незаконнасць усталявання дырэктарам схаванага відэаназірання, праверкі па гэтых заявах яшчэ праводзяцца.

Прадстаўнік ААТ «ПолацкБудМатэрыялы» ў судзе юрысконсульт Тамашова Таццяна не адмаўляе наяўнасць схаваных камераў відэаназірання ў краме, усталяваных па ўказанні дырэктара. Яна сказала: «Аб відэаназіранні ёсць абвестка ў краме». Аднак юрыст не змагла паведаміць, дзе менавіта ў краме знаходзіцца абвестка для наведвальнікаў пра відэаназіранне. Паводле словаў прадаўцоў і наведвальнікаў крамы, такой абвесткі ў гандлёвай залі і на дзвярах крамы не было.

Наступнае пасяджэнне суду па гэтай справе прызначанае на 2 лютага.

**Паводле сайта «Віцебская вясна»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# У бульбе не схаваешся

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Калі хваробу не лячыць — яна альбо сама пройдзе, альбо ты сканаеш. Прычым, верагоднасць другога варыянту значна вышэй, чым першага. Але насуперак усялякай логіцы айчынную хворую эканоміку ўлады запускаюць да скону.**



Усім беларусам, — не толькі ўладзе, — ужо наскрозь прагулі вушы тым, што краіне патрэбныя рэформы. Так, будзе цяжка, будзе спачатку кепска, але гэта — як і ў любой хваробы: спачатку абвастрэнне — потым выздараўленне.

Але тут кіраўнік Беларусі заявіў, што абдумваў нейкія прапановы ўрада. Прычым, абдумваў іх не адзін дзень і не адзін тыдзень. Высновы гэтага мысліцельнага працэсу простыя: «Я не знаходжу магчымасці і неабходнасці мяняць курс (калі ў кагосьці ёсць такія прапановы) у гэтай сітуацыі. Курс, па якім мы атрымалі незалежнасць, стварылі сваю дзяржаву. І сёння нешта ламаць, прытым залішне напружваючы людзей, прытым безвынікова, — я на гэта не тое што не магу пайсці, я катэгарычна супраць гэтага», — сказаў Лукашэнка.

«Прашу прытрымлівацца той палітыкі, якую мы абяцалі народу ў перадвыбарчую кампанію. Хлусіць людзям нельга. У адваротным выпадку мы будзем праводзіць так званыя рэформы для сябе, якія адштурхнуць народ, гэта не толькі ўнясе сумятню ў розуму людзей, але і дэстабілізуе абстаноўку, і тады нам спатрэбіцца пры страце кіравальнасці, магчыма, і твару ўлады, грошай значна больш, чым трэба, дапусцім, сёння для пагашэння знешніх запазычанняў», — заявіў ён.

Пачнём з канца. За гэта галасую дзвюма рукамі. Давайце прытрымлівацца той палітыкі, якую абяцалі народу ў перадвыбарчую кампанію. Найперш, пяцігадовы мараторый на новыя падаткі. Давайце адмяняць падатак на банкаўскія ўнёскі і незразумелыя «зваротныя» і «незваротныя» дэпазіты. Давайце выконваць пункт пра развіццё прадпрымальніцтва, і вернем ІП на рынкі, скасаваўшы пастановы №222 і 666. Давайце выконваць пункт па «ўмацаванні даверу да беларускага рубля». І дзе, нарэшце, наш абяцаны заробак у 1000 долараў?

Хлусіць людзям нельга, цалкам згодны. Таму чакаем, як мінімум, мараторыя на падаткі, адмены ўжо «незаконна ўведзеных» падаткаў, палёгкі для прадпрымальнікаў. Толькі, баюся, не дачакаемся.

Кіраўнік Беларусі выразна патлумачыў, чаму ён не хоча «мяняць курс». Таму што змена курса можа прывесці да «страты твару ўлады». Твар ва ўлады ўжо больш за 20 гадоў адзін. І таму ён вырашыў замарожваць сітуацыю надалей.

Гэта было б, можа, і апраўдана — перасядзець крызіс. Але для таго, каб яго перасядзець, патрэбныя, па-першае, стабільнасць, па-другое — рэсурсы. А ў нас зараз няма ні першага, ні другога. Адзін толькі рынак нафты скача туды-сюды, але, у асноўным, падае. Расійскі рынак ліхаманіць. Дзе ж тут узяцца стабільнасці? І рэсурсаў у нас на «перасідку» ўжо няма. Ані МВФ, ані ЕФСР грошай не даюць.

Чым далей мы запусцім сваю хваробу, тым складаней (і больш балюча) ад яе будзе вылечвацца. Лепш бы кіраўнік дзяржавы паглядзеў на снежаньскае апытанне НІСЭПД (Літва), і асабліва на пытанне: «Што для вас важнейшае: захаванне існуючага стану ў краіне альбо яго змяненне?». 55,5% апытаных, то бок больш за палову, выказаліся за змяненне сітуацыі. І тут Аляксандр Рыгоравіч яўна «не ў трэндзе». Што, між іншым, прывяло да падзення яго рэйтынгу да рэкордных за два апошнія гады 33,3%.

Ну, а калі мы не лечымся, то працягваецца перакладванне паперак з аднаго стосу ў іншы. Напрыклад, дырэктыва №3 па эканоміі і беражлівасці перайменаваная ў дырэктыву «Аб прыярытэтных кірунках умацавання эканамічнай бяспекі дзяржавы». Савету Міністраў даручана ў трохмесячны тэрмін зацвердзіць план мерапрыемстваў па рэалізацыі палажэнняў дырэктывы, што не дадасць ані эканоміі, ані беражлівасці, а толькі папсуе сотні кілаграмаў паперы.

Не спяшаюцца і нашы дэпутаты. Як ужо неаднаразова казалася, яны прынялі нерэальную праграму развіцця Беларусі, лічбы якой састарэлі ўжо ў момант яе прыняцця. А новую праграму яны разгледзяць толькі з адкрыццём сесіі. То бок не раней за красавік.

Да красавіка можа здарыцца ўсё, што заўгодна.

Традыцыйна парадаваў нас і міністр адукацыі Міхаіл Жураўкоў. Мы ўжо пісалі пра ягоны намер скараціць школьную праграму на 20–30%. Але ён пайшоў надалей, выказаўшыся пра стварэнне адзінага базавага падручніка ў сярэдняй школе. Па ягоных словах, «базавы падручнік» будзе ўтрымліваць сістэматызаванае выкладанне вучэбнага прадмета ў мінімальна неабходным аб'ёме, які вызначаецца адукацыйным стандартам і вучэбнай праграмай. Распрацоўваецца навучальныя комплексы, якія ўключаюць базавыя падручнікі і дадатковы матэрыял. Пры гэтым такія комплексы не прывязаныя да пэўнага класа і да канкрэтных праграмаў.

Канешне, прыкольная фішка — напісаць, напрыклад, падручнік па матэматыцы, які б падыходзіў і для першага класа (2+2=4), і для дзявятага (алгебра і пачатак аналізу з інтэгральнымі вылічэннямі). Аднак, баюся, што важыць такі падручнік будзе кілаграмаў з дзесяць.

Але ж сапраўды былі часы, калі ўсе вучыліся па адным падручніку. Ён, быў, канешне, цяжкі і тоўсты, але ж быў! Гэты падручнік існаваў у XIX стагоддзі і называўся «Біблія». Тады і чытаць, і лічыць па ім вучыліся. Да таго ж, гэта файная праграма навучання, якая дае магчымасць ведаць усё, абсалютна нічога не тлумачачы. «Чаму паскарэнне свабоднага падзення роўнае 9,78 м/с²?», — «На ўсё воля Божая!» — «Малайчынка! Сядай, пяць!» (зараз ужо «дзесяць»).

Праўда, ці далёка мы пойдзем з такімі ведамі?

Ну, і, нарэшце, добрая навіна. Дзяржаўны мытны камітэт Беларусі не бачыць неабходнасці ўвядзення якіх-небудзь абмежаванняў на інтэрнэт-пасылкі з таварамі для асабістага карыстання. «Гэта сапраўды зручны спосаб набыцця тавараў», — сказаў кіраўнік ДМК Юрый Сянько.

Гэта значыць, што, па-першае, пытанне падатку на такія пасылкі адкладаецца. І, па-другое, у беларусаў пакуль яшчэ ёсць грошы набываць нешта за мяжой.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Таццяна Караткевіч



**Экс-кандыдатка на пасаду прэзідэнта краіны нарабіла шораху сваімі заявамі на міжнароднай канферэнцыі «БелаРускі дыялог» у Маскве.**

У Фэйсбуку з'явілася цытата Караткевіч: «Мы лічым, што Беларусь з'яўляецца ваенным і палітычным партнёрам Расіі. Але нашы адносіны павінны будавацца на падмурку ўзаемнай павагі».

Сама Караткевіч патлумачыла «Радыё Свабода»: «Гэта было пленарнае пасяджэнне, на якім я выступіла. Я казала пра тое, што нашы ўзаемныя адносіны з Расіяй павінны будавацца на прынцыпах даверу і павагі. І падкрэсліла, што менавіта гэтага сёння не хапае. А ў цытаце, якая выстаўлена ў фэйсбуку, спалучаныя дзве тэзы. Я таксама сказала, што нашы адносіны, наша знешняя палітыка сёння не прадвызначаныя, хоць і будуюцца на агульнай гісторыі, актуальных эканамічных зносінах. І падкрэсліла, што моцным падмуркам будзе павага. А павага павінна выражацца ў тым, што Расія прызнае нашу незалежнасць і нашы асабістыя нацыянальныя інтарэсы. Я таксама падкрэслівала, што нашы ўзаемныя адносіны павінны будавацца на раўнапраўнай аснове. А мяне інтэрпрэтавалі недакладна».

## Віталь Бусько



**Старшыня камісіі па міжнародных справах мае спадзеў, што Палату прадстаўнікоў вернуць у Парламенцкую асамблею Савета Еўропы.**

Спадзяванні Бусько звязаныя з тым, што нядаўна адбыліся выбары новага старшыні ПАСЕ, якім стаў прадстаўнік Іспаніі. «У сваім выступе ён асобна вылучыў адносіны з Беларуссю, казаў пра вяртанне нашай краіне статусу. І мы вельмі спадзяемся, што атрымаем яго», — цытуе БелаПАН Бусько.

Нагадаем, што Беларусь атрымала статус спецыяльнага запрошанага 16 верасня 1992 года, а 13 студзеня 1997 года была яго пазбаўленая, паколькі Бюро асамблеі не прызнала адпаведнымі міжнародным стандартам умовы правядзення і вынікі рэферэндуму 24 лістапада 1996 года. У выніку гэтага рэферэндуму, уласна, і стварылася Палата прадстаўнікоў.

У чэрвені 2009 года ПАСЕ прыняла рэзалюцыю, у якой гаворыцца, што статус спецыяльнага запрошанага будзе вернуты беларускаму парламенту толькі пасля ўвядзення ў краіне мараторыя на смяротнае пакаранне.

## Вікторыя Азаранка



**Беларуская прыма тэніса прайграла Ангеліке Кербер і выбыла з Australian Open.**

З Кербер Азаранка сустрэлася ў чвэрцьфінале, і немка ўзяла рэванш за паразу ў нядаўнім фінале турніру ў Брысбене, перамогшы Азаранку ўпершыню ў кар'еры.

Сама Азаранка пракаментавала сваю паразу так: «Сёння я гуляла занадта плоска. Відавочна, што я не вельмі добра пачала матч. Сёння ва ўсім мне не хапала 10%. Я недастаткова добра працавала нагамі, недастаткова добра выконвала ўдары. У ключавыя моманты я допускала занадта шмат нявымушаных памылак. Я стварала шмат магчымасцяў, але недастаткова выкарыстоўвала іх. Шанцаў было нямала, але я іх не рэалізавала. З такой гульнёй нельга перамагчы ў чвэрцьфінале турніру «Вялікага шлема». Трэба гуляць у свой лепшы тэніс, але ў мяне не атрымалася».

«Сёння я буду засмучаная і злая на сябе, але не дазволю гэтай паразе паўплываць на мяне. Я ведаю, што мая праца прынесць плён. Проста трэба прыкладаць больш намаганняў. Трэба працягваць рухацца далей, каб гуляць стабільней. Я ўжо прадэманстравала добрыя прыкметы такой гульні. Фізічна я таксама стала мацней. Трэба прааналізаваць, у чым я яшчэ магу дадаць, і рухацца наперад», — цытуе Азаранку афіцыйны сайт турніру.

а | Азбука паліталогіі

# Адкуль сыходзіць пагроза традыцыйным каштоўнасцям?



Сяргей НІКАЛЮК

**Адзіны палітык — мой інфармацыйны спонсар. Дзе б я знаходзіў тэмы для сваёй «Азбукі паліталогіі», калі б не ён?**

Здавалася б, пасля 21 года публічнай актыўнасці выказаць штосьці новае практычна не магчыма. Але нездарма ж акадэмік Анатоль Рубінаў ахарактарызаваў адзінага палітыка (АП) як «унікальную асобу», якая пры выбудоўванні сваёй палітыкі «адштурхваецца ад зямлі, ад жыцця, а не ад якіх-небудзь тэарэтычных схем і абстрактных лагічных пабудоў». Такое прызнанне з боку аўтара больш чым 300 навуковых прац, у тым ліку 4 манаграфій і 65 вынаходстваў, дорага каштуе.

12 студзеня, падчас уручэння прэміі «За духоўнае адраджэнне», «унікальная асоба» зрабіла шэраг заяваў. Цытую паводле афіцыйнага прэс-рэлізу: «Найглыбейшы духоўны крызіс ахапіў многія краіны. І як вынік: у розных кутках Зямлі дэструктыўныя сілы здзяйсняюць спробы зламаць сістэму традыцыйных каштоўнасцяў. Агрэсіўныя напады на асновы маралі робяцца адной са злавесных прыкметаў сучаснасці».

Вось што значыць «адштурхоўвацца ад зямлі, ад жыцця». На абагульненне такога маштабу здольны хіба што адзін палітык з тысячы. І ў лепшым выпадку — адзін палітык з дзесяці тысяч з першай жа спробы пацэліць у «яблычак», г.зн. вылучыць галоўную праблему сучаснага свету, праблему разбурэння традыцыйных каштоўнасцяў.

## Індустрыялізацыя, аднак

У адрозненне ад АП, Карл Маркс быў вялікім аматарам тэарэтычных схем і лагічных абстрактных пабудоў. У прыватнасці, гістарычны працэс ён разглядаў як змену грамадска-эканамічных фармацый. Іх колькасць, лічыў Маркс, супадае з колькасцю пальцаў на адной руцэ. Не буду спрачацца з класікам. Арыфметыка — не маё. Таму прапаную звярнуцца да тэарэтычнай схемы, у якой уся гісторыя чалавецтва дзеліцца толькі на дзве эпохі — эпоху традыцыйнага грамадства і эпоху мадэрну. Гэтай схемай карыстаецца і АП, хоць, магчыма, пра гэта і не здагадваецца.

«Традыцыйнае грамадства, — падказвае Вікіпедыя, — грамадства, якое рэгулюецца традыцыяй. Захаванне традыцый пануе ў ім над развіццём, а грамадскі ўклад характарызуецца жорсткай саслоўнай іерархіяй, існаваннем устойлівых сацыяльных супольнасцяў. Такая арганізацыя грамадства фактычна імкнецца захаваць у нязменным выглядзе сацыякультурныя асновы жыцця, якія ў ім склаліся».

Знаёмая карціна, ці не так? Яна ад зямлі, ад жыцця, ад паўсядзённага жыцця сучаснай Беларусі. Але ідзем далей. «Эпоха мадэрну (ад англ. modernity — сучаснасць) — паняцце, якое азначае грамадства, зьмененае ў выніку сцвярджэння капіталістычнага грамадскага ладу, індустрыялізацыі, урбанізацыі, секулярызацыі, развіцця інстытутаў дзяржавы. Такое грамадства супрацьпастаўляецца традыцыйнаму грамадству і грамадству постмадэрну».

Калі першае азначэнне да нас мае непасрэднае дачыненне, дык з другім не ўсё так адназначна. Індустрыялізацыі, урбанізацыі і секулярызацыі ў нас як у сабакі блох. Я больш за год пражыў у Нью-Ёрку, але ні аднаго корпуса завода так ні разу і не ўбачыў. У Мінску ж толькі ў раёне плошчы Якуба Коласа іх як мінімум тры. І гэта ў самым цэнтры горада! Індустрыялізацыя, аднак.

Дэфіцыту інстытутаў дзяржавы ў Беларусі таксама няма. Паводле Маркса, дзяржава — апарат гвалту ў руках пануючага класа. Пануючага класа ў нас няма, але па колькасці сілавых структур мы трывала займаем лідзіруючыя пазіцыі ў Еўропе.

Вось чаго ў нас ніколі не было і няма, дык гэта капіталізму.

## Барацьба за доступ да цела

«Капіталізм — эканамічная сістэма вытворчасці і размеркавання, заснаваная на прыватнай уласнасці, усеагульнай юрыдычнай роўнасці і свабодзе прадпрымальніцтва. Галоўным крытэрам для прыняцця эканамічных рашэнняў з'яўляецца імкненне да павелічэння капіталу, да атрымання прыбытку», сцвярджае Вікіпедыя. Але гэта ў тэорыі. А што мы маем фактычна?

Прапаную прыгадаць апошні наваголні зварот АП. Прамова заканчваецца пажаданнем дабрабыту. Пералік прафесійных груп, да якіх звяртаецца АП, шырокі. Паводле добрай савецкай традыцыі, яго адкрываюць рабочыя і сяляне. Далей ідуць будаўнікі, інжынеры і навукоўцы, «якія сваёй працай памнажаюць багацце краіны». Не забытыя лекары з настаўнікамі, «якія дораць нам здароўе фізічнае і духоўнае». Асобным радком вылучаны салдаты ды афіцэры.

У пераліку адсутнічаюць прадпрымальнікі. Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца, бо прадпрымальнікі — яны ж, паводле вызначэння АП, «вашывыя блохі» — адзіная прафесійная група, афіцыйна пазбаўленая ў Беларусі права на занятак палітычнай дзейнасцю. Я не памыліўся. АП на гэту тэму выказваўся неаднаразова. Абмяжуюся адной цытатай: «Хачу падкрэсліць: калі хтосьці з бізнесоўцаў будзе фінансаваць «пятую калону» ці нейкім іншым спосабам аказваць негатыўны ўплыў на грамадства, то я буду лічыць, што яны ўключыліся ў палітычную барацьбу, у барацьбу супраць дзяржавы. А там — свае законы. Потым няхай не крыўдзяцца такія бізнесоўцы».




Любая палітычная дзейнасць у Беларусі — гэта дзейнасць супраць дзяржавы. Усё правільна. Традыцыйнае грамадства рэгулюецца традыцыямі. Палітыкі як спосабу ўзгаднення інтарэсаў яно не ведае. Нездарма ж пасля сваёй перамогі на першых і апошніх прэзідэнцкіх выбарах у 1994 годзе АП перш за ўсё заняўся аднаўленнем уладнай «вертыкалі», вярнуўшы дзяржаўным чыноўнікам і сілавікам статус вядучых саслоўяў.

Публічная палітыка, палітычная канкурэнцыя — гэта паняцці з эпохі мадэрну. Але ў жорсткіх іерархічных структурах дапускаецца толькі адзін від канкурэнтнай барацьбы — барацьба за доступ да цела начальніка. Публічнасці яна не дапускае, як не прадугледжвае і прадстаўнічых органаў улады.

«Улада, і прэзідэнт перш за ўсё, — тлумачыць АП, — павінен кантраляваць самае галоўнае тры рэчы: уладу — яна не прыватызуецца, уласнасць і грошы. Гэта павінна быць засяроджана перш за ўсё. Ну і потым, я ўжо казаў, ідэалогія ў нас не прыватызуецца і гэтак далей».

## Гараджане з сялянскай свядомасцю

Вось такая мадэль традыцыйнай, г.зн. сярэднявечнай дзяржавы, у якой улада, уласнасць, грошы і гэтак далей сканцэнтраваныя ў адных руках. Апорай для такой дзяржавы з'яўляецца традыцыйнае грамадства. Яго ролю ў Беларусі выконвае так званая «большасць». І, як дакладна заўважыў АП, каштоўнасці большасці беларусаў і іх сацыякультурных калегаў у свеце знаходзяцца пад пагрозай, якая зыходзіць ад дэструктыўных сілаў.

Прыглядзімся да гэтых сілаў. Згодна з прапанаванай вышэй схемай, месцам іх пражывання можа быць толькі мадэрн. Супрацьстаянне мадэрну і традыцыі — гэта супрацьстаянне дынаміцы і статыкі. Для апошняй любыя змены — дэструктыўныя.

Зразумела, у XXI стагоддзі ў геаграфічным цэнтры Еўропы традыцыйнага грамадства ў чыстым выглядзе быць не можа. Па факце мы маем раскол на мадэрнізаваную «меншасць» (25–30%) і традыцыйную «большасць» (70–75%). Але ўзровень прасунутасці першых і адсталасці другой адносны.

Класічны традыцыяналізм у Беларусі быў знішчаны ў гады сталінскай калектывізацыі і індустрыялізацыі. Бальшавікі абвясцілі стварэнне сучаснай эканомікі галоўным звяном пабудовы Царства нябеснага (камунізму) на Зямлі. Яны паспрабавалі перайсці ад статыкі да асаблівага тыпу дынамікі, заснаванай на планавай арганізацыі ўсіх бакоў жыцця.

Традыцыйнае грамадства бальшавікі разбурылі, але грамадства мадэрну не стварылі. Вынікам іх намаганняў стаў сацыяльны феномен — гарадскі жыхар з сялянскай свядомасцю. Як спажывец новых тавараў, феномен апынуўся вельмі паспяховы, але як іх распрацоўшчык і вытворца — не.

Сталінская дыктатура — прыклад дыктатуры развіцця. Задачу індустрыялізацыі яна вырашыла. Кошт рашэння — асобнае пытанне. Але адна справа, арганізаваць масавую вытворчасць абмежаванага тыпу вырабаў, заснаваную на прымітыўных тэхналагічных аперацыях, і зусім іншае — сучасную постіндустрыяльную вытворчасць. Усе спробы арганізаваць яе па-за межамі канкурэнтнай эканомікі праваліліся.

## Нічога новага, нічога арыгінальнага

Але вернемся да першай цытаты АП. Паўтару яе апошні сказ: «Агрэсіўныя напады на асновы маралі робяцца адной са злавесных прыкметаў сучаснасці».

Цікава, што аўтар такога катэгарычнага сцверджання разумее пад «мараллю»? Адказу на гэта пытанне ў мяне няма, але, паводле Барыса Дубіна, сацыёлага Левада-Цэнтра: «Мараль — гэта неабходнасць і здольнасць уключаць іншага чалавека як іншага, зыходзячы з таго, што ты — свабодны, самастойны і сталы індывід, але і любы іншы такі ж».

Калі мы пагодзімся з такім вызначэннем маралі, то будзем вымушаныя прызнаць, што мараль несумяшчальная з традыцыйнымі каштоўнасцямі. І мы будзем мець рацыю. Нямецкі сацыёлаг Георг Зімель яшчэ ў пачатку XX стагоддзя сцвярджаў, што мараль як механізм адказнасці і салідарнасці ўзнікае ва ўмовах выпадзення індывіда з традыцыйных супольнасцяў. Маральным можа быць толькі чалавек, які робіць асабісты выбар у складаных і супярэчлівых умовах. Менавіта такога чалавека і такія ўмовы апісвае літаратура эпохі мадэрну.

Таму дзеянням ісламскіх фанатыкаў бессэнсоўна даваць маральныя ацэнкі. Свет ісламу і ў XXI стагоддзі працягвае жыць па сярэднявечных нормах, якія не ведаюць індывідуальнай адказнасці.

У традыцыйным свеце ісламу тыя ж праблемы, што і ў беларускай «большасці». Ён не можа ўпісацца ў мадэрн, таму знаходзіцца пад пастаянным ціскам з боку культур, што генерыруюць дынаміку. Але калі тыповы прадстаўнік беларускай «большасці» на знешнія выклікі адказвае дэградацыяй (алкагалізм, наркаманія, бытавая злачыннасць і г.д.), то ісламскі фанатык — агрэсіяй.

І, падводзячы рысу, адзначу, што нічога новага і арыгінальнага АП не выказаў. Лідары палітычных рэжымаў, не здольных да развіцця, абвінавачвалі, вінавацяць і будуць вінаваціць «гнілыя» ліберальныя дэмакратыі ў распусце, супрацьпастаўляючы ёй здаровы пачатак, адраджэнне нацыі і дзяржавы, вяртанне да традыцыйных каштоўнасцяў.

# Якія перспектывы ў беларускага рубля?

Генадзь КЕСНЕР

**Ад пачатку года беларускі рубель кінуўся ў танцы. Што пацвярджае шматлікія прагнозы: нічога светлага і стабільнага 2016 год беларускаму абывацелю не нясе.**




Курс беларускага рубля то абвальваецца на неверагодныя працэнты, то зноў ускоквае, нібы ўджалены. Што ж чакаць нашаму няшчаснаму рублю далей? Ці можна мроіць пра хоць нейкую стабільнасць айчыннай валюты? Звернемся да экспертаў.

Аналітык «Ліберальнага клуба» Антон Болтачка лічыць, што не правільна цяпер звяртаць увагу на кароткатэрміновыя ваганні беларускага рубля. Сёння ёсць магчымасці меркаваць, што беларускі рубель будзе губляць сваю вагу цягам бягучага года. Але, кажа суразмоўца, пра гэта сведчылі і беларускія ўлады. «З іншага боку, тая валацільнасць, якую мы назіраем, ёсць вынікам таго, што існуюць праблемы не столькі з курсаўтварэннем, колькі з эканомікай, якая так рэзка рэагуе як на знешнія, так і на ўнутраныя чыннікі», — адзначае Болтачка.

У сваю чаргу, старшы аналітык кампаніі «Альпары» Вадзім Іасуб увязвае перспектывы айчыннай валюты з дынамікай коштаў на нафту і з курсам расійскага рубля. Пік падзення беларускага рубля супаў са зніжэннем кошту на нафту маркі «Brent» да 27 долараў за барэль, пасля чаго нафта «адыграла» да 32 долараў за «бочку». На тле росту коштаў на нафту ўмацоўваўся і расійскі рубель, канстатуе эксперт, таму рос і беларускі рубель.

Тут варта нагадаць, што наш рубель прывязаны да кошыка валют, дзе еўра і долар маюць па 30%, а расійская валюта — 40%, таму апошняя мае большы ўплыў на курс.

«Казаць пра далейшую дынаміку дастаткова цяжка, бо і надалей яна будзе залежаць ад дынамікі коштаў на нафту. Ёсць адчуванне, што нафта ўжо зараз блізу свайго дна, яна наўрад ці ўпадзе ніжэй за 27–25 долараў за барэль. Хаця і прычынаў для росту коштаў на нафту пакуль няма, — лічыць эканаміст. — Верагодна, што ў сярэднетэрміновай перспектыве расійскі рубель застанецца на прыблізна цяперашніх узроўнях, таму без нейкай яскрава выражанай дынамікі застанецца і рубель беларускі».

Аднак, не выключае Вадзім Іасуб, калі нафта або скокне ўверх, або, наадварот, абваліцца, прычым істотна, лёс беларускага рубля можа быць зусім іншы.

Замежныя эксперты выказваюць меркаванне, што кошты на нафту сёння ў літаральным сэнсе залежаць ад надвор'я ў ЗША, якія фактычна замяло снегам на ўсходнім узбярэжжы Атлантыкі, уключна з Вашынгтонам і Нью-Ёркам.

«Гэта кароткатэрміновы надвор'евы чыннік, які можа павялічыць попыт на нафту ў ЗША, але ён наўрад ці штосьці істотна мяняе ў сусветным балансе нафты. Само па сабе надвор'е ў ЗША не можа развярнуць доўгатэрміновы трэнд падзення коштаў на нафту, які цягнецца ад 2014 года, да іх росту. Больш за тое, шматлікія гульцы на нафтавым рынку працяглы час наўмысна гулялі на зніжэнне коштаў на «чорнае золата», цяпер яны атрымалі істотныя прафіты і пачынаюць іх фіксаваць, яны пачынаюць адмаўляцца ад здзелак на паніжэнне коштаў, што і прывяло да «адскоку» нафты», — канстатуе старшы аналітык «Альпары».

Ён дадае, што галоўным чыннікам сёння на рынку з'яўляецца перавага прапановы нафты над яе попытам. «Гэты чыннік застаецца ў сіле, і казаць пра нейкі разварот трэнду яшчэ пакуль вельмі рана», — мяркуе эксперт.

Але ў абменных пунктах Беларусі не назіраецца людскіх натоўпаў, якія набываюць валюту. На думку Антона Болтачкі, у насельніцтва больш няма грошай, каб іх мяняць на валюту ў ранейшых памерах. «Памеры прыбыткаў людзей, па сутнасці, скарацілі памер той увагі, які беларусы надаюць курсу нацыянальнай валюты. Хаця за змяненнямі сочаць, бо разумеюць, што гэта ў той ці іншай меры адлюстроўвае іх пакупніцкую здольнасць на тле іншых краінаў», — адзначае эксперт.

А ці варта зараз беларусам пасля ўсяго, што адбылося і адбываецца, так ужо хвалявацца наконт курсаў валют?

Антон Болтачка мяркуе, што гэта залежыць ад стратэгіі кожнага асобнага чалавека. «Калі ёсць някепскія прыбыткі, высокія памеры збережэнняў, то, натуральна, варта прапрацоўваць пэўную стратэгію. Але калі вы атрымліваеце сярэдні заробак і ваша норма збераджэнняў даволі нізкая, як у сярэднім па краіне, то тут хвалявацца асабліва не трэба. Але доўгатэрміновыя збераджэнні варта ўсё ж рабіць у больш моцнай валюце. Аднак у бягучых момантах, якія мы назіраем апошні тыдзень, нічога занадта страшнага пакуль няма», — падсумаваў эксперт «Ліберальнага клуба».

# Багданкевіч: Заробкі могуць знізіцца да ўзроўню пачатку 1990-х

Юрась ДУБІНА

**Нават 6 мільярдаў крэдытаў, якія афіцыйны Мінск просіць у Расіі і МВФ, не здольныя выправіць сітуацыю ў эканоміцы, яны дазволяць толькі захаваць статус-кво.**

Сярэдні заробак у снежні 2015 года склаў 7 мільёнаў 424 тысячы рублёў, ці 412 долараў. Фактычна снежаньскі заробак параўнальны з зарплатай на студзень 2015 года. Аднак з улікам студзеньскай дэвальвацыі, сярэдняя зарплата за снежань 2015 года ўжо ўсохла да 344 долараў.

Параўнаем з тым, што было год таму: у снежні 2014 года сярэдняя зарплата ў Беларусі склала 6 мільёнаў 805,9 тысячы рублёў, або амаль 619 долараў. Фактычна за год сярэднестатыстычны беларус страціў амаль 207 долараў.

Чаму сярэдні заробак абваліўся за адзін толькі год на 200 долараў? Якія перспектывы чакаюць беларускія заробкі ў 2016 годзе? Сваім меркаваннем з чытачамі НЧ падзяліўся экс-старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч.

— Прычыны падзення заробкаў агульнавядомыя. Эканоміка падае: на 4% упаў валавы ўнутраны прадукт, па афіцыйных звестках, упала прамысловасць на 7%, упала вытворчасць сельскай гаспадаркі амаль на 3%, упала прадукцыйнасць працы. Ідзе эканамічны абвал, выкліканы нерэфармаванасцю эканомікі, працай на склад, стратнай дзейнасцю флагманаў беларускай прамысловасці: МАЗ, МТЗ, БМЗ...

Агульны ўпадак эканомікі, калі ўлады не робяць высноў, палітычнага абнаўлення кіроўнага апарату не адбываецца, а прэзідэнт каторы раз кажа, што не дапусціць ніякіх рэформ, адмова ад якіх і прывяла да ўсеагульнага збядненння насельніцтва.

***— Беларускі рубель увайшоў у топ–9 найбольш нявыгадных валют для інвестыцыяў па выніках 2015 года. Паводле падлікаў «Bloomberg», нашы грошы за год абясцэніліся на 42%. Як інфляцыя адлюстравалася на заробках?***

— Рубель абясцэніўся не на 42%, а на 57% паводле афіцыйных звестак. На абясцэньванне рубля паўплывала многа фактараў. Адзін з іх — сёння Нацбанк не мае магчымасці манеўру з-за адсутнасці золатавалютных рэзерваў. Чыстыя золатавалютныя рэзервы (чыстыя валютныя запасы) складаюць сёння толькі два мільярды долараў, а толькі дзяржаўныя плацяжы сёлета — тры з лішнім мільярды. А калі дадаць сюды яшчэ плацяжы банкаў на пагашэнне сваіх запазычанняў, то доўг даходзіць да сямі мільярдаў. Рэзерваў няма, эканоміка падае, дык і валютны курс таксама мусіць падаць. Нават ва ўмовах, калі ён вызначаецца попытам і прапановай. Знешнегандлёвы баланс нібыта амаль збалансаваны, але не збалансаваны плацежны баланс — трэба плаціць даўгі.


Фота bel.sputnik.by

Улады просяць 6 мільярдаў знешніх крэдытаў: 3 — ад Расіі і 3 — ад МВФ. У выпадку атрымання грошай сітуацыю палепшыць не ўдалося б, але захавалі б статус-кво. Але без рэформаў (Лукашэнка зноў паўтарыў, што не дапусціць ні палітычных, ні эканамічных рэформаў) нам не даюць крэдыты ні на ўсходзе, ні на захадзе. А значыць, мы асуджаны на падзенне ўзроўню жыцця.

Я гляджу па сабе: пенсія не расце, а цэны на медыкаменты нават па афіцыйных звестках павялічыліся ледзь не на траціну, цэны на спажывецкім рынку растуць пастаянна. Аб'яўлена, што ва ўмовах падзення сусветных коштаў на энергарэсурсы ў Беларусі растуць кошты для грамадзян, спажыўцоў: на электраэнергію — на 20%, на газ — на 20%, камунальныя паслугі — на 30%. Ідзе паступовае, але няўхільнае збядненне людзей.

Спадзяюся, што, нягледзячы на малапісьменныя заявы пра недапушчэнне рэформаў, улады ўсё ж пачнуць шавяліцца. Але ў гэтых умовах пагаршэнне ўзроўню жыцця людзей будзе працягвацца. І валютны складнік таксама будзе падаць, але наколькі — цяжка прагназаваць.

Хацелася б спадзявацца, што нарэшце будзе прынята рашэнне пра структурныя пераўтварэнні, звязаныя найперш з палітычным складнікам. Улада мусіць трымаць справаздачу перад выбаршчыкамі. А значыць, адбудзецца кадравае абнаўленне ўраду, дырэктарскага корпусу: кадры ёсць, толькі сістэма застыла, яна грунтуецца на ўчорашнім дні — атрымліваць разам з Расіяй даходы ад завышаных цэнаў на нафту і газ.

***— Але цяпер, напэўна, цяжка прагназаваць верагоднае дно падзення заробкаў?***

— Безумоўна, заробкі можна давесці да ўзроўню 1991–1995 гадоў. Але тады разваліўся Савецкі Саюз, і кіраўніцтва, у тым ліку і я, дэ-факта мусілі рабіць структурную перабудову вытворчасці. У 1991 годзе 40% беларускай прамысловасці працавала па заказах Міністэрства абароны СССР. СССР ляснуўся — і заводы спыніліся. Але тагачасны абвал быў выкліканы аб'ектыўнымі фактарамі, а зараз абвал ідзе па суб'ектыўных фактарах: улада не разумее, што адбываецца ні ў свеце, ні ў беларускай эканоміцы.

# Замест ЦТ — Вільня, Прага і Варшава

**Вучні выпускных класаў Беларусі ўжо ва ўсю рыхтуюцца да паступлення, выбіраюць ВНУ, удзельнічаюць у рэпетыцыйным тэставанні. Аднак некаторыя могуць абраць для паступлення не беларускія, а замежныя вышэйшыя навучальныя ўстановы. Ці лёгка адразу пасля школы з'ехаць далёка ад дома? Пра гэта расказалі яшчэ нядаўнія абітурыенткі, а цяпер студэнткі вядомых еўрапейскіх ВНУ.**

**Яна Шынкевіч, студэнтка Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (Вільнюс, Літва)**

Над рашэннем паступаць за мяжу Яна разважала 2 гады. Зрабіць канчатковы выбар было вельмі складана. Аднак у гэтым вялікую ролю адыграла тое, што апроч бацькоў у Беларусі дзяўчыну амаль нічога не трымала.

— *Спачатку я хацела паступіць у беларускую ВНУ, потым у еўрапейскую. Затым зноў і зноў змяняла сваё рашэнне. Думаю, калі б не бацькі, я ўвогуле не вызначылася б. Яны ніколі мяне не абмяжоўвалі ў выбары: «Не спадабаецца — вернешся ў любы момант». Ды ўрэшце я магу даволі часта ездзіць дадому, асаблівай праблемы ў гэтым няма,* — распавядае Яна.

ЕГУ дзяўчына абрала таму, што, па-першае, спачатку гэта быў сапраўдны беларускі ўніверсітэт, які знаходзіўся ў Мінску. І толькі ў 2004 годзе ВНУ перанеслі ў Вільнюс. А па-другое, дапамаглі знаёмыя, якія распавялі Яне шмат чаго цікавага пра спецыфіку навучання, далейшыя магчымасці і яскравае студэнцкае жыццё.

— *Я вучуся на праграме «Сусветная палітыка і эканоміка». Гэтая спецыяльнасць сапраўды ўнікальная, таму што ўжо праз чатыры гады я атрымаю адразу два дыпломы: бакалаўра палітычных і эканамічных навук. У Беларусі я наўрад ці знайшла б нешта падобнае.*

*Наогул, мне вельмі хвалілі ЕГУ, і зараз я разумею, чаму. Шмат распавядалі пра магчымасці распрацоўкі ўласных праектаў у краінах Еўропы і Азіі. Напрыклад, калі ты прадстаўляеш план такога праекту, і ўніверсітэт лічыць, што яго можна рэалізоўваць далей, ты атрымліваеш поўнае фінансаванне першага этапу. Цябе забяспечаць усім неабходным (транспартам, валанцёрамі, памяшканнем, абсталяваннем і г.д.)*

*Мне падабаецца, што студэнтаў тут няшмат. Магу сказаць, што ўжо праз 2 месяцы вучобы я пазнаёмілася з 80% студэнтаў як сваёй ВНУ, так і Літоўскага ўніверсітэта, у будынку якога мы займаемся.*

Падчас паступлення цяжкасці падпільноўвалі Яну паўсюль. Дзяўчына не магла канчаткова вырашыць, на якую праграму хоча паступаць. Яшчэ давodзілася на ўсялякі выпадак рыхтавацца ў школе да ЦТ і паралельна да ўступных экзаменаў у ЕГУ, пра якія раней дзяўчына амаль што нічога не ведала. Здаваць трэба было эсэ і УРТ (удасканалены маўленчы тэст).

— *Асабіста мне было сапраўды складана. Эсэ, напэўна, было маёй галоўнай праблемай. Я не магла нават вызначыцца з тэмай. Таксама не ведала, якую замежную мову абраць для вывучэння. Выратаваннем сталі курсы падрыхтоўкі ў цэнтры «Прапілеі». Яны сапраўды дапамаглі з усім разабрацца,* — падзялілася цяперашняя студэнтка.

Пра сваё канчатковае рашэнне Яна ніколькі не шкадуе. У будучыні плануе працягнуць вучобу ў магістратуры, каб атрымаць больш вузкую спецыяльнасць.

— *Мне ўсё тут падабаецца, я ўсім задаволеная. Канешне, хацелася б пасля вучобы вярнуцца ў Беларусь, але, калі я буду ўпэўнена, што ў Еўропе змагу лепей уладкавацца, абяру другі варыянт. Тым, хто хоча паступаць за мяжу, магу сказаць адно — не сумнявайцеся і змагайцеся да апошняга, гэта варта ўсіх цяжкасцей!*


Яна Шынкевіч

**Кацярына Мардачова, студэнтка Інстытута моўнай і прафесійнай падрыхтоўкі Карлава ўніверсітэта (Прага, Чэхія)**

Пытанне аб атрыманні адукацыі за мяжой Каця разам з бацькамі разглядала яшчэ з сёмага класа, і Чэхія была не першай краінай, якая трапіла ў спіс яе жаданняў. Разглядалі яшчэ Англію, Нямеччыну, Аўстрыю і Польшчу, але ў выніку спыніліся менавіта на Чэхіі.

— *Гэта было наша сумеснае з бацькамі рашэнне. Першым такі варыянт мне прапанаваў тата. Хоць у апошні час ён і спрабаваў адгаварыць мяне паступаць за мяжу. Як усе бацькі, хваляваўся, ці не высветліцца раптам, што медыцына наогул не мае, а ўжо аддадзена столькі сіл… Хацеў, каб я паспрабавала спачатку тут, на радзіме, але ўжо было позна, я канчаткова вырашыла з'язджаць.*

У Чэхіі школьная падрыхтоўка для паступлення ў ВНУ займае прыкладна 13 гадоў. А правам паступлення валодаюць толькі выпускнікі гімназій або сярэдніх спецыяльных школ. Людзі з іншых краін маюць такія ж магчымасці, як і грамадзяне Чэхіі. Ад замежнікаў патрабуюць дыплом або атэстат, веданне чэшскай мовы і сур'ёзныя ўступныя экзамены па профільных прадметах згодна з еўрапейскай школьнай праграмай. Навучанне на чэшскай мове для замежных грамадзян увогуле бясплатнае. Таму зараз Каця вучыцца ў Інстытуце моўнай і прафесійнай падрыхтоўкі Карлава ўніверсітэта (ІМПП КУ) і вывучае фізіку, хімію, біялогію і чэшскую мову, каб паступіць у гэтую ВНУ летам.

— *Паступаць збіраюся на медыцынскі факультэт. У Беларусі, канешне, нядрэнная падрыхтоўка медыкаў, але ўсё ж такі бясплатная адукацыя і дыплом еўрапейскага ўзору — рэчы важкія, таму абрала ВНУ менавіта ў Еўропе,* — тлумачыць дзяўчына.

З'язджаць за мяжу Каці было зусім не страшна. І планаў вяртацца дадому пасля вучобы пакуль што ў дзяўчыны няма.

**Да выбару ВНУ Арына падышла таксама з адказнасцю. Вялікую ролю адыгралі наяўнасць патрэбнай спецыяльнасці на англійскай мове, двайны дыплом (Польшчы і Англіі) і, безумоўна, рэпутацыя ўніверсітэта**

— *Падчас вучобы ва ўніверсітэце планую вывучыць яшчэ і нямецкую мову і пасля заканчэння працаваць у Нямеччыне ці Аўстрыі. А вярнуцца… а сэнс з'язджаць, каб потым вяртацца? У мяне была магчымасць, і я яе выкарыстала. Галоўнае толькі, каб было жаданне! Калі яно ёсць, тады і страху перад чымсьці невядомым не будзе, і магчымасці знойдуцца. А калі не імкнуцца, можна ўсё жыццё прасядзець дома і прапусціць усе свае шанцы.*


Кацярына Мардачова

**Арына Руткус, студэнтка Універсітэта Лазарскага (Варшава, Польшча) сумесна з універсітэтам Ковентры (Вялікабрытанія)**


Арына Руткус

Арыне падумаць аб паступленні за мяжу прапанавала мама. Дзяўчына вельмі ўзрадавалася такой магчымасці, адразу пачала шукаць адпаведны жаданням-талентам універсітэт і ў выніку абрала Універсітэт Лазарскага ў Польшчы.

— *Я да самага ад'езду не разумела, што ўсё сур'ёзна, што буду вучыцца далёка ад дому. Але мама была ўпэўнена ў маіх здольнасцях. Ды і потым ужо не было куды бегчы, з'явілася пачуццё адказнасці. Карацей, вочы баяцца, а рукі робяць.*

Да выбару ВНУ Арына падышла таксама з адказнасцю. Вялікую ролю адыгралі наяўнасць патрэбнай спецыяльнасці на англійскай мове, двайны дыплом (Польшчы і Англіі) і, безумоўна, рэпутацыя ўніверсітэта. Універсітэт Лазарскага — адзін з вядучых універсітэтаў бізнесу і права ў Еўропе, які нязменна знаходзіцца ў пяцёрцы лепшых польскіх прыватных універсітэтаў.

— *Праграма, на якой я вучуся, мае назву «Міжнародныя стасункі і еўрапеістыка». Усяго ў гэтым універсітэце ёсць чатыры англамоўныя праграмы, якія праводзяцца сумесна з брытанскім універсітэтам Ковентры. А гэта азначае, што ў выніку выпускнік атрымлівае два дыпломы — польскі і брытанскі. І мая праграма — адна з такіх.*

Асаблівых цяжкасцей падчас паступлення не ўзнікла. Здаваць трэба было англійскую мову, але без разумення гісторыі і матэматыкі далей вучыцца вельмі складана.

— *Самае дзіўнае, што цяжкасцей сапраўды было няшмат. Напэўна таму, што знайшла «сваё месца». Да здачы экзамену практычна не рыхтавалася, бо з англійскай мовай праблем ніколі не было. Калі так падумаць, то самае складанае — прызвычаіцца да іншай сістэмы навучання. Ну, яшчэ адна цяжкасць — транспарт. Звычайна думаю, што даеду, куды патрэбна, а потым апынаюся незразумела дзе. Я гэта вельмі люблю,* — усміхаецца студэнтка.

Сістэма адукацыі, як распавядае Арына, вельмі адрозніваецца ад беларускай. Пачынаючы ад адносінаў з выкладчыкамі і заканчваючы спосабамі праверкі матэрыялу.

— *Па-першае, выкладчыкі не ставяцца да цябе суб'ектыўна. Яны выкладаюць, і ўсё на гэтым. Таксама яны могуць прызначаць час, калі пазаймаюцца з табой і адкажуць на індывідуальныя пытанні. Такі час адмыслова існуе ў кожнага выкладчыка. Па-другое, тут праходзіць шмат канферэнцый, імпрэзаў. Прыязджаюць прафесары з Турцыі, Брытаніі і г.д. Запрашаюцца людзі з розных фірм, кампаній, якія ў будучым могуць забяспечыць цябе працай. Па-трэцяе, дазволена гаварыць пра што хочаш, калі хочаш і дзе жадаеш. Тут наогул няма забароненых тэм. Таксама многія выкладчыкі маюць сваю справу (фірму і г.д.). Уся вучоба пабудавана на практыцы, за веданне тэорыі ты можаш атрымаць толькі 60%, усё астатняе — тваё меркаванне, аналіз, практыка і ўласны вопыт.*

Сур'ёзных планаў на жыццё Арына не будуе, толькі на бліжэйшую будучыню, таму што зараз усё вельмі непрадказальна, і планаваць нешта вялікае сэнсу пакуль няма.

— *Я спадзяюся, што спачатку дасягну чагосьці тут, за мяжой, а потым змагу вярнуцца на радзіму і нешта патрэбнае зрабіць дома. Перад кожным з нас час ад часу адкрываецца шмат магчымасцей, якімі абавязкова патрэбна скарыстацца! Калі-нікалі здаецца, што гэта ні да чаго не прывядзе, але калі не зрабіць гэты крок, можна потым усё жыццё шкадаваць. І такі вопыт дапамагае чалавеку сталець, а гэта вельмі важна.*

**Здымкі з прыватнага архіву дзяўчат**

**Дар'я Мікуліч, adukacyja.info**

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №1 (113)
(студзень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by




## Змест





**У сувязі з інфляцыяй усе кнігі, якія выдаюцца ў Беларусі для рознічнага гандлю, — стратныя**

# Беларуская класіка ў кнігарнях

**Сотні кніг лепшых нацыянальных аўтараў, аформленыя і падрыхтаваныя для чытачоў рознага густу, рознай ступені дасведчанасці і розных фінансавых магчымасцяў, — гэта мроя асобных беларускіх пакупнікоў і звыклая рэальнасць для жыхароў іншых краін. У мінскай кнігарні часта немагчыма знайсці нават творы пісьменніка, уключанага ў школьную праграму і ўзнагароджанага высокімі ацэнкамі літаратуразнаўцаў.**

Пра прычыны абмежаванай прадстаўленасці беларускай класікі на кніжным рынку краіны распавядаюць загадчык гандлёвага аддзелу ААТ «Белкніга» Святлана Гук і дырэктар выдавецтва «Беларускі кнігазбор» Генадзь Вінярскі.

### Святлана Гук: «Прапагандаваць трэба больш!»

***— Спадарыня Святлана, чым тлумачыцца адсутнасць на паліцах кніг вядомых беларускамоўных пісьменнікаў?***

— У рэспубліцы існуюць дзве дзяржаўныя мовы. Большасць насельніцтва традыцыйна чытае кнігі на рускай мове. Улічваючы агульны спад цікавасці да чытання, запатрабаванасць беларускамоўных кніг таксама зніжаецца. Вядома, гэта не спрыяе актыўнай падрыхтоўцы новых выданняў. ААТ «Белкніга» — кнігагандлёвае прадпрыемства, асартымент якога цалкам залежыць ад выдавецкіх планаў. Мы прадаем тое, што зроблена выдавецтвамі.

***— Які працэнт складаюць беларускамоўныя выданні ад прададзеных кніг? Што можна сказаць пра попыт на беларускамоўную літаратуру?***

— Попыт стабільны, але абмежаваны. Гэта дзіцячая кніга, кнігі па школьнай праграме і пазакласным чытанні, літаратура культурна-гістарычнага напрамку. Беларускамоўныя выданні складаюць каля 3% ад прададзеных кніг.

Звернемся да канкрэтных дадзеных. Самыя паспяховыя мастацкія кнігі за 8 месяцаў 2015 года: «Вінаваты зоркі» Д. Грын (прададзена 923 экз.), «50 адценняў шэрага» Э.Л. Джэймс (836 экз.). Выпрабаванне агнём» Д. Дэшнера (678 экз.). Што тычыцца серыі «Беларускі кнігазбор», то за чатыры месяцы прададзена 95 экземпляраў «Выбраных твораў» Н. Мацяш. На працягу года рэалізавана 59 кніг А. Кулакоўскага, на працягу двух гадоў — 119 кніг Міхася Лынькова. Супастаўце лічбы нескладана...

***— Ці ўплываюць запыты пакупнікоў на асартымент кніг у канкрэтных кнігарнях? Ці перадаецца інфармацыя пра цікаўнасць да пэўнага аўтара ў беларускія выдавецтвы?***

— Запыты і пажаданні пакупнікоў заўсёды ўлічваюцца пры фарміраванні асартымента кніг у гандлёвай кропцы, але хацелася б, каб непасрэднай сувязі было больш. Інфармацыя пра цікаўнасць да пэўнага аўтара перадаецца падчас штодзённых зносін з супрацоўнікамі выдавецтваў.

***— А якія кнігі, што адсутнічаюць на складах выдавецтваў, вы хацелі б прапанаваць пакупнікам?***

— Пералік гэты можа быць доўгім. Назавем паэму Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра», аповесць Максіма Гарэцкага «Дзве душы», байкі Кандрата Крапівы, аповесць Івана Шамякіна «Гандлярка і паэт». З літаратуры для малодшых школьнікаў — гэта кнігі «У краіне райскай птушкі» Янкі Маўра, «Прыгоды бульбобаў» Паўла Місько, «Зямля пад белымі крыламі» Уладзіміра Караткевіча, кнігі серыі «Сем цудаў Беларусі» Уладзіміра Ягоўдзіка і Анатоля Бутэвіча.

***— Ці можа стаць рэальнасцю мара пра шырокі асартымент беларускіх кніг?***

— Гэта здзейсніцца, калі чытач-пакупнік будзе стабільна цікавіцца беларускай літаратурай. Толькі тады канкрэтныя кнігі будуць запатрабаваныя, а выдавецтвы пачнуць друкаваць разнастайную літаратуру на любы густ і розную ступень дасведчанасці.

***— Хто, на вашу думку, павінен больш займацца рэкламай сучасных беларускіх пісьменнікаў: выдавец, кнігарня, бібліятэка ці сам аўтар?***

— У гэтым пытанні ключавое слова не «хто», а «больш»: усе зацікаўленыя асобы і арганізацыі (аўтар, выдавец, кнігарня, бібліятэка, тэлебачанне, СМІ) павінны сумеснымі намаганнямі прапагандаваць беларускую кніжную культуру.

### Генадзь Вінярскі: «Кожная кніга — стратная»

***— Многія школьнікі і студэнты чытаюць класіку па выданнях «Беларускага кнігазбора». Але знайсці ў продажы том Цёткі ці Змітрака Бядулі сёння ўжо немагчыма. Ці ёсць у выдавецтва практыка дадрукоўкі, давыдання кніг, наклад якіх ужо разышоўся?***

— Такой практыкі няма, бо няма гарантый на хуткі продаж дадрукоўкі. У сувязі з інфляцыяй усе кнігі, якія выдаюцца ў Беларусі для рознічнага гандлю — стратныя. Па бухгалтэрыі выданне дае прыбытак, але насамрэч грошы, выручаныя з продажу, вяртаюцца ў выдавецтва як мінімум праз паўгады. На гэтыя сродкі такую ж кнігу ўжо не акупіш, бо і кошты на паперу ды іншыя паліграфічныя матэрыялы няўхільна растуць.

***— Было б выдатна пабачыць на паліцы кнігарні ўсе калісьці выдадзеныя ў «Кнігазборы» «выбраныя творы». Хіба няздзейсная гэтая мроя беларускага філолага?***

— Каб захоўваць усе тамы з больш чым з 70-ці выдадзеных, трэба спецыяльна выводзіць з абароту вялізную суму грошай, якія пайшлі на выданне гэтай часткі накладу. Друкаваць вялікія наклады, каб кнігі прадаваліся гадамі — нерэальная раскоша, якую не можа дазволіць сабе, бадай, ніводнае выдавецтва.

***— Як размяркоўваюцца кнігі «Беларускага кнігазбору» між кнігарнямі і бібліятэкамі?***

— Некаторыя кнігі серыі «Беларускі кнігазбор» выдаюцца праз «Беларускую навуку» і атрымліваюць дзяржаўную датацыю. Дзве трэці накладу такіх кніг (сацыяльна-значнай літаратуры) бюджэт аплочвае для бібліятэк. Для кніг без дзярждатацыі на бібліятэкі ў лепшым выпадку прыпадае 200–300 асобнікаў. Астатнія трапляюць у продаж.

***— А якія наклады ў вашым выдавецтве?***

— На вялікі жаль, наклады беларускіх кніг пастаянна памяншаюцца. Калі не ўлічваць бібліятэкі, то праз кнігагандаль магчыма рэалізаваць да 500 асобнікаў кнігі прозы і да 300 асобнікаў паэзіі. Прычым калі аўтар раскручаны ці даўно не выдаваўся. Змяншаецца колькасць пакупнікоў беларускамоўнай кнігі, дый узровень жыцця не высокі...

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Прэмія імя Цёткі

**Дабрачынны фонд «Вяртанне», Беларускі ПЭН-цэнтр і Саюз беларускіх пісьменнікаў заснавалі новую літаратурную прэмію — Прэмію імя Цёткі за найлепшую кнігу для дзяцей і падлеткаў.**




Прэмія імя Цёткі (Алаізы Пашкевіч) будзе ўручацца ў дзвюх намінацыях: за найлепшы твор для дзяцей і падлеткаў (незалежна ад роду літаратуры — проза, паэзія, драматургія — аўтару арыгінальнай беларускай кнігі) і за найлепшае мастацкае афармленне кнігі (мастаку-ілюстратару).

У кожнай намінацыі будзе вызначацца адзін пераможца, заахвочвальных прызоў не прадугледжваецца. Кожны пераможца атрымае грашовую ўзнагароду, эквівалентную 2000 $ паводле курса Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Больш падрабязную інфармацыю можна знайсці на сайце ciotka.by, дзе размешчаны статут прэміі.

Каб падаць кнігу на конкурс, трэба запоўніць форму на сайце ciotka.by. Заяўляць кнігі на конкурс могуць выдавецтвы, аргкамітэт прэміі, члены журы, а таксама сам аўтар або мастак і наогул любы зацікаўлены чытач.

Апякункай прэміі за найлепшую беларускую кнігу для дзяцей і падлеткаў абраная Алаіза Пашкевіч (Цётка), аўтарка «Першага чытання для дзетак беларусаў», стваральніца першай беларускай школы ў Вільні, што запачаткавала масавую беларускамоўную адукацыю, рэдактарка часопіса для дзяцей і моладзі «Лучынка».

У 2016 годзе — годзе ўручэння першай Прэміі імя Цёткі — беларусы будуць ушаноўваць 140-годдзе з дня нараджэння Алаізы Пашкевіч, а таксама 110 гадоў з выхаду «Першага чытання для дзетак беларусаў».

**Паводле http://pen-centre.by**

# «Майн Кампф» вяртаецца?

**Кніга Адольфа Гітлера «Майн Кампф» («Mein Kampf») не перавыдавалася ў Германіі 70 гадоў — да 31 снежня 2015-га правы на яе належалі зямлі Баварыя.**

Цяпер публікаваць яе можа хто заўгодна, але толькі з крытычнымі каментарамі.

І вось 8 студзеня паступіла ў продаж аб'ёмная праца мюнхенска-берлінскага Інстытута гісторыі (Institut für Zeitgeschichte): над 3700 каментарамі, якімі суправаджаецца «карычневая біблія», гісторыкі працавалі шэсць гадоў.

Адольф Гітлер напісаў вялікую частку кнігі ў 1924 годзе — калі адбываў турэмны тэрмін пасля няўдалага «піўнога путчу». Да 1945-га наклад выдання дасягнуў 12 мільёнаў асобнікаў. Пасля самагубства Гітлера забароненая да перавыдання кніга стала рарытэтам.

На наступны дзень пасля пачатку продажаў новага крытычнага выдання, у «Berliner Morgenpost», якая прысвяціла «Майн кампф» паласу, было апублікавана інтэрв'ю з настаўнікам, які неадназначна ставіцца да таго, што хутка, магчыма, «святую кнігу» нацыянал-сацыялістаў уключаць у школьную праграму Берліна і Брандэнбурга.

Тым не менш, «яго барацьба», забяспечаная даведкамі, картамі ды ілюстрацыямі — усім тым, што павінна зрабіць хлусню і падтасоўкі небяспечнымі, а дрэнную літаратуру больш займальнай, раніцай 8 студзеня гэтага года паступіла ў продаж у многія крамы — і ў самую вялікую Берліна «Dussmann». Кошт — 59 еўра.

Фаліянт на 2000 старонак не заўважыць немагчыма. У раздзеле «Нацыянал-сацыялізм» згаданай крамы — біяграфія Гітлера, кніжка пра Гебельса, Халакост, Нюрнбергскі працэс...

— А дзе «Майн кампф»? — сарамліва, нібы пра парнаграфію, пытаюся ў супрацоўніцы.

Яна таксама збянтэжаная, але да пытання гатовая: «А няма ўжо».

— Раскупілі?

Размаўляць з журналістамі супрацоўнікам крамы забаронена, таму мяне звязваюць з прэс-службай «Dussmann».

— Алё? Тут цяпер руская прэса. Не-не, не здымаюць. Без камеры.

Спрабую высветліць, ці будзе кніга ў краме «жыўцом». Прэс-служба адказвае, што будзе, але не сёння і не заўтра, бо ўзніклі праблемы з дастаўкай: «Выдаўцы не разлічылі, што будзе такі велізарны попыт, наклад жа невялікі, усяго чатыры тысячы».

А толькі папярэдніх замоў на кнігу было 15 000, і ўжо ў студзені плануюць другое і трэцяе выданне, каб задаволіць усе запыты. Не 12 мільёнаў, вядома, але ўсё ж...

...Прэзідэнт Габрэйскага сусветнага кангрэса Рональд С. Лаўдэр успрыняў распаўсюджванне галоўнага дакумента нацысцкай прапаганды вар'ятствам: «Гэтую кнігу трэба замкнуць у шафе з іншымі ядамі».

**Вольга Гердт, www.lenta.ru**

# «Воляй абраны»

**У бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» — новы том. Шэсцьдзясят восьмым выпускам серыі стала кніга Анатоля Бароўскага «Воляй абраны», раман пра паўстанне 1863–1864 гадоў у Беларусі.**




Гістарычны раман Анатоля Бароўскага працягвае айчынную каліноўскіяну: следам за творамі Аркадзя Куляшова, Уладзіміра Караткевіча, Алеся Якімовіча, Уладзіміра Арлова, Алеся Наварыча з'яўляюцца ўсё новыя і новыя кнігі. Цікавасць да падзеі нядаўна была актывізаваная святкаваннем 150-годдзя паўстання Кастуся Каліноўскага супраць Расійскай імперыі.

У сваёй кнізе Анатоль Бароўскі засяродзіў сваю ўвагу на каханні кіраўніка паўстання і яго нарачонай Марыі Ямант, якое яны пранеслі праз віхуры і здзекі, вытрымаўшы і перамогшы, выстаяўшы і даказаўшы, што вышэй гэтага пачуцця нічога ў свеце не існуе.

Паралельна, як сцвярджае анатацыя да кнігі, «аўтар паспрабаваў разабрацца ў тым, чаму вызвольнаму паўстанню, нават задоўга да пачатку яго, была наканавана параза. І — перамога. Бо імя Каліноўскага і яго духоўны подзвіг застануцца ў памяці нашчадкаў на вякі...».

**Прэс-служба СБП**

# Другая кніга пра Шэрлака Холмса па-беларуску

**У Бібліятэцы часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum» дзякуючы актыўнай падтрымцы чытачоў выйшла другая кніга Артура Конана Дойла з серыі пра Шэрлака Холмса — «Нататкі пра Шэрлака Холмса» (выдавецтва «Кнігазбор»).**

Сродкі на выданне кнігі цягам двух месяцаў збіраліся праз краўдфандынгавую платформу Talaka.by, яе падтрымалі больш чым 100 чалавек. Першая кніга з гэтага цыклу, «Прыгоды Шэрлака Холмса», выйшла год таму.

«Нататкі пра Шэрлака Холмса» — зборнік з дванаццаці апавяданняў пра ангельскага дэтэктыва. Паводле задумы Дойла, надрукаваныя ў 1894 годзе «Нататкі» мусілі завяршаць цыкл твораў пра Шэрлака Холмса — так з'явілася апавяданне «Апошняя справа Холмса». Аднак чытачы не дазволілі аўтару забіць героя, а таму гісторыя з прафесарам Марыярці — апошняя ў гэтым зборніку, але не ў цыкле.

«Вялікія дэтэктывы, як і вялікія злачынцы, заўсёды вяртаюцца: хоць гэты свет недасканалы, дабро несумненна мусіць перамагчы зло, хай сабе і цаной падзення ў Райхенбахскі вадаспад. Шэрлак Холмс — гэта першы супергерой, і таму цана, якую ён мусіць заплаціць за спакой на зямлі, адпаведная. Але хай чытач загадзя не расстройваецца: усе вялікія дэтэктывы ўрэшце вяртаюцца. Вернецца і гэты».






# Успаміны Віктара Шведа

**Выйшла кніга ўспамінаў Віктара Шведа. Яе выдавец — праграмная рада тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва». Кніга ахоплівае перыяд ад дзяцінства паэта да 90-х гадоў мінулага стагоддзя.**

Віктар Швед хоча напісаць і другі том успамінаў, які ахопіць яго беластоцкі перыяд жыцця ў час бурных пераменаў у Польшчы.

— Я марыў заўсёды, каб апрача сваіх вершаў, пакінуць след сваімі ўспамінамі. І калі пачаў пісаць, дык аказалася, што ўжо 300 старонак, дайшоў да 90-х гадоў. Прашу Бога, каб дазволіў мне закончыць успаміны, каб змог выдаць другую частку сваіх успамінаў.

Віктар Швед — паэт, перакладчык, журналіст, а цяпер і мемуарыст. Нарадзіўся 23 сакавіка 1925 года ў вёсцы Мора. Сузаснавальнік Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. У 2015 годзе быў узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны.

**Радыё Рацыя**

# Зімовая літшкола

**З 8 па 13 лютага ў Карпатах (вёска Мікулічын, Івана-Франкоўская вобласць) вядомыя літаратары падзеляцца з пачаткоўцамі пісьменніцкім вопытам і майстэрствам. Украінскі «Цэнтр літаратурнай адукацыі» абвясціў прыём заявак на «Другую зімовую літаратурную школу».**

Лектары — вядомыя і прафесійныя пісьменнікі, выдаўцы, літаратуразнаўцы і культурныя мянэджэры: Юры Андруховіч, Кацярына Бабкіна, Юрый Іздрык, Галіна Крук, Андрэй Куркоў, Васіль Махно, Святаслаў Памяранцаў, Тарас Прахаська, Расціслаў Сёмка.

Тэма сёлетняй Літшколы — «Як пісаць кароткую прозу».

А яшчэ — гэта 6 дзён цікавага і карыснага адпачынку і навучання ў Карпатах, нефармальныя зносіны з пісьменнікамі і аднадумцамі, незабыўныя ўражанні і новыя знаёмствы.

У праграме 20 гадзінаў лекцый і майстар-класаў, 5 практычных заняткаў, аналіз і абмеркаванне тэкстаў удзельнікаў, 3 літаратурныя вечары і барбекю-паці, 3 паходы ў горы, 3 экскурсіі і шмат нефармальных зносінаў з лектарамі і ўдзельнікамі.

«Школьнікі» даведаюцца аб тэарэтычных аспектах літаратурнай творчасці і авалодаюць практычным інструментарыем напісання кароткай прозы. Лектары раскажуць, як ствараць персанаж, сюжэт, структуру і кампазіцыю тэкста, як працаваць над мовай, стылем і мастацкімі дэталямі, як навучыцца крытыкаваць уласныя тэксты, як зацікавіць выдаўцоў, адкуль браць натхненне, як знайсці чытачоў і сваё месца ў літаратурным працэсе...

Каб стаць удзельнікам украінскай Літшколы, трэба запоўніць рэгістрацыйную анкету: https://goo.gl/AydHaK. Колькасць месцаў абмежаваная — 30 чалавек. Кожны ўдзельнік плаціць арганізацыйны ўнёсак.

# Алхімік беларушчыны

**Да круглых датаў можна ставіцца па-рознаму, але як мінімум яны ёсць нагодаю згадаць значную падзею альбо добрага чалавека. Адным са слаўных людзей, пра якіх варта казаць і помніць, быў і ёсць нядаўні 75-гадовы юбіляр — празаік, эсэіст і публіцыст Кастусь Тарасаў.**



Быў ён карэнным мінчуком, інтэлігентам у другім пакаленні (хаця пасля школы паспеў папрацаваць слесарам і калектарам) і напачатку жыццёвага шляху крочыў дынастычнай сцяжынай — ягоны тата Іван Міхайлавіч, вядомы вучоны-хімік, выкладаў у Беларускім палітэхнічным інстытуце. Хіба што пасля заканчэння слаўнай навучальнай установы Кастусь не стаў за выкладчыцкую кафедру, а зноў «пайшоў» у вытворчасць, працаваў майстрам-гутнікам ды тэхнолагам.

Мабыць, творчы лёс перавызначыла яму, тагачаснаму 16-гадоваму юнаку, сустрэча з неардынарнай асобай, са знакамітым мінскім інтэлектуалам і дысідэнтам Кімам Хадзеевым. Пазней, у свой віцебскі перыяд жыцця, Кастусь Тарасаў пачаў супрацоўнічаць з газетамі як пазаштатнік, а ў 27 гадоў стаў рэдактарам у сталічным выдавецтве «Вышэйшая школа». Потым працаваў у газетах «Знамя юности», «Літаратура і Мастацтва», «Свабода», у часопісах «Нёман» і «Спадчына», на студыі «Беларусьфільм», ачольваў уласнае выдавецтва «Лекцыя», стаў адным з заснавальнікаў газеты «Новы Час».

Як пісьменнік дэбютаваў Кастусь Тарасаў даволі позна — у 36 гадоў апублікаваў у «Нёмане» дэтэктыўную аповесць «Следственный эксперимент». Пасля былі кнігі аповесцяў і апавяданняў у гэтым папулярным жанры, але знакамітым празаік прачнуўся, калі апублікаваў зборнік гістарычна-літаратурных эсэ «Память про легенды», які потым неаднаразова дапаўняўся і перавыдаваўся. Аднак несумненна, што акрамя гэтага бестселера настаўнікі і выкладчыкі гісторыі павінны былі б настойліва рэкамендаваць вучням і студэнтам кнігу «Беларусь: Гістарычнае падарожжа для дзяцей», а таксама ягоны «Меч памяці. Крыж лёсу: Кароткі спіс войнаў, паўстанняў, рэпрэсіяў, катастрофаў, якія выпалі на лёс Беларусі за тысячагоддзе».

Пры сваім 70-гадовым жыцці Кастусь Тарасаў не меў асаблівых званняў і рэгалій. Прэмія Міністэрства абароны СССР была прысуджаная яму за раман «Пагоня на Грунвальд» напачатку гарбачоўскай перабудовы. У 2007 годзе часопіс «Дзеяслоў» прысудзіў Кастусю Тарасаву свой «Залаты апостраф» за аповеды «Брыгіткі» і «Нячутныя гукі самоты». Беларускі ПЭН-цэнтр паспеў ушанаваць яго прэміяй імя Францішка Багушэвіча з пачэснай фармулёўкай «За актыўную і плённую працу ў галіне гістарычнай прозы і эсэістыкі, што спрыяе фармаванню сучаснай нацыянальнай ідэнтыфікацыі беларусаў» (усцешана згадваю гэта, бо ахвотна галасаваў за тое як тагачасны сябра Рады Пэн-цэнтра).

Але, мабыць, самай вялікай узнагародаю празаіку сталіся чытацкія любоў і ўдзячнасць.

«Імя Кастуся Тарасава (1940–2010) у беларускай літаратуры стаіць побач з імем Уладзіміра Караткевіча. Гістарычныя творы гэтых знакамітых пісьменнікаў цудоўна дапаўняюць адзін аднаго. Калі Караткевіч уваскрашаў атмасферу і каларыт даўніны, то Тарасаў даваў другое жыццё рэальным гістарычным асобам, — пісаў пра свайго старэйшага калегу Уладзімір Арлоў. — Кастусь Тарасаў неверагодна глыбока ведаў і адчуваў гісторыю — і яе матэрыяльны свет, і патаемныя рухі чалавечай душы. Яго лёгка ўявіць і ў баявым шыхце рыцараў Вялікага Княства Літоўскага на Крапівенскім полі, і ў велікодным віленскім натоўпе часоў Жыгімонта Аўгуста і Барбары Радзівіл».

Сапраўды, менавіта ў раманах і аповесцях Кастуся Тарасава паўсталі мастацкія вобразы такіх магутных і выбітных постацяў айчыннай гісторыі, як Вялікія князі ВКЛ Міндоўг і Вітаўт Вялікі, як полацкая княгіня Рагнеда, як нясвіжскія князі Радзівілы.

Кастусь Тарасаў, хімік паводле адукацыі, стаўся алхімікам, бо гістарычныя дакументы, жыццёвыя назіранні і гутаркі з літаратарамі ператвараў у залатыя сваіх твораў, як магутны арагай, нястомна, мужна і ўпарта ўзворваў дзірван гістарычнага бяспамяцтва.

Тарасаўская «Пагоня...» прысвечаная гераічнаму супрацьстаянню агрэсіі Тэўтонскага ордэна і векапомнай Грунвальдскай бітве, у якой тэўтонцы былі разбітыя ліцвінскімі і польскімі харугвамі. Раман па-ранейшаму карыстаецца поспехам у пакупнікоў і чытачоў, мабыць, і таму, што помняцца нядаўнія святкаванні з нагоды 600-годдзя слаўнай перамогі пад Дубровай крaін-спадкаемцаў Кароны і Вялікага княства.

Вельмі інтрыгуючая назва і ў аповесці «Апошняе каханне...», бо да трох кітоў (гісторыя, прыгоды, дэтэктыў), на якіх стаяў пісьменнік, дададзена і неардынарная love story — уражлівая гісторыя кахання. А некаторыя адмыслоўцы бачаць значнасць аповесці ў тым, што ў ёй як нідзе глыбока дасследаваныя адносіны ўладара да ўлады, адказнасць за яе і за лёсы падданых людзей.

Абазнанаму чытачу няцяжка здагадацца, што ў «Скарбах князёў Радзівілаў...» гаворка вядзецца найперш пра пошукі дванаццаці легендарных скульптурных залатых апосталаў з Нясвіжскага замка...

І ўсё ж, падаецца мне, наш выдатны пісьменнік покуль што недаацэнены, недарасчытаны. Ёсць у нас такія вучоныя-караткевічазнаўцы, як Анатоль Верабей і Пятро Жаўняровіч, а ці з'явяцца тарасавазнаўцы? Хто і калі асэнсуе і як след ацэніць ролю, адыграную Тарасавым як пісьменнікам-нацыятворцам і дзеячам нацыянальна-дэмакратычнага руху, апантаным, паводле ягонага паплечніка Аляксея Караля, гісторыяй і беларушчынай? Цяпер выходзіць 25-тамовы збор твораў Уладзіміра Караткевіча, але верыцца, што калісьці пабачыць свет сямі- ці дзесяцітамовік Кастуся Тарасава.

Дзякаваць Богу, праявай гістарычнай справядлівасці ў адносінах да аўтара твораў на гістарычную тэматыку ёсць і сённяшняя ўвага выдаўцоў. Тры гады таму выбраныя творы Кастуся Тарасава выйшлі ў «Беларускім кнігазборы». Зацікавілася ягонай творчай спадчынай і выдавецтва «Папуры». У дэмакратычнай паводле коштаў і паліграфіі серыі айчынная класіка «Мая беларуская кніга» пабачылі свет ужо два тамы — «Пагоня на Грунвальд» і «Апошняе каханне князя Міндоўга», а яшчэ адзін — «Скарбы князёў Радзівілаў, альбо Обер-аўдытарская праверка ў Нясвіжы» — анансаваны да выдання.

Творчая спадчына пісьменніка далёка не вычарпаная, бо некаторыя ягоныя рэчы выходзілі толькі па-руску, некаторыя — толькі ў часопісных альбо інтэрнэт-версіях, а створанае Кастусём Тарасавым вымагае сёння далейшага ўдумлівага, надзвычай прыемнага і займальнага чытання.

**Уладзімір Сіўчыкаў**

# Юбілей школы

## Зірк на сябе!

...Трэба ж так перахваляваццa! Сяджу ў актавай зале. І крыху ўперадзе ад дзвярэй. Як і намервалася. Так зручней неўпрыкмет выйсці. Уцячы ад празмернай музыкі. Толькі неспакой.

А ў зале яшчэ ціха. Сям-там гледачы. Перада мной настаўнікі... І раптам!!! Зірк на сябе. Дык я ж забылася апрануцца па-святочнаму, прыбрацца. Уся зашоргалася на месцы: могуць вось-вось выклікаць на сцэну. Ужо як бы гатовы аб'явіць пачатак. Паклічуць! Што рабіць? Пад нейкім верхнім (плашчыкам?) вопратка хатняя, штодзённая. Прыглядаюся. Можа яшчэ можна хуценька ўскочыць на сцэну, гэтак жа бягом сказаць вершамі... Мацаю тое, што відаць з-пад верхніх рукавоў. Шэрае, аж нейкае зашмальцаванае. Дадому блізка. Але ж часу... І тут мой страх — скок вачыма на ногі! Адзін чаравічок, другі тэпаць. І мяне падхоплівае. І я выбягаю.

Калідораў шмат. Іх трэба прабегчы, упісацца ў павароты. Ужо і думкі закрапаліся. Але нейкая штурхае шукаць Зою Аляксандраўну (тут бачыла нядаўна). Дзе ж класны пакой? Можа з ейнага пляча што?... Напрыклад, блюзачка якая. Але ж спадніца?... На цёмным выдзяляюцца плямкі. Ногі мае!!!

Калідоры, лесвіцы. Канца няма. На нейкім павароце — загарода. Чапляюся за яе, спускаю ногі ў праём. Скокнула! І ўдала. Вакол светла. І прыбіральшчыцы ходзяць. На вуліцы ветрык, воля. І я бягу.

Можа, ужо выклікаюць на сцэну? Падвяла! Ніну Анатольеўну, завуча! Што ж я нарабіла?!

На гэтым пытанні да самой сябе прачынаюся. Сэрца працуе на ўсю падушку. Яшчэ восем на гадзінніку. А на юбілейную вечарыну (школе — 70 гадоў) — у шаснаццаць гадзін.

## Віншаванні Падсвільскай юбілярцы

У фае сустрэліся з Нінай Анатольеўнай. Яе постаць рухам сваім выяўляла радасць.

— Распранайцеся! І бліжэй да сцэны!

Навошта да сцэны, думаю? Ля дзвярэй — самае месца. Каб толькі не занялі. Лаўлю сябе на смяшынцы: можа, я яшчэ ў тым сне?

А ў зале — людзі: большыя і меншыя. Тонкія і танейшыя. Тоўстыя і яшчэ таўсцейшыя. Тры-чатыры аб'ёмныя. І, нават, не выпускнікі школы. Але заўважыла аднаго аднакласніка. Мажнага. Школьнікаў мала. Усе, мусіць, засяроджаны на канцэртнай праграме. Калідор поўніцца шоргатам і галасамі. І музыка. Але яшчэ (дзіўна) шчымлівая, вальсовая.

Прыладзілася на прыстасаванай лаве. Побач два юнакі (яны за ўвесь час шоу не ўсміхнуцца сцэне). Тут я ўспомніла, што і мне, пэўна ж, прызначана роля ў праграме. Дабразычлівіца, у якой спытала, кінулася высвятляць, і тут жа паведаміла:

— У праграме вы ёсць. Аб'явяць. У тым месцы, дзе тры чалавекі. Першая — Людміла Акуневіч... Пачуце!

І бухнула ўрачыстасць. Пракаціўся пералік дарагіх, найшаноўных гасцей — кіраўнікоў (агульна-галоўных і з розных арганізацый). Апладысменты рэхам ударылі ў столь. Школа вітала сваіх спонсараў. І тыя ўзаемна, будучы ўжо на сцэне, лагодзілі школу і словам, і падарункам.

Узяць пад увагу толькі граматы... Каштоўныя натхняльныя паперы трапілі ў рукі і настаўнікаў, і повараў, і іншых працоўных гэтай асветніцкай гаспадаркі. Кожны заслужэнца трымаў узнагароду, як птушку за хвост. Ва ўрачыстых абставінах птушка заўсёды відаць. Яна ўвасабляецца ў настрой — адчуванне значнасці, прыналежнасці да агульнай хвалы.

Віншаванні школе то гудзелі, то шчабяталі. З рознай напругай, мелодыяй, хваляваннем. У залежнасці ад асаблівасцяў кожнага характара, прывычкі, пасады, асвоенасці. За прыклад ці не ўзяць выступ Анатоля Вацлававіча, які паказаў трэніровачную здольнасць памяці па засваенні тэксту прамовы. Бо ўрачыстасць патрабуе эфекту — выступу без паперкі. Гэта нялёгка. Столькі бурыльчыкаў-вачэй насупраць. Яны і рост вымяраюць, і пранізваюць гальштук, і, нават, дрыжыкі ў руках ці каленях фіксуюць.

А натапыраныя вушы? Ведаюць жа, што ўсе гэтыя прамовы аднакапыльныя. Дык не: раптам цішынёй так агорнуць, што да апошняга нерва дакрануцца.

Вацлававіч, можа, ніколі не здаваў рапарту па памяці, працуючы ў пажарнай ахове, А тут — на табе! Старшыня мясцовага выканкама, фігура немаўчальная. Адны выступы. Выступіў, як здаў экзамен.

## Вецер у бярозе голай

А што так гняце мяне сёння? Так точыць грудзі? Можа, тое, што снілася тыдзень назад? Дык не — я ж сёння апранутая ў лепшы (шакаладны) касцюм. І вунь як свята разняволілася віртуознымі выхадамі вядоўцаў. І стараннем юных выступоўцаў.

Душна. Чацвёртая гадзіна (слоў і музыкі) ідзе. Можа, зноў сон?.. А ці не разгадка папярэдняга? Гэта ж вопратка залы так сціснула маю душу, дзе ніводнага роднага слова ў юбілейнай праграме. Як і не было мовы. Мільгнула толькі песня. Пыхнула, як ранішняе неба, з вакальнай групы музычнай школы. Дык у вакале — сябра ТБМ Мікалай. Гэтую песню, можа, прадчувала мая душа? За ёй ішла сюды?

І Мар'ян (былы матэматык Падсвільскай юбіляркі) адной хвілінкай змякчыў сцэну: «Кветкі — настаўнікам! Грошы — вучням! За мову родную на алімпіядзе...»

Ах, яшчэ Людміла Акунявец (на завяршэнні свята) пачала «речь» з беларускага эпіграфа. Затое на фуршэце беларускамоўны паэт з райцэнтра — Алесь Жыгуноў — прачытаў верш на рускай мове. Мабыць, каб не псаваць школьную праграму? І — бягом дадому.

У галаве круціцца кавалак аўтографа:

*Восень. Каля нашай школы —*
*Вецер у бярозе голай...*

...Усё роўна падаравала дзіцячую кніжку школе.

**Марыя Баравік**

# Са спадчыны

Завяршыўшы падрыхтоўку рукапісу пасмяротнай кніжкі барысаўскай паэткі Таццяны Зіненка, як нешта торкнула мяне яшчэ раз тузануць яе былых сяброў і знаёмых: а раптам што з літаратурнай спадчыны яшчэ ў каго адшукаецца… Адразу ж адгукнулася вядомая пісьменніца Алена Брава, якая тым часам якраз сыходзіла з мясцовай райгазеты, прапанаваўшы наастатку скарыстацца доступам да архіваў і падшывак. І літаральна праз два дні даслала мне выяўленыя з літаратурных старонак гэтага выдання за 1980–90-я гады каля чатырох дзясяткаў вершаў паэткі. Пятнаццаць, на мой погляд, пачаткоўскіх і шараговых тэкстаў я адкінуў пры рэдагаванні, астатнія, падзяліўшы на два цыклы — лірыку кахання і грамадзянскія матывы, — прапаную чытачам «Літаратурнай Беларусі» і часопіса «Дзеяслоў». Тым жа, хто хоча мець пасмяротную кніжку Таццяны Зіненка «Зазімны парк» (уключна з успамінамі), раю дачакацца яе выдання…

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**



Таццяна ЗІНЕНКА

## Сябе з каленяў уздыму

* * *

*І я, пакінутая Вамі,*
*кахаю Вас яшчэ мацней.*
*З усіх пакінутых людзей*
*і я, пакінутая Вамі.*

*І мне адной цяпер лацвей*
*блукаць бязлюднымі шляхамі.*
*І я, пакінутая Вамі,*
*кахаю Вас яшчэ мацней.*

* * *

*Аб камень грудзьмі і аб неба вачыма*
*заб'юся, спалюся, каб толькі кахаць.*
*О, то — немагчыма! Зусім немагчыма,*
*што будзем мы розна і жыць і ўміраць.*

*І мудрасць вялікіх, і вечныя мроі*
*мяне не ўратуюць, вядома, о, не!*
*Вы купіце лепшыя, новыя строі*
*і будзеце жыць і не жыць без мяне.*

*А я без дазволу, а я без прынукі*
*за Вамі наўслед як ніхто палячу.*
*Без Вас не знайду я ні гора, ні мукі,*
*а я толькі гора і мукі хачу.*

### Маё каханне

*Не супакойвайце мяне.*
*Дарэмна шчодрае стараннe.*
*І не кажыце, што міне*
*маё адзінае каханне.*

*Не сунімайце гэтых мук*
*сваёй прадбачлівасцю шчырай,*
*бо не народзіць іншы гук*
*мая захопленая ліра.*

*Але калі на тым агні*
*згараць яшчэ раней,*
*чым здрада,*
*майго кахання карані, —*
*ну што ж…*
*Я буду нават рада.*

### Карагод пачуццяў

***Неабходнае***

*Па кладцы вузенькай і дрогкай*
*іду супроць людскіх вачэй*
*да Вас. І нельга мне шпарчэй*
*па кладцы вузенькай і дрогкай.*

*А не ісці было б лягчэй…*
*Ды я жыву, пакуль нялёгка.*
*Па кладцы вузенькай і дрогкай*
*іду супроць людскіх вачэй…*

***Неймавернае***

*Не бачыць Вас — жаданая раскоша.*
*Сыйду з вачэй — і Вас пазбаўлю болю:*
*Няхай бы мы не стрэліся ніколі.*
*Не бачыць Вас — жаданая раскоша.*

*Жывіце доўга — Вы такі харошы,*
*а я кахаю цяжка: аж няволю!*
*Сыйду з вачэй — і Вас пазбаўлю болю.*
*Не бачыць Вас — жаданая раскоша.*

***Недасяжнае***

*Нам не сустрэцца ў Дзень сустрэчы нашай,*
*бо зноўку выпадае перашкода!*
*Усцешымся, пакуль яшчэ нам шкода,*
*што не сустрэцца ў Дзень сустрэчы нашай.*

*Вы не марнейце, бо віна не Ваша.*
*А недасяжнасць — чым не асалода?*
*Нам не сустрэцца ў Дзень сустрэчы нашай,*
*бо зноўку выпадае перашкода…*

### Чаму вы не побач

*Чаму Вы не побач надоечы новай вясны?*
*А сонца так многа, аж вусцішна, што захлынуся.*
*Я ж толькі да Вас аднаго немінуча хінуся:*
*чаму Вы не побач надоечы новай вясны?*

*Няўжо Вас так доўга трымаюць зімовыя сны?*
*Пайшла б Вам насустрач, але размінуцца баюся.*
*Чаму Вы не побач надоечы новай вясны?*
*А сонца так многа, аж вусцішна, што захлынуся…*

### Кліча хлопец дзяўчыначку к сабе на параду

***(Паводле народнай песні)***

*Мяне ты хочаш разгадаць?*
*Лягчэй не можа быць нічога:*
*калі «Забудзь!» прамоўлю строга,*
*ты не спяшайся забываць.*

*Ну, а калі пачну клясці,*
*пакрыўджу так, што й не бывае, —*
*скажы: «О, як яна кахае!» —*
*і ад сябе не адпусці.*

*Як паланянку сцеражы,*
*каб я няспынна прагла ўцёкаў*
*і пацяшалася здалёку,*
*што ты, нарэшце, мне чужы.*

*А ты ў адказ не патурай,*
*а проста будзь са мной не згодны! —*
*скажы: «Чужы? — Дык гэта ж родны!» —*
*і не марудзь, а — даганяй!..*

### Прадчуванне

*А што, калі зараз адчыняцца дзверы*
*і з'явішся ты на парозе жытла?*
*І я не паверу, ужо не паверу,*
*што столькі чакала — і нават… жыла.*

*А што, калі зараз адчыняцца дзверы?..*

### Пяшчота

*Пяшчота плешча цераз край*
*з маёй душы неспадзявана,*
*і я кажу табе: «Ўцякай! —*
*пяшчота плешча цераз край…»*

*А ты насустрач неслухмяна*
*ідзеш і просіш: «Не знікай!»*
*Пяшчота плешча цераз край*
*з маёй душы неспадзявана…*

### Незавершаны верш

*Як ты шкадуеш мне цёплых калінавых слоў:*
*нават імя вымаўляеш аднымі вачыма.*
*Можаш мяне пакідаць ты мільёны разоў,*
*а назаўсёды пакінуць мяне немагчыма…*

* * *

*А гэтае жыта*
*нам хлеб усё роўна народзіць.*
*Хоць ты мяне ў ім*
*цалаваць не схацеў —*
*не пасмеў.*
*А гэтае сонца*
*як наша каханне — заходзіць,*
*але не знікае,*
*як мудры народны напеў.*

*Мы больш, чым кахаем.*
*Мы камень аб камень з табою —*
*гара да гары*
*і бяссонныя ўздыхі начэй.*
*І мне абдымацца*
*лягчэй з несхадзімай зарою.*
*О, мой велягур!*
*І табе не са мною лягчэй.*

*А хутка, мой любы,*
*з табой па чарзе мы сканаем.*
*Я недзе ў дарозе,*
*а ты — на чыіхсьці руках.*
*І ўспыхне сузор'е*
*над нашым зажураным краем*
*і будзе пакутаваць*
*потым за нас у вяках…*

* * *

*Якая ты харошанькая, Божа!*
*Якія мы з табою: дзень і ноч.*
*Ты просіш: «Збоч».*
*О як ты просіш: «Збоч!» —*
*Я саступаю.*
*Бог табе паможа.*

*Але калі пад ветразем начы*
*ты да яго прытулішся бясплотна*
*і будзе Вам бязлітасна халодна,*
*тады ўжо я не памагу нічым.*

* * *

*Я ўсіх астатніх уздымала*
*таму, што падала сама.*
*Ды толькі так, як я кахала,*
*кахае верасень зіма.*

*І недасяжна, і так блізка.*
*І не пакінуць, не забыць.*
*Вось і гайдаецца калыска,*
*ў якой адвечны боль мой спіць.*

*Не разбудзіце ж яго, людзі,*
*той боль мацней, чым недавер.*
*Я так баюся, што мне будзе*
*яшчэ балючай, чым цяпер.*

*Я так баюся, бо на свеце*
*мне зразумела ўсё даўно.*
*І толькі вецер, толькі вецер*
*настыла стукае ў акно…*

* * *

***Г. А.***

*Не прасі палёгкі, мой каханы,*
*супакой ты знойдзеш у другой.*
*Не такія я гаіла раны.*
*Разлучуся, любы, і з табой.*

*Адчарнеюць хутка твае вочы,*
*і заб'ецца сэрца спакайней.*
*А мае рабінавыя ночы*
*стануць і журботней і цямней.*

*І калі аднойчы на пагорак*
*людзі панясуць маю труну, —*
*не заплачуць.*
*Проста пагавораць*
*пра мяне, гаротніцу, — адну.*

*Ой, няхай гавораць. Толькі б гэта*
*праўда не зрабілася маной:*
*што любіла я ў сабе паэта*
*і цябе за тое, што не мой.*

* * *

*То не каханне — гэта катаванне.*
*І ты — мой кат — спраўляеш свой прысуд.*
*Вядзеш мяне адну на пакаранне,*
*дзе ўжо даўно сабраўся Божы люд.*

*Але найперш ты скажаш: «На калені», —*
*і я ўпаду. О, як жа я ўпаду…*
*І косамі, забыўшы пра сумленне,*
*той шлях да плахі чыста падмяту.*

* * *

*І з гэтай славай пражыву.*
*І гэту славу не адрыну.*
*І — непрыстойную жанчыну —*
*сябе з каленяў уздыму.*

*А можа й не! А можа й так*
*на гэтым свеце адкахаю —*
*і ўбачаць людзі, што ніяк*
*я ўстаць з каленяў не жадаю.*

*Узняцца раптам? Божа збаў!*
*Зусім дарэмная парада.*
*Бо той жа толькі і ўзлятаў,*
*хто хоць аднойчы нізка падаў!*

**Укладанне і падрыхтоўка да друку Алены Брава і Леаніда Галубовіча.**

# З кнігі «Маё невымаўля»



Наста КУДАСАВА



* * *

*вершалінаў вершалініі —
соснаў роспачнае sos —
я самотаю птушынаю
чую рытмаў вашых рост:
як жукамі-караедамі
словы пад карой свярбяць,
павучынай абэцэдаю
тчэцца вершавая бязь,
як радок бурштынам свеціцца
на хваінавай руцэ —
лес якубаваю лесвіцай
у нябёснае расце...*

* * *

*Заклятыя лютым пілоты,
салдаты ў шыхтах адзіноты,
старое прагорклае праўды
расхрыстаныя касманаўты...
Ляцеце! Сусветы вам пухам!
Айвенгі, магутныя гукам!
Найвышняга выраю горцы,
заклятыя лютым празорцы...*

* * *

*падушка — бо падаць
і тварам, і духам,
балючую вадкасць
з вачніцаў выплюхваць,*

*зрабіцца маленькай
і безабароннай,
абняць за каленкі
сваю абалонку*

*і слухаць, як вулей
капошыцца ў сэрцы,
пакуль не прачнуліся
дзеці*

* * *

*з бярвення ў воку маім
можна скласці хату
і жыць там,
і мацаць далонямі
дзверы шурпатыя,
каханых у ложак класці
бліжэй да сценкі,
каб шэры ваўчок
не ўкусіў за бачок,
каб і ім прызвычайваць зрэнкі
да жытла,
у якім і паліць, і кахаць
па-чорнаму,
бо колькі б дурную мяне
не вучылі вучоныя,
я ўсіх маіх высілкаў лес
адпраўляю на дровы,
і дзіўлюся дагэтуль сама,
але сон тут харошы,
здаровы.*

* * *

*падаліся лістападамі
ўсіх лістоў маіх адчаі
там дзе давяраюць радыё
не зважаюць на маўчанне
зазімую ж як даводзіцца
ў золаце вялікай моўчы
хай на стромах галалёдзіцы
падрасце мой дух сірочы*

* * *

*закунежыла б —
важнага, кніжнага,
толькі чую ўсім сэрцам —
не выжыву!
не ўратуюся — быць пераможанай!
моўкнік недатыкальны,
варожы мой!
чым ты прываражыў мяне, сцюжную,
што шалею ў пякучым нядужанні?
і за можнага межы
сплываю,
нечакана адчуўшы —
жывая...*

* * *

*выспяваем у спеве —
галасоў каласы.
не пытай, хто пасеяў
нас у полі пустым,
не схіляйся,
бо шэрань
хутка ўсходы дзяўбе, —
да астатняга зерня
спей сябе.*

## Кудаса

*выдзьму твае спадзевы,
дзеі прыцерушу,
вусцішнай каралевай
выстуджу ўсю душу.*

*лепей адразу здайся
і не хавай ключы:
ад варажбы кудасы
моўкніку не ўцячы.*

*выцалую ўсе вершы —
заледзянее рот,
будзеш, жабрак бязвешні,
стыць халастым нутром.*

*я на кавадлах віру
лёс твой перакую —
будзеш насіць як вырак
злую любоў маю!*

## Горадзе наш

*горадзе наш,
атулі, сагрэй,
але не судзі, не важ.
закрый ад людзей,
сам стань ля дзвярэй,
горадзе, схове наш...
дай нам даніць гэты лёс нагбом,
смутак наш забялі,
ты ж ведаеш, горадзе,
толькі любоў
трымае мяне на зямлі.*

## Цеціва

*цела маё цеціва
робіцца ўсё напяцей.
хутка танчэе канва
музы,
жанчыны,
маці.
счэзне і спрыт,
і грым,
жончын забег,
і дочкін,
толькі б трымаць жывым
пульс стралы
невідочнай.*

*зловяць свой верны рытм
часу ліхія арэлі,
цэль адамкнецца ўгары
і нехта стрэліць.*

* * *

*навальнічнаю сцяной
стаіць адчай.
як жа катаржна адной —
без ні-пляча!
абаперціся б на зліву,
як сцяну,
адпачыць бы ў караблі
чужога сну,
адпусціць бы ўсё, што зроблена
табой —
хай сплывае за парог
ракой рабой...*

* * *

*усе святыні — псам,
мышам і жабкам!
няхай люляюць псальмы
мяккай лапкай,
трымаюць вецер
выдыхам і ўдыхам
у келлях вецця
вечных
дрэваў-мніхаў.
а ты кружы, ніжы
на восень восень,
ды прыйдзе Бог
сняжынкаю
на носе,
лістом сырым,
суніцай
адзінокай,
распяты ў кожным дні
навідавоку.*

* * *

*па ваколіцах-ваконцах
распускаю галасы.
восені камяк бяссонцы
папярок душы застыў.
хто ты, смутак раніцовы,
пераспелая раса?
словы
словы
словы
словы
сыпле мне пад ногі сад...*

* * *

*...а жнівень тут падае
проста на галаў
салодкімі зоркамі алычы
і з разгаданых жаданняў нашых
зорнае варыць сочыва,
ўціскаюцца дні ў жалудовыя цельцы,
дзверы замкнёныя на ключы,
і ціша такая,
што нават сабакі ад вусцішы выюць
па-воўчы.
і ведаеш,
быццам нішто ўжо не б'ецца:
ні дотыкаў ток,
ні сініца ў руках, —
што лепей бы скласці ўсе роспачы ў кош,
не бядуючы болей над коштамі,
і выйсці ў акно,
як выходзяць у восень —
услед за крылом камікадзэ-лістка,
туды,
дзе любоў залівае пакорліва кожнага
і не пытае навошта.*

* * *

*ні бліскучай змяюкай ракі,
ні жуком, ні вавёркай — нікім,
ні ў сабак на душы, ні ў дзяцей,
ні ў малітвах, ні ў кнігах — нідзе,
ні ў самоце пранізлівых станцый
не хачу,
не хачу я застацца.
ні на злосць, ні тым болей на біс
не хачу ў гэтай восені быць,
ні лістом, ні арэхам — нічым.
толькі спаць на тваім плячы...*

* * *

*цёплы хтосьці
пад скурай калоціцца.
цёплы, здзіўлены, хто ты?
непад'ёмная кашалоціца —
б'е хвастом адзінота.
вечар даўкім адчаем зумкае,
вінаградзінай болю.
Госпадзе, вось я — нічыйнарукая.
я не магу так болей.*

## Павучынае

*Павучыны пявучы
даматканы радок —
з тонкіх нітак сугучча
праца роспачных ног.*

*Між натоўпамі малпаў
у краіне кратоў
праца ўпэўненых лапак
над сваім палатном.*

*Кволы восеньскі лётчык,
павучок-чараўнік,
быццам беларабочы,
я сную чыставік,*

*каб ляцела каметай —
чуйнасэрцых маяк!
Вечным бабіным летам
будзе песня мая...*



Марыя ВАЙЦЯШОНАК

# Вышыванкі

## Вечная вясна

Квеценню абсыпаюць голае галлё вербалозаў, сядзяць каля Магдаліны ў ейных нагах, пад плотам царкоўным немаладыя жанчыны. Раніцай, яшчэ холад бярэ, цісне за руку незнаёмцам, толькі што не пытаецца: «Ці не зарана, мае жанчынкі, памянялі сані на калёсы?»

Вёсны, вёсны. Усё лічонае: пяць пялёсткаў ружовых, сярэдзінка жоўтым — і на галінку жывую, не асыпяцца ў падол, не звянуць, калі не прадасі, гэта не маладосць. Толькі ў адной бабулі букет без кветак папяровых, — тавар — жывыя каткі на вярбе, ледзь зацярушаныя першым сонечным пылком.

Як праз парог пераступіць, адразу трапляю па гэтым холадзе вясновым да дваюродных сясцёр, і двойчы родных, і тройчы, і бясконца, ужо аўдавеўшых, немаладых. Скарэй, скарэй, я вас здыму, не трэба строіцца, апошні кадр! Але дзе? У якім мейсцы, каб жа аблюбаваным?

Сад! У пустым яшчэ садзе ўтрох, у нечым будзённым, шэрым. Леташняя трава сівой поўсцю.Такія рухавыя заўсёды, век ім няма часу, а тут не спяшаючыся, падыйшлі, каб патрапіць, лучыць у такую рэдкую хвіліну часу, што выпала — любілі здымацца.

І можна здагадацца, што ў садзе вясна па тым, як сёстры падышлі да яблыні; дрэва, пэўна, прачнулася — яны чулі: па-жаноцку, цнатліва, пляччо да ягонага пляча, сталі, быццам ужо настроіліся здымацца, абцерлі вусны, наламаўшы здзіўленае брыво — згадзіліся застацца ў маёй вечнасці, як стой, у тым самым, будзённым, у чым да каровы, ці да свіней, нічога адмысловага — з даверам.

Але што ў рукі? Што ў рукі ўзяць?

Наламала каторая з іх некалькі галінак з коцікамі каля хлявоў дзеля прыгажосці, вядома: да валасоў ці да твару, да сачыка, да паўбурносіка, коцікі з-пад снегу, маразоў, з-пад доўгай зімы, як за пазухай каторай з сясцёр беражоныя.

І наогул, нязвыкла без нічога ў руках, ці каб быццам дзеля забавы, каб выдавалася, што час бавіцца.

Дрэва ці куст, ці кветка — за галінку трымацца, як дзіця за руку.

Толькі праз гады, разглядаючы здымкі, заўважыла, утрапеўшы: сёстры перадавалі букет адна адной, калі я пераключала новы кадр.

Мая ты вербачка...

## Эскіз да партрэта

*Святлане Кліменценка*

Атрымліваю паштоўку. Почырк буйны, з кучарамі, бы лістота дрэва.

Як звычайна, «в первых строках...» — падае мне пад ногі першы... другі... трэці жоўты ліст, цэлы тэкст, што прыйшла восень. Тэкст з вензелямі — ужо падарунак. Словы падабраныя, як упрыгожанні, дарагія, калі пішуць навечна, рыхтык, як пішуць на помніках. І ў канцы: «Прабач, пасля ўдару рука слаба служыць!»

Святлана?!

Ялледзьве пазнаю...успамінаю хутка... У мяне хустка на плячах, раблёная, вядома, дзяўчына з Пушчы. Яна ідзе ззаду, збоку, яна кругa, выратавальнае кола рук ейных, уперад, уперад да рэдактара ў кабінет, да Андрэя Коласа. Што гэта ёсць? Я, надзіва, не губляюся: вясковая настаўніца, дачка польскага асадніка, адразу ў сталічную газету, орган ЦК?! Колас прыняў з ейных рук у рукі, як на пасад.

Так яно і было: мы ў газеце, як замужам, дзень — ноч, дзень — ноч, і па любосці, як кажуць.

Перад гэтым «пасадам» у рэдактара спачатку было высокае крэсла трактара.

Разводдзе, туман умінаўся пад калёсамі, як коўдра, ці можа гэта ўжо аблокі? Зямлі не відаць, калёс таксама, толькі гэты «пасад» — высокае сядло, і над усім. Пільна трэба дастацца да даяркі, кандыдата ў дэпутаты — першая камандзіроўка.

Яна ўзяла мой матэрыял і перапісала, стрэсла з шырокай сваёй спадніцы на падлогу, як шалупакі, мае начныя, пасля паездкі, журналізмы. Ёй хацелася прышпіліць даярцы ў валасы дзьмухавец, і каб кожны абзац пачынаўся гучным акордам. Я не бачыла там на мейсцы дзьмухаўцоў, там наогул не было колераў, гукаў, акрамя трактара з высокім сядлом, не было ценяў, акрамя майго, як прывід.

Асаблівa вандроўка назад: мяне падабраў на Мінск дальнабойшчык, аўтобусаў ужо не было. «Спявай, а то засну» — застагнаў у дарозе. Дзе смяротнікі, ноч, і «товарищ, не в силах я вахту держать...». На развітанне пацісну руку, маўляў, ну вось і «адкачагарылі» разам. Вось аб кім хацелася напісаць і аб трактарысце.

Святлана пачала здалёк, бліжэй і бліжэй, бы музыка на вадзе, і стаіш, абліты святлом поўні, човен срэбны, мандаліна, і мовы не чутно, бо гэта не аб мяне нарысе, а музычнае шоў.

Заўсёды некага носіць на руках, апякае, захапляецца ў рэдакцыі, на вуліцы, у камандзіроўцы. Хустка-крыпанка спадае з галавы ад вечных памкненняў, і наогул — у высшых сферах хустка не ў модзе, там звычайна лаўровы вянок або німб. Век камусьці нясе ўцеху, ці спагаду, спяшаецца, вітаецца здалёк, ужо побач, ва ўсёй постаці нешта мацярынскае, вечнае, усміхаецца, ніколі, каб ёй здрадзіў голас, сарваўся на крык, на свару. Быццам яна жыве напрэч адарваная ад карэнняў быцця: нястачаў, бедаў, скрухі.

Ідучы па калідоры рэдакцыі, доўгім, вузкім, галаву не павярнуць, як воўк, раптам чуеш з ейнага кабінета голас, смех, шчэбет, спынішся, пастаіш, як у сусветнай прыбіральні, таксама усміхнешся і пойдзеш далей, не адразу адрозніш, што запазычана, што тваё, калі спрабуеш быць добрым да ўсіх спарадку і па-боску.



Карціна Яўгенія Мукаўніна

Апошнія хвіліны, вось-вось падымецца фіранка занавесу на сцэне. Не, занавес не падымецца, бо яе яшчэ няма.

Амаль заўсёды заходзіць у залу (любую!) спазніўшыся, як гаспадыня, якая, можа, сустракала важнага госця, а можа, трапіўся бадзялы кот ці сабака, і з ім не ўдалося хутка развітацца. Азірае ўсіх вяльможна, так ідуць пад апладысменты, павольна, уборыста, маўляў, усё добра, усё абавязкова адбудзецца, чаго чакаеш. «О, гэта нехта з вядомых!» — і супакойваюцца.

Яе мала хто ведае, як не ведаем імёны добрых анёлаў ці так каго яшчэ. Заўсёды прычасана, сціпла, вытрымана ў стылі актрысаў нямога кіно ці каралевы англійскай, ці, можа, проста прыбраўшыся на сеанс да мастака, каб закончыць замоўлены партрэт.

Яна несла ў залу перад сабой у абедзвюх руках настрой, як самае галоўнае блюда на гэты святочны час.

Не шукае вачыма знаёмых, таварышаў, сяброваk, проста пануе, святкуе з тым, хто трапіцца побач, каб усім хапіла ўвагі, як каралева. Гаворыць, не саступаючы ніводнаму «замежніку», і толькі па-беларуску, перамяжаючы гаворку кароткім смехам, бы такуючы — запрашае ў сумоўе.

*Не здрадзіш,*
*не згубіш*
*мову, на якой любіш.*

Ніхто асабліва не дамагаўся ейнага сяброўства, зычлівасці, аніхто і не сумняваўся — яна побач, заўсёды. Яе кідалі ў бядзе, забываліся на яе — яна будзе там, на тым мейсцы, дзе ты быў шчаслівы, гэта магчыма, будзьце ўпэўненыя. Побач з ёй адчуваеш сябе нашмат маладзейшым, і справа не ў гадах, проста ты не дарос яшчэ да ейнага стану, правілаў жыцця, да ейных галоўных змыслаў.

Яна ідзе па зале, як па садзе, у якім ніколі не бывае ценяў, ніколі не хавае вачэй — яна ўсіх любіць. І ледзьве ўмоўнае чаканне на твары, чаканне чарговага цікавага героя для газеты.

Ледзь знаходжу даўно запамятаваны нумар ейнага тэлефона.

— Прывітанне! Колькі цяпер часу? У мяне спыніўся гадзіннік, а мне трэба ў рэдакцыю...

Мой самы ўлюбёны час, калі лета, ты сядзіш у садзе, п'еш гарбату. Тонка звініць сухое паветра, бы зярняты ў спелай макавай галоўцы; поўны бутон ружы, цельца цяжкае, цёплае, цэлая прыгаршча, бы злоўленае птушаня; дымны дух пахнючага тытуню; замецены сцежкі сухім лістом, хаца да восені далекавата.

Спякота.

І голас далёкай навальніцы, бы лёгкая трывога...

## Габелен

*Андрусю Горвату*

Ідзе з аўтобуса, як дзяўчо: заплечнік, рукі вісяць, уходаўшыся. Набліжаючыся да хаты, паскорвае крокі, ужо яна як не бяжыць, бачыць здалёк сваю работу, немач пакінутага жытла. Бяжыць. Спыняецца раптоўна, углядаецца, бы з цемры, не зводзячы вачэй з вокан, углядаецца, як у твар.

Маё лецішча насупраць, бачу Тамару з вакна. Я да Бога: «Божа, памажы ты ей, Божа шчыры, памажы...» Іншы раз, каб толькі дзверы яна ў сваёй хаце адчыніла, яна мне быццам толькі дзеля самой хаты.

Наведваецца з горада і малодшая сястра, і брат. І раптам іх ужо і няма, зачынена хата. Не бачна было, не чувалася, каб збіраліся, складалі на падворку торбы, і нязвыкла, каб разам.

Так узлятаюць птушкі, вялікія птахі, займаючы, асеўшы, вялікую прастору.

Пасля іх доўга пустуе луг, поле.

Ноччу пакінутая хата асядала, падбіраючы пад сябе сходкі, бы босыя ногі пад спадніцу. Стары плот рэкне, нахіліўшыся да дрэва, утрымаецца, задрамаўшы на вахце — стары вартаўнік з надламанай кавялой. Начныя гукі, з падпола, з гарышча, цвік зварухнуўся, сцяўся, як хлуд, у дошцы, мыш, размінаючыся з пацуком, зачапіла хвастом семя чарнакораня і ходу ў падмурак.

Ападаюць на зямлю пад ногі празрыстымі матылькавымі скрыльцамі карунковыя дошчачкі, аздоба веранды.

Вось-вось напятая нітка, апошняя сувязь з вёскай, пырсне, парваўшыся, і мне па вачах драцінай.

Няўжо і Тамара, якая вырошчвае яблыню з зернюка, пакіне вёску?!

Мяне, жывучы напроці, цешыць ейная крыклівая гаворка, незласлівыя сваркі з сястрой. Голас гілёвы, то тут, то там, то ў небе. Па тэлефоне ён няўпэўнены, скамячаны, бы

з кішэні, яго трэба яшчэ доўга мяць у руках, хукаць, саграваць сваім дыханнем, качаць, бы цырубалку, свістульку з гліны.

Малодшая раз-пораз ідзе ў сад, пад яблыню, шукае яблык, падыме, абатрэ аб крысо швэдра, круціць у руцэ — з якога боку лепей укусіць? Асалода расцякаецца, капае далоў, яна ўскідвае цёмнае брыво, дзівіцца смаку плода, быццам толькі што першы раз пакаштавала, стоячы побач з Адамам пад райскім дрэвам.

Тамара болей за работай, а то спыніцца ў садзе ці ў агародзе, нічога не робячы, каб набыцца тут, насілкавацца, вачыма, жыватом. Бягом і бягом, спяшаецца заспець пагоду, матчына цяпло, яна яго яшчэ адчувае.

Іншы раз толькі прыехаўшы, і заплечнік не зняла, глядзіць, як тут, што без яе нарабілася, градам, ветрам, дажджом, шукае вінавайцаў, угледзецца нізка, бы яны, сляды, ёсць, недзе тут, пахаваўшыся.

Высвецілася праз хмары вось толькі гэтая пляма на панадворку. Сёстры выходзяць на сонца, чуюць яго ці седзячы за швейнай машынкай, ці з пруткамі, ці гатуючы ежу, выходзяць на ганак, як на ляток, асядаюць на сходкі, пераступіўшы парог. Гэтак і на дождж. І сонца, і вецер, і дождж прыходзяць да хаты, да іх — вёска амаль пустая.

Малодшая, рукі на каленях, глядзіць перад сабой, нерухома, доўга, села асобна, спіной да спіны хаты. Яны ўсе яшчэ, як дзеці, туляцца да хаты, а яна нядужа, яна, як стары чалавек, ей патрэбна помач.

Ізноў іхнія галасы, крыкі, як у птушак — у час гнездавання. Конь Орлік сарваўся, ланцуг ззаду, ляціць па вёсцы, стук капытоў стэпам, пыл ці дым успамінаў. Каня таго ні збыць, ні трымаць, брат пакідае яго ў суседняй вёсцы да выхадных. Звычайна ідуць дамоў напрацаваныя, ёкае селязёнка, і чалавек хакае, дыхаючы — упрогшыся абодва. А то рыхтык выява: конь вядзе гаспадара, трымае, цягне гужам назад, да зямлі, і па зямлі. Той і не ўпіраецца, моўчкі, пакутліва, бы ранены гарадской спакусай, адна нага яшчэ ў стрэмені.

Конь памятае дарогу дамоў лепей.

Тамара ўскочыла з агарода на ганак — дождж! Рукі развяла, трымаецца за касякі дзвярэй, распята, аслабанёна, і сястра побач. Ужо ім нічога не рупіць: дождж, ну і добра! Ая-яй, сена змочыць! Ая-яй, бульбы не ўкапана — ужо гэта іх не турбуе. Гэтай вясной яна клінок зямлі запусціла, ляжыць, дзіка ўтравеўшы.

Стаяць у дзвярной раме, дождж, дзверы з шырокім налічнікам, з акладам. Дождж цёплы, у гэтых водах, як па мне, дык, нараджаецца гарадскі чалавек, мне амаль малазнаёмы, не згадаць, якім ён будзе. Стаяць такія свойскія, усё тут іхняе: і хата, і зямля, і рэчка побач, і лес.

І шалупакі яечка яшчэ пад нагамі, з якога вылупіліся.

Увечары Тамара, адыходзячы на аўтобус: «Усё! Кіну! Хай зарастае! Во малодшая наша ў горадзе: ідзе з Камароўкі, бульбачка ў пакецiку, букецік у руцэ! І харашо! І я не буду ірвацца болей!»

Работу ў горадзе няцяжкую мелі. Гэта, як той казаў, каб толькі дабыцца да апоўдня, як было кароў пасучы, чаргу адбываючы, а пасля палудня, абы сонца павярнула, ужо скора і дамоў.

Ходзіць па садзе, па полі, па завулках старая жанчына — ВОСЕНЬ, адхінуўшы хустку са слабага вуха: ці пяюць тут людзі жніўную? Ці чуваецца тут мова?

Сад. Сад яшчэ трымае ліст. Яблыні, жоўтай рэддзю ахутаны галовы. Сад у задуменні. Сад у маім вакне, не пералiснуць старонку да зімы.

Вецер яшчэ лёгкі, сухі, перабірае кожны ліст, не чапляецца за вугал хаты, не скавыча.

Тамара выйшла з дачкой, вытрасаюць посцілкі, расцягваюць, прастаючы, памытую ў шклянкі, туга трымаюцца за абодва канцы. Тамара адкінулася назад, цяжэйшая, перацягвае дачку, раз-пораз, важка, усім целам правісае, усміхаючыся, бы на мужчынскай руцэ, у танцы, галаву набок, гледзячы ўніз, ці не завысока паднялася спадніца.

Час запавольваецца, дранцвее, спыняецца.

Габелен! Ад ганка да хлявоў! На сходках спынілася малодшая сястра, трэцяя постаць, стаіць быццам блізка, а твару не відно, у цянькy жыве.

Ужо яны ў садзе сярод дрэў, прысадзістыя, постаці старых яблынь каржакаватыя, пераходзяць з мейсца на мейсца, мяняюцца невыводнай прыгажосцю, моцай.

Да кроснаў! Уток... прапускаю ўточную нітку... авечча воўна... дабаўляю срэбную... не, залатую... раскрыпаць зляжалы ў куфры маток, заціснуўшы знойдзены кончык вуснамі, як залаты радок «і тчэ, забыўшыся, рука, цвяток радзімы васілька».

Мільфлёр! Бёрда ад сябе, бёрда на сябе! Чоўнік выслізвае з рук яшчаркай — яны ўсе зноў скрануліся, як ад ветру, вытканае цяжкае палатно.

Тамара пацяжэла, памажнела, прывёзшы ў хату дачку з дзецьмі, быццам яна ўжо займае больш мейсца на зямлі, ідзе шырока, усіх вядзе за рукі, побач, і за плячыма, ашчапіўшыся за шыю, унучка.

Козы суседскія ўлезлі ў агарод, яна закрычала з сілай, моцай сямейніцы, з моцай сваёй бальшыні ў хаце. Ужо ёсць ёй з кім абгаварыць суседа за патраву, злосцю насілкавацца, каб нават і не здароўкацца потым з нядзелю.

Спеліцца ў ёй, як на сонцы: крыкам, лямантам — і зноў усё добра.

Сонца поўдня перакулілася праз страху, асвяціла ганак. Дачка бягом з місай, якраз вада нагрэлася і высушыць лёгка, дзіцячае адзенне марлёвачкай з даёнкі, пахне малодзівам.

Малодшая выйшла, хуценька тут і села на прыступку, падабрала ногі пад спадніцу — рэжа яблыкі пасушыць, спяшаецца, каб заспець кароткае асеннее сонца.

Тамара туды-сюды, блісне вачыма маланкай сярод яснага дня — спаліць! Вось дачка, маўляў, нічога не памагае, а скора назад, у Маскву, сядзіць дзень-ноч, вяжа і вяжа швэдру, крыпаецца і крыпаецца, моўчкі, ні да кога не гаворачы, а трэба збірацца, дома б скончыла!

Тая спяшаецца ўплесці, увязаць і сваю дзіцячую сваволю ля маткі, і гукі хаты, і пахі, і матчын голас, зык, крык, разлічаны на вялікую адлегласць, на лес, на поле, звязаць з галасамі сваіх дзяцей, моцным вузлом, да высокай актавы роднасці. Спяшалася.

Перад самым ад'ездам, ужо і хату зачынілі, Тамара, уся гарачая ў твары, схапіла ўнучку падпаху — і на воз! Якраз брат бульбу выбіраў, ехаў, унука — на каня верхам запіхнула!

У гэты дзень яна ім печ цепліла, адмыслова, хаця яшчэ і цёпла, каб пaглядзелі на жывы агонь у хаце — ГНЯЗДО АГНЮ, каб ведалі смак варыва, каб раскаштаваліся... а можа яшчэ яно..., а можа..., а можа..., а хто ведае наперад...

І мне было няволле пакідаць радавое мейсца ў пошуках любові большай, за тваё сэрца, цёця Марыля, у якой гадавалася...

*У снежні Марыя Антонаўна Вайцяшонак адзначыла свой юбілей. Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў і «Літаратурная Беларусь» сардэчна віншуюць свайго паважанага сябра і жадаюць ёй новых сонечных вёснаў!*

# Нябесны ровар



Зміцер КОПАЦЬ

**У Ігара ёсць нябесны ровар. Сам ён дакладна не помніць, калі і як той у яго з'явіўся. Тыя ж, хто знаюць Ігара, кажуць, што лятаючы ровар быў у яго заўсёды. Ігар з гонарам дэманструе яго незвычайны колер блакітнага летняга неба. Паказвае чырвоныя лямпачкі, якія зіхацяць, каб яго не зачапілі ўначы самалёты.**

### Пачатак

Ігар выходзіць у наш двор у джынсавым камбінезоне, садзіцца на ровар і ўзлятае ў неба. Вух-вух-вух...Яго доўгія валасы касмацяцца, разлятаюцца ў бакі, і выглядае ён, бы сапраўдны байкер.

Але насамрэч гэта трошкі не так. Нарадзіўся Ігар у невялічкім двары Завадскога раёна Менска. Ніхто дакладна не ведае, колькі Ігару гадоў і колькі ён жыве ў нашым доме. Разам з Ігарам вырасла некалькі пакаленняў падшыванцаў. Хлопец ён надзвычай добры, бяскрыўдны і з лёгкасцю дзеліцца самым дарагім:

— Трымай, толькі глядзі: не падразай самалёты — яны табе гэтага не даруюць! Вернуцца мой ровар з войскам шукаць...

Вух-вух-вух — і ты ляціш у неба, з усёй сілы ціснеш на педалі славутага ровара. Гарады, лясы, ну і вядома ж — аблокі: пухнатыя і салодкія, як вата ў менскіх дзіцячых парках. Потым ціхенька, каб не нашкодзіць ровару, ідзеш на пасадку. Уніз‑зе ўжо Ігар хвалюецца, крычыць табе — лахтамону гэткаму: трэба ў час тармазіць, садзіцца не на асфальт, а на траву! Лаўчэй, нябога!

— Дзякуй, Ігар! Шыкоўна было! — вяртаю «на радзіму» святую каштоўнасць.

Вялікі, шырокі ў плячах Ігар: стаіць ганарлівы і шчаслівы, як маленькае-маленькае дзіця:

— А ты добра кіруеш! Яшчэ захочаш — калі ласка! Ну, бывай, браце... Я паляцеў!

З кожным здарэцца, і Ігар таксама трапляе зрэдчасу ў аварыі: сур'ёзныя і не вельмі. Калі гэткае здарэцца, на ўвесь наш двор чуваць жахлівы лямант: «Ратуйце!!!» Звычайна аварыі дробныя... Але Ігар грукаецца на зямлю з усёй моцы, як той мядзведзь, і замірае. Калі збяжыцца пабольш дзятвы — гора-волат падымаецца з зямлі, абтрасае налiпшы пясок і неяк хвалюючa-саромечыся кажа: «Ледзь выратаваўся! Вы бачылі? Пашанцавала! Паспеў стырно перакруціць у час ды выляцеў праз раму... Добра, што ровар цэлы!» У аблоках усё ж бяспечней, чым тут па дварах гойцаць, менш перашкодаў — такая ў яго філасофія. Свой ровар, вядома, Ігар бяражэ больш, чым самага сябе.

Але неяк атрымалася і насамрэч надзвычайнае здарэнне... Ігар добра падзёрся скурай аб асфальт, нават тварам. Мы ўсе пабеглі па кватэрах: хто — па бінт, хто па зялёнку, ёд ці спірт. Што лягчэй ухапіць, каб бацькі не падцікавалі і не чапляліся з пытаннямі. Потым усім дваром распачалі «рабіць хуткую». Ігар тыдзень хадзіў увесь у зялёнцы, як нейкая балотная істота з дзіцячых казак. Нават не выносіў на двор пабіты ровар: «Трэба трошкі падрамантаваць, і яму таксама дасталося...» Сумна было амаль тыдзень не чуць у двары прыемнае: «Вух-вух-вух»... Але больш, чым тры дні, Ігар без ровару не вытрымаў і выцягнуў яго з пад'езду...

### Сям'я

Сям'ю Ігара ўсе добра ведаюць. Яна малая. Схуднелая, маленькая, як вераб'іха маці Ігара — і ёсць усе яго сваякі. Спілася яна яшчэ ў той час, калі пра мяне нават яшчэ не марылі бацькі. Дарэчы, так кажуць дарослыя. Бацьку ж Ігара ніхто на вочы даўно не бачыў, але ўсім вядома, што той жыве ад турмы да турмы. Цяпер, вiдавочна, перыяд турмы. Маці працуе прыбіральнiцай суседніх дамоў і неяк цягне гаспадарку.

Сапраўдная ж сям'я Ігара, як аднойчы прыкмеціла цётка Зіна, што жыве ў маім доме, — гэта мы, вулічныя. Уся дваравая малота — нібыта суродзічы. Ігар незваротна прыняты ў наш дзіцячы кагал. Было так, што яго ў сям'ю ўводзілі яшчэ «старшыя» — хлопцы, якім гадоў па 15–16. Але для нас яны ўжо зусім дарослыя. Хтосьці канчае школу, хтосьці працуе ўжо ці пачынае працаваць. Нашыя «старшыя» ўсіх добра папярэдзілі, што крыўдзіць ці ліха жартаваць з Ігара — сувора забаронена. Так яно і павялося. Калі нехта наважыцца на гэткае злачынства — можа добра атрымаць нават не ад старшых, а ад сваіх жа. Напрыклад, ад Сярогі Коласа ці ад Свяшчэўскага.

У нашым двары амаль усе хлопцы жывуць адной хеўрай. Іншыя ў раёне нас ведаюць і баяцца, таму і Ігара не чапаюць. Хоць калісьці і здаралася. Тады біліся — сценка на сценку нават хадзілі. Сам жа ён, сярод нас — звычайны хлопец. Вялікі, нязграбны... Але бяскрыўдны, як той матыль. А мы яго самая сапраўдная абарона!

Трошкі нават і смешна. Іншым разам: маглі і паміж сабой пасварыцца –амаль ні за што, за паўслова... Колькі бачыў, як мярзотна кроў бяжыць цуркам з носу праз горкія слёзы. Але Ігар быў тым, што яднала ўсю нашую хеўру. Нават самыя разгульныя і бандыцкія хлопцы баранілі Ігара і яго ровар. Маўляў, і ў нас ёсць свае святыя звычкі. Вось як!

### Майстра

Я таксама ганяю на ровары Ігара. Мне падаецца, што мы з ім сябры. Сёння зрабіў шыкоўныя канапкі са свежанінай ды сырам і прэзентаваў іх Ігару. Ён падміргнуў мне і ціха ўзяў. З прагай адкусіў, прымружыўшы вочы. Прыемна глядзець, як Ігар жуе. Ён усміхаецца, і я таксама.

Потым кажу:

— Ігар, ну цяпер дай пракаціцца!

— Я ўжо ўцяміў, што тваe канапкі не проста так — хітруга-спрытнюга... Але смачна было вельмі — дзякуй табе! Бяры ровар! А я пакуль да Майстра зайду: трэба аб нечым пагутарыць.

Майстра — гэта сівы стары, імя якога ніхто ніколі не ведаў. У яго кучастыя бровы, сівая доўгая барада і тонкія белыя валасы. Ён з'яўляецца на лаўцы як зніадкуль — у белым капелюшы і з кіем. Альбо проста ў снежнай кашулі з бавоўны. Сядзіць. Ціха, неяк па-казачнаму таямніча, бы ўсё навокал спынілася. Глядзіць кудысьці далёка-далёка. Але толькі паклічаш яго — у вачах адразу з'яўляецца і добры, і хітры агеньчык. Не інакш, мясцовы дзед-барадзед:

— Што, валацугі малыя? Як яно там?

Ігар таксама падыходзіць да Майстры, і паразмаўляць з ім любіць больш, чым астатнія. Гамоняць яны з большага сам насам. Аднойчы маці выйшла ў краму, а калі вярнулася, расказала мне, што стары зусім здурнеў — ганяе вакол лаўкі на ровары.

**Працяг на наступнай стар.**

# Нябесны ровар

**Працяг.
Пачатак на стар. 13(7).**

— Вух-вух-вух!

Я прасунуўся ў акенца: і сапраўды — Майстра круціць педалі! А збоку ціха, неяк святочна і ўрачыста стаіць Ігар... Падалося, тады ён быў шчаслівы-шчаслівы. Сам Майстра выпрабоўвае яго ровар!

### Мой новы сябра

У школу маці дае трошкі талераў — купіць булачку з сокам. Але я тыя грошы адкладваю, і праз два дні ўжо набываю пачак духмяных цыгарэт. Ды і школу люблю сачкаваць. Той яшчэ бадзяга! Магу і адзін — без сябра ці якой там кампаніі. Але больш люблю рабіць гэта з Ігарам. Мы сядзім дзе-небудзь на траве ці, калі восень, у пад'ездзе і смачна зацягваемся. Асалода! Гэтым разам было ў пад'ездзе.

Мне вельмі прыемна пачаставаць Ігара цыгарэтай — зусім як дарослы, шчыра працягваю:

— На, палі!

Ігар выцягвае адразу тры — дзве за вухі, адну запальвае.

— Ты ведаеш, — кажа ён. — Мне без тытуня нельга... Цэлыя дні на ровары — пад вечар ногі самі не свае. Папалю — адпускае.

Раней Ігар кожны месяц уладкоўваўся на новую працу. Такая была ў яго асаблівасць. А потым працоўнага пакутніка прынялі ў нашу свойскую краму каля дома, на пасаду грузчыка. Кожным вечарам ён спяшаецца на працу. Працуе Ігар паўдні: вух-вух-вухвух — я на працу! Не сумуйце — хутка сустрэнемся! Яго ўжо чакае начальніца і мая суседка па пад'ездзе Наталля Карлаўна, яна працуе загадчыцай у краме:

— Ну, Ігар, стаў свой ровар на складзе, бо многа тут швэндаецца, ды хутчэй за працу!

Ігар заводзіць ровар і пачынае працаваць. Ён ад прыроды дужы, ну як той зубр, і цягне з усмешкай цяжкія скрыні з ежай, нібы саламяных кошыкі:

— Куды ставіць, Наталі Карлаўна?

Наталля Карлаўна на яго не злуецца. Калі яму падабаецца Наталі — дык Наталі. Таксама прыгожа. Пасля працы Ігар не цягнецца дахаты, ледзь рухаючы нагамі, як мой ці Генкаў бацька. Шпарка пад'язджае на ровары да нашай хеўры:

— Ну, гультаі, запаліць ёсць? Працоўны чалавек пытаецца! На вашыя пенсіі ўвесь дзень зарабляў! А як жа ж!

Мы з Ігарам сядзім на прыступках нейкага шэрага пад'езду, і я прагульваю школу.

— Ігар, а чаму менавіта ровар? — ціха пытаю.

— У сэнсе?

— У сэнсе, што гэта мог быць матацыкл ці там «Камаз» які...

— Цяжка сказаць, — загадкава ўсміхнуўся Ігар. — Але ў мяне ніколі не было ровара, а яго вельмі-вельмі хацеў... Ведаеш, як хацеў? Ух як! Прагнуў — не хацеў! Вось і вырашыў захапіць ровар з дзяцінства, каб ён усё жыццё быў са мной. Ды і што я без ровара? Проста Ігар.

— Зусім не проста.

— Зусім, — з усмешкай ціха пагаджаецца Ігар.




Ала Пятроўна прыйшла ў клас з нейкім хлопчыкам, падобным на сланечнік — з вясёлым круглым тварам і чорнымі валасамі. Чорных сланечнічкаў, вядома, не існуе, можа, калі толькі лісты паабгараць на спёцы, але мне гэтае параўнанне спадабалася. Хлопец быў трошкі засмучаны і збянтэжаны.

— Знаёмцеся! Гэта Ягор Барысаў — наш новы вучань! — гучна аб'явіла вучыцелька.

Мой сусед Генка Люлькін сёння ці то захварэў, ці то бадзяўся дзесьці без мяне... Таму Ала Барысаўна прапанавала хлопцу садзіцца побач са мной.

— Здароў! — праз хвілю падміргнуў мне новы сусед.

Гэта мне спадабалася, і я таксама шчыра адказаў «сланечніку»:

— Ну, віншую з новай школай!

Я не мог паверыць свайму шчасцю: дома ў «сланечніка»-Ягора было ажно два ровары! Нейкія цудныя новыя мадэлі «Бусел» — з тонкімі коламі і хуткія, як каршуны. За тыдзень, мне здавалася, я накатаўся на ўсё жыццё: ногі гудзелі ажно да слёз.

Ягор з'явіўся быццам зніадкуль. Раптам апынуўся ў суседнім доме. Маўляў, бацькі здымаюць кватэру. Дома ў іх яшчэ была «Дэндзі» — шыкоўная некалі прыстаўка. Ровары і відэагульні непрыкметна нас вельмі злучылі, не сачыў, як і час бяжыць.

Я іду з крамы з замоўленым мамкай батонам. З-за вугла раптам выязджае на ровары Ігар:

— Прабач, што я знік! Шмат часу ў небе — шукаю сваё шчасце... А ты што рабіў, гультай?

Прабачэнне за нечаканае зніknenне павінен быў прасіць я, таму Ігар мяне зусім збянтэжыў:

— У нас новы хлопец у класе — Ягор...

— А! Такі цікавы хлопец з чорнымі валасамі, падобны на сланечнік?!

— Так, — усміхнуўся я.

— Бачыў вас з неба колькі дзён таму. Не знікай больш!

### Адчуванні

Я не ведаў, як расказаць Ягору пра Ігара... Па-першае, трэба было іх пазнаёміць, калі не я — гэта зробіць нехта іншы. Па-другое: я лічыў Ігара сваім сябрам і нават гэтым ганарыўся, таму вельмі хацелася адкрыць сваю маленькую таямніцу Ягору. Але ў той жа час і саромеўся. Чаго хаваць — было нават трошкі страшна.

Я іду ў школу, навокал усё шэрае, і ўся гэтая журбота расцякаецца ў лужынах... Я гляджу сабе пад ногі і плятуся, як тое медзведзяня.

— Нос вышэй!

Паднімаю галаву і раптам бачу Майстра.

— Як справы, чаго такі гаротны?

— Так...

— Ты ведаеш — Ігар па табе сумуе... Амаль кожны дзень да мяне прыходзіць, скардзіцца. Ён жа ўсё гэта па-асабліваму робіць. Кажа, што ты апошнім разам яму штосьці з хуткасцямі напартачыў, і з роварам бяда, — Майстра ўсміхнуўся і закруціў вус. — Ну, бывай, хлопча — ты і без мяне ўжо на першы ўрок спазніўся!

За хвіліну да пачатку матэматыкі я паспеў прыбегчы і сеў за парту... Ягор спазніўся на некалькі хвілін і нешта прабурчаў вучыцельцы, што дрэнна сябе пачувае. Я не вельмі ў гэта паверыў.

— Ты не хвалюйся, — на вуха бадзёрым шэптам запэўніў мяне Ягор. — Усё са мной добра... Ты ведаеш, учора бачыў вашага мясцовага фрыка — Максіма, здаецца, вось ідыёт!

Максім быў мужчынам пад пяцьдзясят, прайшоў Афган. Мянушка ў яго была адмысловая — Кілер. Ён мог проста выйсці на ганак пад'езда з цацачным аўтаматам ці з гранатай у руках ды пачаць страляць па ўсім навокал. Кожнае яго такое з'яўленне было адметным — вакол сябе Кілер збіраў працьму дзяцей і пачынаў сваё паляванне на жывых суседзяў... Ягор смяяўся да слёз. Мы самі столькі смяяліся з Кілера, што потым нават чыхнуць было цяжка — жываты балелі ад напружання. Але смех Ягора падаўся мне вельмі злым. Я з горыччу зразумеў, што маё сяброўства з Ігарам застанецца для яго таямніцай.

### Здарэнне

Ноччу я вельмі кепска спаў. Мроіліся нейкія здані і пачвары, па некалькі разоў прачынаўся ў сполашнай дрыготцы... Начны кашмар скончыўся, але ў школу я прыцягнуўся як мядзведзь без вады.

Пасля першага ўрока да нас забег хлопец з суседняга класа. Шчокі яго былі пунцовыя:

— Ігар памёр! — выгукнуў ён і пабег далей, напэўна, паведаміць страшную навіну іншым.

Я згарнуў усе рэчы ў заплечнік і пайшоў дахаты. У кватэры стаяла маці і разгублена, з трывогай зазірнула мне ў вочы. Я, ужо, здаецца, дарослы, прыхінуўся да яе худога пляча галавой і заплакаў...

Толькі праз некалькі дзён даведаўся, што здарылася. Ігар выйшаў на двор з роварам і пачаў збірацца ў неба... У гэты самы час па двары ішоў нікому незнаёмы п'яны мужык. Не спадабалася яму, мабыць, тое самае «Вух-вух», якім Ігар суправаджаў усе свае ўзлёты.

— Што ты гэта робішь, дурань? — спытаў ён.

— У неба лячу, дзядзечка! У мяне тут ровар блакітнага колеру... Мяне Ігарам завуць, а вас?

— Буду я яшчэ з рознымі дэбіламі стасавацца! — адказаў мужык. — Ровар, кажаш, Ігар?! А ну, дай сваё лайно — пракаціцца!

— Аніякае гэта не лайно... Вы вось самі паспрабуйце! Цудоўны ровар!

— Ага, зараз... Вэх-вэх-вэх! — мужык ажно разрываўся ад рогату. — Лайно — не ровар! Ледзь едзе!

Ігар пакрыўдзіўся і расчырванеўся:

— Ну тады вяртайце яго мне!

— А вось калі не вярну, а раструшчу яго — тады што?

У яго бы ўсяліўся вар'ят, і ён пачаў ламаць ровар... Кідаць, біць па ім нагамі, нешта крычаць... Агромністы, дужы Ігар проста лёг на зямлю і пачаў галасіць, як пакрыўджанае ўсім светам дзіця. Быў самы пачатак ранка, і таму, відавочна, ніхто гэтага не бачыў, акрамя старой бабкі Людкі, якая ўжо шмат гадоў у вазку для інвалідаў. Старая, як заўсёды, сядзела каля акна на другім паверсе. Паклікаць не было каго, але ў міліцыю яна ўсё ж патэлефанавала. Пакуль тыя прыехалі — на месцы здарэння быў ужо ўвесь наш двор. Ігар ляжаў на зямлі мёртвы. У яго спынілася сэрца.

### Гульня

Мне падаецца, разам са смерцю Ігара таксама закончылася і маё дзяцінства. Прынамсі, яго вельмі ружовая частка. Я добра памятаю, як людзі з трох суседніх дамоў скінуліся хто колькі мог і замовілі Ігару аркестр на хаўтуры... Як мы, малыя, бегалі па кватэрах ды збіралі грошы. Яго гаротную маці, чорную страшную труну, натоўп дзяцей, якія збегліся, каб праводзіць Ігара ў яго апошняе падарожжа... Тады многія з нас упершыню пачулі гэты выраз. Твары ў слёзных гарачых плямах — нават самых жорсткіх малых бандытаў. І да дробязяў малюецца ў памяці светлы анёльскі твар Ігара, які, здавалася, моўчкі бяскрыўдна пытаў: «Людзі, вы, нават дарослыя, бясконца гуляеце ў свае дурныя гульні, дык чаго было яшчэ трошкі не падыграць і мне?»

Добра памятаю і маршчыністы твар Майстра і яго разумныя зялёныя вочы... Ёсць твары, якія мы памятаем усё жыццё. Значна пазней маці паведаміла мне, што да пенсіі Майстра працаваў кімсьці накшталт псіхолага ў дзіцячым пакоі міліцыі. Што гэта ён навучыў мясцовых дзяцей паводзіць з Ігарам сябе па-асабліваму, па правілах, каб яго не крыўдзіць, не хваліваць... Мы ішлі ўсе пад журботную музыку аркестра і не сароміліся плакаць...

Да дробязяў памятаю Ігара і гісторыі, якія з ім звязаныя. І як ён чапляўся нагамі за карані дрэваў і трапляў у аварыі, і як запрашаў маю маці падвезці да пад'езда пасля працы, вырываў з яе рук цяжкія торбы ды бег наперадзе, і як з ім курылі — амаль не ведаючы, як гэта рабіць... Як ён бегаў па двары, нібы на ровары, і чакаў, каб я таксама пракаціўся...

Мой сусед Ягор з'ехаў і пакінуў школу праз які тыдзень. Ганарліва сказаў, што бацькі нарэшце збіраюцца набыць кватэру. Толькі праз некалькі гадоў ад кагосьці з суседзяў я даведаўся, што той п'яны мужык і быў бацька Ягора. Што ніякая гэта не чутка. Ды і з'ехалі яны, бо баяліся помсты. Ягора я больш ніколі не бачыў. Калі і пабачыў бы раптам, дык не ведаю, аб чым мы б з ім размаўлялі...

Цяпер, калі мне амаль трыццаць і я ўспамінаю дзяцінства — добра разумею, чаму я заўсёды лічыў Ігара сябрам, чаму прагульваў разам з ім школу, чаму любіў яго. Ён навучыў мяне рэчам больш карысным, чым матэматыка... Яго гульня стварала свет майго дзяцінства. Мне падабаецца думаць, што яго добры, нічым не заплямлены дух цяпер сапраўды лётае ў паветры, якое не адчувае ні злосці, ні помсты...

Вух-вух-вух!

Аднойчы я раскажу гісторыю пра Ігара свайму сыну і прапаную, не зважаючы на мінакоў, забыць усё на свеце і весела пракаціцца ўдваіх на нябачных, сапраўдных толькі ў нашым уяўленні нябеснага колеру роварах... У памяць пра сябра з майго дзяцінства, у якога ніколі ў жыцці не было таго ровара. Сябра, які дапамагае мне ўжо дарослаunion бачыць рэчы, якія так добра адчуваеш у дзяцінстве... Пакуль сэрца яшчэ такое пяшчотнае і гарачае.

**2014**

# Паляўнічы гон



Васіль МАКАРЭВІЧ

**1**

*А лес смалою і мікстураю*
*Прапах і хоць на хвілю б змоўк.*
*І зноў ён з логавішча ўстураны,*
*Мой брат лясны, драпежны воўк.*

*Дубы і вокам ані моргнулі,*
*Калі пятлёю спадціішка*
*Яго з гушчарнікам зашморгнулі —*
*Сцяжок тырчыць каля сцяжка.*

*І ваўкалак скупы і жылісты*
*Трэск ловіць кожнага сучка.*
*І на нагах тугіх, пружыністых*
*Застыў — гатовы да скачка!*

*І чуе, як над прыскам спечаных,*
*Марозам спаленых снягоў,*
*Ускрыкне з болем птушкі пеўчае*
*Трывога чуйных саснякоў.*

*І ўміг з-пад ног — сняжок ахапкамі.*
*І хвост не палкай — а калом!*
*І воўк наструнены, захапканы*
*Цераз карчы і пні — кулём!*

*Са стараны чужой, падветранай*
*Смуродны цягне пах нябось.*
*Дзялянкі, сцежкі з кіламетрамі*
*Ўстаюць дыбка аж да нябёс!*

*Лясоў тугая плынь — да Віцебска!*
*Хоць пад грудзямі даўкі ком, —*
*Лясныя просекі, давіцеся*
*Марозным зімнім скразняком!*

*Тут праз гушчар, а там праз кусцікі,*
*Дзе ані птушак, ні звяроў,*
*Бег так прыўдарыць і прыпусціцца,*
*За ім не след — віхлясты роў.*

*У зрэнках зыркімі лампадкамі*
*Узблісне жах, то прападзе.*
*А бег стараецца лапаткамі,*
*Тарпедай рвецца ды ідзе.*

*Свіціцца ранак, як працэджаны.*
*І мне здаецца, — не з ваўком —*
*Плячо ў плячо, нібы прыпрэжаны,*
*Лячу з уласным двайніком.*

*Смаловы корч, то лёд жамчужынай*
*Мітнецца ўміг наперарэз.*
*«Ату» — крычыць, раве адчужана*
*Ды ўслед за намі рвецца лес.*

*І, да вачэй далонь прыставіўшы,*
*Глядзіць з-пад снежнае страхі.*
*Няма нам двум нідзе прыстанішча,*
*Каб перавесці хоць духі.*

*Сумёт ад страху вочы вырачыў,*
*На сцежку зыркне ў два канцы.*
*Няўжо з бяды ніхто не выручыць?*
*Няўжо для нас адно — капцы?*

*А мо з вятрамі-непаседамі,*
*Дзе наўпрасцяк, дзе наўскасы,*
*Рвануць нам трэба у суседнія,*
*Смалой залітыя, лясы?*

*Ну а вятры — ад веку скептыкі —*
*З размаху ломяць шкло галля,*
*Аж друзкі сыпяцца з аскепкамі*
*На снег са звонам крышталя.*

*І рэха з лёскатам і пошчакам*
*Мітнецца нізам, цераз гаць.*
*Равуць, галёкаюць загоншчыкі,*
*Каб нас пад выстралы загнаць!*

*Ды з аркестроўкай падабранаю,*
*Відаць, з паўсотні мацакоў*
*Заходзяць справа з барабанамі,*
*А злева — з плоймай мацюкоў.*

*Пакуль пужаюць ціш мядзведжую,*
*З іх сыйдзе семдзясят патоў.*
*А хто яны? Бамжы заезджыя,*
*З бядой заместа пашпартоў!*

*Наперад лезуць ды цярэбіцца,*
*Каб не застацца на бабах.*
*Сасна заржэ ды ажарэбіцца —*
*Аснежны ком на дол — бабах!*

*Устане белы дым каромыслам:*
*Барыш — не роўны барышу.*
*Ім дайце траўкай аскароміцца, —*
*Па тры цацяжкі на душу!*

*Нашто пытаць, чыя тут курыя?*
*Хто гаспадар, вядзьмак ці чмур?*
*Якім дымком наўкруг акураны*
*Пушчанскі кожны перакур?*

*Чаму адкрыта, як з-за возера,*
*Нароўні з рознай гаркатой,*
*З-за свету везлі ды завозілі*
*Да нас атруту з наркатой?*

*Лягчэй праз шчылінку ігольную*
*Пралезе дзесь наркабарон,*
*Чым мы праз гэты лес аголены,*
*Дзе ля кардона — зноў кардон.*

*Дыхне вятрыска ажно з Арктыкі*
*І так — што пушча зазвініць!*
*А мо стратэгію і тактыку*
*Умомант трэба нам змяніць?*

*Там, дзе з паставай незалежнаю*
*Пень раскапусціўся, што кадзь, —*
*Зашыцца ў яму, пад валежынай,*
*Ды гэты гон перачакаць!*

*Бо нехлямяжыя, нязграбныя —*
*З усіх бакоў — за раццю раць —*
*Стралкі стаяць, нібыта гарбары, —*
*З ваўка ім шкуру дай садраць!*

*І лес вакол слухмяным лёкаем,*
*Каб да канца сплаціць аброк,*
*Зноў стогне, вые ды галёкае,*
*Аж гул даходзіць да аблок!*

*У ноздры дасць*
*Сасновым вокісам,*
*І ўдвух з разбегу ледзь не ўлёт,*
*Нібыта гурбы снегу, скоцімся*
*З рачнога берагу на лёд.*

*І хоць пад коўдрай снежнай вогкаю,*
*Ляжыць бліскотны ён, як шчыт,*
*Працяжна стогне, крэкча, вохкае*
*І пад нагамі ўжо трашчыць.*

*Прыціхне спуджана ваколіца,*
*Ледзь пераводзіць дых і дух.*
*Вось-вось пад намі ён расколецца,*
*І пойдзем мы на дно удвух!*

*А ціша навокал плавае,*
*Хоць вецер віскне, быццам кнур.*
*Няўжо загоншчыкі з аблаваю*
*Ўзялі пярэдых-перакур?*

*Стаяць над намі вольхі шэрагам,*
*Змоўк дуб пад снежнаю дахой.*
*Мой дружа воўк, пад гэтым берагам*
*Давай і мы перадыхнём!*

**2**

*Пакуль крысом завея плёскае,*
*Наўпрост ляціць на сенажаць, —*
*Хіба мы догму філасофскую*
*З табой не можам разжаваць?!*

*Калі зірнуць нам і з адлегласці,*
*То, як сказаў мудрэц-вядзьмак:*
*Жыццё — змаганне процілегласцей*
*І пэўна, больш, чым кавардак!*



*Хоць у Парыжы а ці ў Лондане,*
*Ў турме ці ў замку, абы-дзе —*
*Спакон вякоў праз пень з калодаю*
*Жыццё куляецца, то йдзе.*

*І зноўку з праўдай і крамолаю,*
*Як хто б ні чэзнуў і ні смаг,*
*Нас меле ў жорнах, перамолвае*
*І ў ступе дзён таўчэ наўзмах.*

*Гадзіннік веку мерна тахкае.*
*І з Андрамедай Зорны Воз,*
*Нібы праз лінзы бескантактныя,*
*Глядзяць праз тысячы нябёс.*

*Дабро і зло бягуць упобачкі,*
*І хоць пацвельваюць з тупіц,*
*Адзін другому ані дробачкі*
*Нідзе не хочуць саступіць.*

*Відны на полюсе праталіны.*
*Ляціць далёка гром і рык, —*
*То пацяпленне йдзе франтальнае,*
*Лядовы ломіць мацярык.*

*І зноў магнаты з заправіламі,*
*У тлуме й вэрхале падзей,*
*Дзесь за марамі, за праліўамі*
*Вядуць фінансаў перадзел.*

*І голуб кружыцца з галубкаю,*
*Ў дуду дудзіць ахрыплы ўдод:*
*Даляр расхвалены скарлупкаю*
*Не заўтра трэсне, то праз год.*

*І рукавы мне гнеў закасвае, —*
*Бо з ваўкадаваў ваўкадаў*
*Не з бітвай класавай, а з касаю*
*За мора ўпотай драла даў.*

*З усмешкай кволай і нягеглаю*
*Ключы ад сейфаў падабраў.*
*А што да Канта а ці Гегеля —*
*І блізка ў рукі іх не браў!*

*На пожнях банкаўскіх з палеткамі*
*Пасецца колькі зім і лет.*
*Яму на д'ябла дыялектыка,*
*І нейкі чортаў дыялект!*

*І называць між тым стараецца,*
*Выдатна знаючы латынь,*
*Грабеж прамы экспрапрыяцыяй*
*Чужых укладаў залатых.*

*Хоць у плячах слабы і вузенькі,*
*Артыст — ну проста Іў Мантан!*
*І пад струну чужую з музыкай*
*Мой дзесь набытак праматаў.*

*Так развярнуўся, гад ён печаны,*
*За сотні вёрст, за сотні вод, —*
*Што у мяне ані капейчыны*
*Не засталося й на развод!*

*На тытул лорда меў прэтэнзію,*
*Хоць быў слабак са слабакоў.*
*А закруціў любошчы з Тэмзаю*
*І ўлез у сем асабнякоў.*

*Дзе трэба глоткай, браў і глоткаю.*
*Быў майстра трукаў і пагроз.*
*І яхты з ядзернай падлодкаю*
*Змантачыў хітры сімбіёз.*

*З натурай злодзея адважнага*
*Ён гэткі вынайшаў рычаг —*
*Пад вугал свет бярэ падважвае,*
*Застрашыць прагне па начах.*

*І добра знае, што зашкальвае*
*Разбой без краю і без меж.*
*Ды прагне ўсё-такі да каліва*
*Прыбраць да рук і Белавеж.*

*Таму ледзь толькі лес аголіцца,*
*Мароз пралезе ў кожны кут, —*
*За намі зноў з аблавай гоніцца,*
*Ды прагне ўзяць у перакрут.*

*І брэх, што зноў*
*Са шворкі спушчаны,*
*Ірве на клочча немату.*
*І напралом прастуе пушчаю,*
*Ляціць сівушнае «Ату».*

*І дзе вятры стагналі тыглямі,*
*Ды ў цемры вухкалі сычы, —*
*З табою, воўк, мы ног матыгамі*
*Павінны зноўку лёд сячы.*

*Ільдзінкі дробныя ды колкія*
*Цераз вятрысты расцяроб*
*Аж за вярсту ляцяць асколкамі*
*Ды б'юць аблаве проста ў лоб.*

*Страх пад нагамі сцежку выструніў*
*Пад пільнай вартай маразоў.*
*Па нашых спінах хвошчуць выстралы,*
*А ці дубцы густых хмызоў?!*

*І вочы свецяцца, як бакены,*
*Іх шротам, пудкіх, не дастаць.*
*А гон раз'ятраны з сабакамі*
*Не хоча змоўкнуць, ні адстаць.*

*Кіпцюрыць снег, нібы праполвае,*
*Дзе гучна ўчора лось трубіў.*
*І са ствалоў — агонь ды полымя,*
*Бы ў рэктыўных ТУ — з турбін!*

*Прапахлі потам, прэллю ўсякаю.*
*Аслаб з нас кожны і зблажэў.*
*А енк і крыкі побач цахкаюць,*
*З хвілінай кожнаю бліжэй!*

*На соснах, што ўзняліся парамі,*
*Нарастаў — быццам жаб-рапух!*
*А ў нас удвух з бакоў запараных —*
*Не толькі дым, а поўсць і пух!*

*І за разгоністымі гацямі,*
*Дзе снегу ўзняўся феерверк,*
*Стрэл гучны вогненнай рагацінай*
*Ваўка няспешна ўскіне ўверх.*

*Прасека ўздыбіцца, як вуліца,*
*І ўбок рванецца стрымгалоў.*
*Разоў мо дзесяць перакуліцца,*
*Пакуль не грымне воўк далоў.*

*Ляжыць на сцежцы ён са сцюжаю,*
*Што ў дзіўны свет вядзе ці рай.*
*На цалю, мабыць, лапы дужыя*
*Занёсшы ўсё ж за небакрай.*

*Салодкай траўкаю акураны*
*Прысядзе гон на край пянька.*
*І моўчкі з цішаю хаўтурнаю*
*Глядзіць на шэрага ваўка.*

*Рукамі ўласнымі, як граблямі,*
*Пад шэрай стромістай сасной*
*Па твары я няўцямна грабаю,*
*Не разумею — што са мной?*

*Цярне па твары вецер рашпілем*
*Ды ў елкі знікне пад крысом…*
*Мо гэта з'явішча ўчарашняе,*
*Трызненне прыкрае ці сон?*

*Мароз задзірысты і ядраны.*
*Зары вячэрняе агонь.*
*А прад вачыма кінакадрамі*
*Адно мільгае толькі гон.*

# «Шрыфтам Брайля на калядным снезе...»



**Ну вось, і зімы дачакаліся. З усімі яе 18 градусамі — і ў падворку і за сталом... І літаратурнае натхненне ў пісьменнікаў, між іншым, захавала свой нармальны градус. Прынамсі за 40 не перавальвае...**

Чытаючы 79-ы нумар часопіса «Дзеяслоў», у гэтым не сумняваешся. Публікацыі пачынаюцца з творчасці народнага паэта Беларусі. Перад намі гэткае своеасаблівае наследаванне «Сказу пра Лысую гару», зробленае на сучасны лад **Нілам Гілевічам,** якому пашчасціла *адшукаць у архівах* паэму XVI стагоддзя «Сход нячысцікаў». Не ведаю, чаму шаноўны паэт такім чынам як бы адстараніўся ад аўтарства, бо ўсе героі паэмы і без таго ж ананімныя, хіба што вобразна пазнавальныя ў сваёй суцэльнай выканаўча-кіроўнай кампаніі... Чытаецца лёгка, весела і дасціпна, тут аўтар не дае рады схаваць сябе дарэшты. Ды такой бяды, хто аўтар, бяда ж усё адно — наша і пакуль неадольная... Словам, як тлумачыць твор сам Ніл Сымонавіч:

*Каб чыталі як забаўку,*
*Ён прыдумаў хітры ход,*
*Быццам піша казку-байку,*
*А не праўду пра народ.*
*Гэтай хітрасцю і сёння*
*Карыстаюцца пісцы,*
*Каб абачліва-рэзонна*
*Небяспеку абысці.*

Даўнавата ўжо не чытаў я лірычнай мастацкай прозы **Уладзімера Арлова.** І вось — аповесць «Танцы над горадам». Ёмкая, лаканічная, займальная і кампактна ўпакаваная, а да таго ж напісаная чытэльным стылем рэч. На першы погляд, як бы фантасмагорыя. Пажылы літаратар успамінае юнацтва, свае дзіўныя «палёты ў сне і наяве», надзяліўшы сябе-героя праявамі лунатызма... Гэта як своеасаблівая настальгія — самнамбулістычны сон творчага чалавека. Жаданне стварыць мастацкі вобраз творчага натхнення ў яго зачыне... Такі акт неймавернай фантазіі, якая ўздымае нас над звычным зямным бытаваннем — праяўленне духапад'ёмнасці... Калі прыраўняць творчае натхненне са станам самнамбулізму, то можна сказаць, што пісьменнік, як бы асцерагаючыся парушыць гэты стан, вельмі тонка і далікатна апісаў яго вонкавую і ўнутраную дзею, абсалютна не выпадаючы з яе сам... Хіба што на сыходзе аповесці, ужо абарочваючыся на той час з цяперашняга, страціўшы магчымасць таго, былога, натхнёна-творчага стану, ён адчувальна страчвае і стылёвую танальнасць і сюжэтную жывасць расповеда. Дзень, можа, і гэта лагічна ўваходзіла ў задуму пісьменніка, бо *«насамрэч час павярнуў назад, а ў вызваленую прастору хлынулі ўспаміны, якія вымагалі ўдакладнення каардынатаў майго месцазнаходжання. Я асцярожна перавёў позірк на люстра цёмнага акна, цалкам гатовы ўбачыць там сямнаццацігадовага юнака, але адтуль пазіраў усё ж я-сучасны...»* Напрыканцы У. Арлоў піша, што ён *«прысвячае свой танец усім тым, хто зараз танчыць на дахах у іншых гарадах гэтага і таго свету».*

**Леанід Дранько-Майсюк** друкуе дзве паэмы, хоць, як на маё меркаванне, гэта проста два вершаваныя цыклы, аб'яднаныя адной тэматычнай ідэяй, можна сказаць, купалаўскай. І нават іх змястоўна-сюжэтны разнабой і рознагалоссе, як ні дзіўна, ствараюць вобразную карціну *аблуднай бацькаўшчыны* кожнага канкрэтнага беларуса і трагічнасць іх родавага распалага вязьма. Матыў тугі і жаданне сабраць у адно наш агульны нацыянальны лёс як набытак і Боскі дар:

*Цалуй беларускае дно*
*І мох, і кару, і карэнне —*
*Пакуль не памерла яно*
*У гэта, што маем імгненне.*
*Няхай у тваім чараўстве,*
*Нябачнай, ды чутнай карціне*
*Упэўненасць тая жыве,*
*Якая душу не пакіне.*

Гадоў дзесяць таму ў цесным лімаўскім пакойчыку нязмоўкны Алесь Гаўрон, на жаль, ужо даўно нябожчык, распавядаў мне процьму пісьменніцкай бывальшчыны, якой пацяшаешся ў часе расповеду і лёгка забываеш, адклаўшы яе ў глыбокім закутку памяці. Палова тых баек міжволі ўсплыла з маёй памяці, калі я чытаў **Алеся Кажадуба.** Што праўда, усе гэтыя показкі і анекдатычныя сітуацыі, цёплa і жыва апісаныя Кажадубам, выяўляюць характэрныя чалавечыя і творчыя рысы беларускіх літаратараў. Падкупляе і аўтарская самаіронія: *«Галіяфаў у беларускай літаратуры хапала. Акрамя Брыля, ростам вылучаліся Кандрат Крапіва, Іван Мележ, Іван Навуменка, Ніл Гілевіч, Максім Танк таксама быў не маленькі. Я сам належаў да маларослага падраздзялення беларускай літаратуры. На жаль, класікаў сярод нас было мала — Іван Шамякін, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка. Але, нягледзячы на ўсю маю нягеглaсць, менавіта Брыль падтрымаў мяне пры ўступленні ў Саюз пісьменнікаў. «У яго апавяданне пра старую добрае, — сказаў Брыль на абмеркаванні. — А хто ўмее напісаць старую, аб тым заўгодна напіша». Камісія пагадзілася з гэтым».*

Агулам, гэтым разам у нумары друкуюцца паэты і пісьменнікі, якіх у «Дзеяслове», як кажуць, сто гадоў не бачылі (А. Кажадуб, В. Лапцік, А. Зэкаў). Апошні з названых, **Анатоль Зэкаў,** прапануе нізку традыцыйна-шараговых вершаў, сярод якіх некаторыя вызначаюцца і непадробнасцю, і паэтычным майстэрствам, як, скажам, «Дзень беларускага пісьменства», за ўрачыстай канкрэтнасцю якога ўгадваюцца дні будзённыя, калі той жа святочны чыноўнік родную мову:

*З эфіру вытрасе і з прэсы,*
*каб не знайсці і днём з агнём...*
*Дзень беларускага пісьменства.*
*Аркестр гатовы. Эй, маэстра!*
*Давай жа мову памянём*!

Апавяданне **Вячаслава Лапціка** «Рэдактар» злабадзённае па задуме (цэнзура ў сучасных дзяржаўных выданнях), але публіцыстычнае па змесце, і з гэтай прычыны збедненае ў літаратурных мастацкіх прыёмах.

Метафарычная шчырасць нерэчаісная самавыяўлення — вось так бы па сваім разуменні сфармуляваў я адчуванні пасля прачытання нізкі вершаў **Віталя Рыжкова** «Удары ў хвіліну». Тыя, хто насіліцца выслухаць і прыадкрыць іх слова-ўмоўны сэнс, займеюць своеасаблівы душэўны транс, таямнічасць якога не паддаецца звычайнаму тлумачэнню... Гэта як рэха ўжо вышэй упомненага мной самнамбулістычнага стану ў аповесці У. Арлова «Танцы над горадам»:

*Я не ведаў, як быць, як пра гэта казаць. Было новым усё,*
*што я бачыў раней.*
*Свет у новым святле памяняў канчаткова колер,*
*і, каб распавесці, я біўся аб тэкст, біўся аб змест, але так і не ўсёк, што мой шлях памылковы — я ў чарговы раз вынаходзіў ровар і засвойваў нанава мову, прыглядаўся знoўку да кожнага слова.*
*І не мог апісаць, і не мог распавесці пра ўсё, што мне адкрыла святло.*
*Тады і з'яўляўся страх — angst — той, які даступны жывёлам, што мяне, як і большасць, у гэтым усім*
*таксама чакае не плён, а аблом.*

Паважаючы няспешны творчы пошук паэта, нельга не прасякнуцца верай у яго мастацкую ўдачу і адмысловы паэтычны плён. Да прыкладу, уразіў і нязмушаным выдыхам, і гумілёўскім «шостым пачуццём», і музыкай, і ўнутраным загадкавым голасам цудоўны верш «Пабудзь са мною колькі гадзін...»

Чытэльная якасная проза з жанру нон-фікшн у **Паўла Ляхновіча.** Яго аповед-згадка «Суюнбай» — гэта надзённа-жыццёвае асэнсаванне нацыянальнага пытання ў барабанна-шараговым гармідары савецкага інтэрнацыяналізму... бо чалавек пазнаецца не па разрэзу вачэй і акругленасці твару, а па адкрытасці душы і высакароднасці духу.

Шчыра кажучы, напоўніцу ўжыцца і зразумець вершы мастачкі **Маргарыты Тарайкевіч** з яе нізкі «Актывіст эпохі Бакумацу» няпроста, але напоўніцца самурайскім духам магчыма... Нават пэўная паралель з нашым беларускім часам вымалёўваецца.

Цяпер жанр дзённікаў, зацемак, показак вельмі запатрабаваны і папулярны, нашы наступнікі будуць ведаць, бадай, пра ўсё наша сподняе, пакуль мы самі намагаемся вытрасці з-пад архіўнага пылу хоць якія дробязі з жыцця нашых знакамітых продкаў. **Уладзімір Сіўчыкаў,** адзін з тых, хто не дасць прапасці ў вечнасці ні адной людской дзеі, датычнай да літаратуры і вартай чалавечай увагі. Часопіс працягвае публікацыю яго жартаўлівых жарынак з кнігі «Уладзевы гісторыі».

У адрозненне ад паэзіі В. Рыжкова, вершы **Дзмітры Дзмітрыева** відочна рукатворныя, яны найперш цікавыя як лінгвістычны (філалагічны) погляд на прагматычны (матэматычны) свет. Некаторыя з іх досыць арыгінальныя і выбітныя, як вось гэты — «Фантан»:

*шматкроп'е курсівам:*
*прыгожыя радкі ні аб чым –*
*адна вада*

Аповед **Сяргея Календы** «Запалкі» сюжэтна насычаны, інтрыгоўны і дастаткова жорсткі, але, на мой погляд, гэта паўнавартасная мастацкая проза, якую варта чытаць...

У рубрыцы «Дэбют» — вершаваная нізка **Валерыі Данілевіч** («Бойка чорнага з белым»). Тут, безумоўна, ёсць праявы паэзіі. Як на мой густ, дык гэта адзін з найбольш яркіх паэтычных дэбютаў апошняга часу.

Чытаючы **творы пераможцаў конкурсу «Экслібрыс»,** насуперак сваім негатыўным увам пра нашую цяперашнюю літаратуру маладых, неўпрыкмет напаўняешся аптымізмам і разумееш, што ў айчыннага краснага пісьменства вялікі патэнцыял. Асабліва хацелася б вылучыць прачытанае з В. Куставай, А. Мінінай і пераклады Г. Комар.

Драматычная містэрыя «Тунэль» **Івана Клімянкова** напісаная ў жанры прытчы. П'еса чытэльная і ўражлівая, і, пэўна, можа стаць адметным спектаклем на беларускай сцэне. Аўтар даводзіць, што спрадвечная метафара зямнога чалавечага шчасця, да якога заўсёдна імкнуцца людзі (камунізм, сацыялізм, капіталізм...), дарэчы, як і сімвалы змагання за яго, дагэтуль не састарэлі... Таму кожны, запоўнены стратамі і трагізмам, прарыты намі тунэль — гэта прага светлай нязбытнай будучыні...

У перакладзе М. Лукшы друкуюцца вершы вядомага польскага паэта **Тамаша Мельцарэка.**

Ю. Пацюпа прапануе чытачам «Дзеяслова» забыты, альбо, як ён піша, «занядбаны шэдэўр» аўтара з Дзвіншчыны **Лявона Гваздa,** апавяданне «Праклёнышы», якое выйшла асобнаю брашуркаю ў далёкім 1913 годзе ў Санкт-Пецярбургу. Агулам раю пачытаць прадмову Ю. Пацюпы, напоўненую доследнымі цікавосткамі. Сам аповед напраўду адмысловы, як на мову, так і на выдумку і фантазію аўтара. Як кажуць, застрашлівы, але данельга прыцягальны. Раю звярнуць увагу.

Падаецца расповед пра жыццё і творчасць паэта **Міхася Кавыля,** жыхара ЗША родам са Случчыны, у звязку з яго 100-гадовым юбілеем. А таксама публікуецца падборка яго выбраных вершаў.

Ужо патроху супакоілася і пачала адстойвацца грамадская ўзрушанасць і эйфарыя ад атрымання беларускай пісьменніцай Святланай Алексіевіч Нобелеўскай прэміі. Прыспеў час для пачатку грунтоўнага асэнсавання гэтай з'явы для сучаснай беларускай ды і сусветнай літаратуры. Артыкул крытыка **Ціхана Чарнякевіча** «Галасы Утопіі эпохі second hand», які ён назваў «творчым партрэтам» пісьменніцы, — гэта і ёсць сведчанне і спроба адгукнуцца на падобнае запатрабаванне інтэлектуальнага часу.

Гістарычны эпісталярый эмігрантаў Аўгена і Зоі Смаршчкоў у ліставанні з Янкам і Оляй Запруднікамі сабрала ў адпаведную «хроніку аднае сям'і ў Бельгіі (1958–1992)» **Наталля Гардзіенка.** Шмат рознай, у тым ліку і пабытавай, інфармацыі. Чытаецца дужа цікава. **Сяргей Шапран** працягвае апісанне жыцця вядомага паэта і грамадскага дзеяча, публікуючы старонкі сваёй новай кнігі «Уладзімір Някляеў. Незавершаная аўтабіяграфія». Журналіст **Ілля Лапато** прапануе чытачам сваю гутарку з вядомым дыктарам беларускага радыё Алегам Вінярскім. Пісьменнік **Алесь Паплаўскі** разважае пра жыццё і творчасць з мастаком і літаратарам Лявонам Валасюком. **Ірына Масляніцына** і **Мікола Багадзяж** пішуць літаратурна-гістарычны нарыс пра лёс беларускага кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага, аўтара знакамітага паланэза «Развітанне з Радзімай». Пісьменнік і крытык **Пятро Васючэнка** рэцэнзуе кніжку У. Сіўчыкава «Уладзевы гісторыі», **Леанід Галубовіч** піша пра кніжку паэзіі Васіля Дэбіша «Чуйнар», а **Наста Грышчук** дзеліцца ўражаннямі ад зборніка вершаў Н. Русецкай «Каштаны ў кішэнях»...

Шчыра кажучы, пачаць гэты агляд мне вельмі хацелася з канца часопіса, а менавіта з лірычна-псіхалагічных запісаў **Яўгена Рагіна.** Аднак няёмка было парушаць «субардынацыю» і «прыніжаць» высокія класічныя жанры літаратуры. Паверце, гэтыя тэксты Я. Рагіна — *не закуска на дэсерт,* а вартае ўвагі чытво. Годныя маральна-духоўныя развагі творцы над праявамі нашага жыцця, якое пэўным чынам адбіваецца і на нашай літаратуры альбо, як піша сам спадар Рагін, *«калі сатрэш ногі аб Беларусь, яе геаграфія пачынае любіць цябе».* Аўтар кажа: *«Даўно ўжо зразумеў: журналістам я застаюся тады, калі трэба расказаць, а ў публіцыстаператвараюся, калі карціць сказаць. Калі сумяшчаеш першае з другім і робіш гэта шчыра, атрымліваецца эсэістыка. Вось і ўсе мае газетна-часопісныя жанры. Мне хапае».* А вось як для мяне, то Рагіна магло б быць і больш.

Словам, чытайце «Дзеяслоў».

**ЛеГАЛ**

# Вуаерызм наш, як відовішчы і хлеб




**Замест пралога**

Цытата ў фэйсбуку з гэтай кнігі, якую я выклаў у сваім пасце, выклікала такія каменты, што я пашкадаваў, бо, лічы, падставіў аўтара. Хоць нічога крамольнага ў цытаце не пабачыў. Глядзіце самі: «Аматары аральных задавальненняў ідуць у філолагі...». Гучала ў каментах рознае, баюся думаць, што б было, калі б яшчэ ўдакладніў, што належаць гэтыя словы гераіні-жанчыне... Насамрэч жа, за цытатай стаіць Фрэйд...

Невялікая перапалка ў фэйсбуку мела яшчэ пэўныя нечаканыя наступствы, але галоўнае для мяне было тое, што я зразумеў: сказаўшы «а», мушу штокольвечы напісаць пра гэтую кнігу, адкуль вырваў такую страшную цытату, — пра «Гісторыі ў прыцемках» Зміцера Дзядзенкі.

***

Некалі даўно сустрэў вельмі арыгінальныя прыклады разбору казкі Аляксандра Пушкіна пра залатую рыбку. Першы запэўніваў у тым, што ў казцы Пушкін імкнуўся паказаць сацыяльны зрэз грамадства ад простай сялянкі да царыцы, адлюстраваць тагачаснае жыццё, ну і гэтак далей. Другі браў вузей і казаў аб перспектыўным бачанні аўтара змянлівасці мора ў час надыходу шторму. Канечне, было смешна. Але, згадзіцеся, немагчыма было адмовіць у рацыі «аўтарам крытычных водгукаў».

Калі б мяне спыталі, што ёсць прыкметай майстэрства аўтара, я б адказаў: найперш магчымасць рознага прачытання ягонага тэксту. Калі кожны чытач у межах сваёй адукаванасці, прыхільнасці і etc знаходзіць у тэксце сваё і трактуе тэкст па-свойму. Пры гэтым — трактуе правільна.

Зміцер Дзядзенка здолеў стварыць такія тэксты.

«Яйкі птушкі Рух» — загадка пра загадку, калі можна вызначыць так жанр гэтага твора. Цікавае, лёгкае чытво, якое і напружвае, і здзіўляе. І напрыканцы абавязковае «Ісціна недзе побач». Такія жанры могуць раздражняць, але толькі ў тым выпадку, калі сама загадка трывіяльная, не арыгінальная, паўтарэнне вядомага. У Зміцера Дзядзенкі атрымалася прыдумаць абсалютна новае фантастычнае. І таму ўжо дазваляльна, што называецца, на фінішы схаваць канцы ў ваду.

З другога боку, хаванне гэтых канцоў можна разглядаць з пэўнай доляй філасафічнасці: мы, наша грамадства, пакуль не гатовыя прыняць да сябе такі дар, як яйкі птушкі Рух. Падкупляе ў творы яшчэ і жангліраванне гістарычнымі і міфалагічнымі звесткамі. Аўтар так пераканаўча вядзе свой аповед, што пачынаеш верыць усяму.

Наконт двух наступных твораў два агульныя словы: мне вельмі імпануе, што аўтар селіць сваіх герояў у сваю Воршу. Не буду казаць пра наданне гэтым «плюсаў» праўдзівасці творам, важна яшчэ, скажам так, дадатковае «абеларушчванне» тэксту, гэткі надзейны якар «нашасці» кнігі.

Першы твор — «Голем з Малой Мар'ямпольскай». Дэтэктыў. Без асаблівых хітрыкаў, дзе разгадка хаваецца ў фінале. Але сам тэкст, яго фактура, гэта — стромна і сцёбна, кажучы сучасным слэнгам. Дзядзенка, «нічтоже сумняшэся» замахваецца на святое нашае — на Скарыну. Мала таго, што наш першадрукар выяўляецца з расповеду яго нашчадка першым вытворцам друкаванай парнаграфіі, дык і сама біяграфія першадрукара і асветніка больш падобна на кароткі жыццяпіс прайдзісвета. Дзядзенка «грашыць» не толькі адвольным тлумачэннем гісторыі, але вуснамі свайго героя-нашчадка Скарыны дазваляе і фактычныя памылкі — напрыклад, што ў Вільні Скарына надрукаваў адно «Малую падарожную кніжыцу». Але ж разам з тым — захапляльна! Што ні кажыце, а я, да прыкладу, менавіта тут пабачыў ачалавечаны (няхай і такім чынам) вобраз Скарыны.

Далей — болей. Дзядзенка не прымушае сябе ствараць надта праўдападобныя калізіі: Скарына ў яго абдурвае самога рэбэ, ды яшчэ з выкарыстаннем голема, якога той і зрабіў (фантастыка, шчыра! — і менавіта ў тым, што абдурвае яўрэя ды яшчэ не простага, а рэбэ!). Крута завернута адносна помсты голема. Каб за нейкі там лёгкі падман ды плаціць смерцю? Але хто таго рэбэ ведае, мо ён такі помслівы? Ну, і паблытаць гліну з вапнай Дзядзенка гэтаксама змог.

Карацей, разам атрымаўся такі не абцяжараючы нічым, кароткі дэтэктыў. Калі хто «ў тэме», той пасміхнуўся весела не адзін раз...

Мне падалося, што Зміцер Дзядзенка спяшаўся. Па шчырасці, маючы такі вось матэрыял, ён мог смела ў два разы павялічыць аб'ём твора, бо многае не падалося б лішнім: і асоба галоўнага героя, і асістэнта доктара, і стасункі асістэнта і сястры доктара маглі б стаць разыначкай... Тым болей, улічваючы, што тэкст «Голема» напісаны колькі гадоў таму, можна б было для кнігі яго істотна перарабіць. Але тут аўтару ніхто не ўказ.

Дык вось, першае прачытанне менавіта такое.

А цяпер зірнём не з другога боку, а трошкі пільней. Нашчадак Скарыны, доктар. Мае каштоўную бібліятэку, але не відаць ніякай яго любові да гэтых кніг. Больш за тое, сам твор пачынаецца з пагляду доктара на эвалюцыю чалавецтва, дзе ён адмаўляе існаванне самастойнай культуры ў беларусаў, вызначае ролю самой культуры ў жыцці і станаўленні народа як нечага дробязнага і нязначнага. У асобе доктара і яго госця — адно са спрэчных пытанняў асветнікаў і філасофаў: што першаснае, што другаснае, чыя роля важнейшая... Гэты акцэнт у Зміцера Дзядзенкі дастаткова выпуклы, каб на яго не звярнуць увагу падчас чытання. І адначасова ён не выпучваецца настолькі, каб нагнаць суму на тых, хто не любіць хоць нейкіх падтэкстаў.

Для чытача, які надаў ідэйным спрэчкам герояў нейкую вагу, Зміцер Дзядзенка падкідвае загадку. Тое, што яго герой, спадчыннік асветніка першай велічыні, выраджэнец — безумоўна. Але такім ён стаў, бо адмаўляе ролю культуры асобнай нацыі? Ці выраджэнне роду Скарыны ёсць фактам праўдзівасці яго поглядаў?

«Вуаерыст». Гэтаксама — кніга з двайным прачытаннем, а можа нехта і іначай яшчэ, чым я, прачытаў?

З аднаго боку — дэтэктыўная гісторыя, з гістарычнай асновай. Няблага завернуты сюжэт: тут дэтэктыў, у гісторыі — прыгоды. Цікава... Ёсць асобныя месцы, якія б хацелася бачыць зробленымі больш адмыслова. Той жа «раяль у кустах» у выглядзе Сяргея Рака на фінішы, не зашкодзіла б болей сэнсоўнасці ў збіванні студэнтаў...

Перш чым распавесці пра тое, што я яшчэ прачытаў у «Вуаерысце», хацеў бы спыніцца вось на чым... Розумам я асабіста разумею, чаму ў тыя гады верх узялі бальшавікі. Бо астатнія партыі не маглі дамовіцца між сабой. Вось не маглі — і ўсё. Не здолелі ахвяраваць нейкімі дэталямі свайго бачання будучыні, каб з тых розных кавалкаў склалася сістэма. Не давяралі і не верылі адно аднаму (рыхтык — нашы). І галоўнае — не маглі пайсці на парушэнне маральных і этычных нормаў. У гэтым была галоўная прычына паразы: бальшавікі смела пайшлі на забойствы, дазволілі сабе кроў і смерць — і выйгралі. Выйграе заўсёды той, хто адмаўляе існаванне ўсіх правілаў, хто страляе найперш, а пасля глядзіць: ці чужога застрэліў, ці свайго...

Дык вось, раней я разумеў, а цяпер першы раз адчуў. Здаецца, тэкст Зміцера Дзядзенкі без усялякіх моўных хітрыкаў і эквілібрыстыкі — звычайны, густоўны, вобразны тэкст. Але ён, яго гістарычная частка, мяне скаланула. Я па праўдзе адчуў той жах, які наступаў, тую прорву недаверу, разгубленасць, адчуванне марнасці і непазбежнага канца. І сляпой нянавісці самога да сябе, калі не можаш стаць такім, як бальшавікі, каб перамагчы іх. Адчуваю, што гісторыя з ротмістрам у яго родным горадзе насамрэч хвалюе аўтара. Ён ці не родным стаў для яго, той далёкі горад. Тут мне хацелася патэлефанаваць аўтару і сказаць яму дзякуй. Адна справа разумець, іншая — адчуць... Кажу тое дзякуй цяпер.

«Вуаерыст» ускладняецца аўтарам праз раздваенне яго галоўнага сучаснага героя на дзве часткі (Эго і Кміціч). Напачатку тое падаецца дзіўнаватым і неабгрунтаваным. Можна, канечне, і проста прыняць аўтарскую пазіцыю ды чытаць, дазваляючы аўтару і такія патрэбныя для дэтэктыва заблытванні. Але...

Вуаерыст — назіральнік. Гэта той, які атрымлівае інфармацыю, сам скарыстоўвае яе толькі для асабістых патрэб. Ён ніякім чынам у сваім занятку не ўплывае і не можа апрыёры ўплываць на ход дзеянняў. Як ні блізка жанчына праз бінокль, бюстгальтара з яе сам не знімеш. Калі ж адасобіцца ад жаночага цела ў вызначэнні і дзеяннях вуаерыста, дык атрымліваецца цікавая рэч. Па сутнасці, і па жыцці галоўны герой — вуаерыст, толькі прадметам яго назірання становіцца даўняя гісторыя ў Воршы. Без вялікай націжкі другі галоўны герой мінулага веку — ротмістр Якабіні — гэтаксама вуаерыст у пэўнай ступені. Бо ні ён, ні бліжэйшыя да яго аднадумцы не могуць ніяк паўплываць на сітуацыю вакол сябе. Яны больш назіральнікі, яны канстатуюць факты, разважаюць, спрачаюцца, шукаюць выйсце — але спраў няма. Вельмі дарэчным побач з ротмістрам выяўляецца кітаец: ён не проста сімвал вернасці і адданасці, а яшчэ і сімвал дзейнасці, рашучасці. Ён адцяняе інтэлігентную бездапаможнасць ротмістра, мацней падкрэсліваючы ролю апошняга менавіта больш як назіральніка.

Вуаерызм галоўнага героя і ў яго стаўленні да жыцця. Ён нешта там піша, ён збірае факты і друкуе тэксты — і яны праходзяць без аніякага ўплыву на яго жыццё (і на жыццё вакол. Ну, не будзем жа мы марыць, што такі вывад у артыкуле як «І тут узнікае пытанне...» можа неяк паўплываць насамрэч на нешта ў горадзе). Толькі апошняя справа галоўнага героя, калі ён адважваецца на нейкія дзеянні зусім іншага, нязвычнага для яго характару, прабуджаюць яго да жыцця.

І тут неверагодны па сваёй праўдзівасці фінал.

Наш вуаерыст жыў сабе вольна і спакойна да таго часу, пакуль заставаўся назіральнікам. Як толькі ён адмовіўся ад сваёй ролі назіральніка — ён прымае рашэнне з'ехаць за мяжу.

Вось яно — невялічкае кішэннае люстэрка нашага жыцця. Да той пары, пакуль мы застаёмся назіральнікамі, пакуль атрыманая інфармацыя скарыстоўваецца намі адно ў сваім асяродку для прыгатавання розных твораў, ідэй, лозунгаў, тэм, бясед, спрэчак, круглых сталоў, абмеркаванняў і etc, мы жывём спакойна і нібыта вольна. Як толькі атрыманая інфармацыя спараджае сапраўдны рух, нейкую дзейнасць, як толькі мы перастаём быць вуаерыстамі — уцякаем за мяжу. Ну, альбо пачынаем назіраць «неба ў клетачку», на што і намякае Зміцер Дзядзенка.

Цалкам усведамляю той факт, што нічога такога шаноўны аўтар і не думаў выводзіць праз сваю кароткую дэтэктыўную гісторыю. Але ж пісьменнік заўсёды піша больш, чым думае напісаць. Такі закон творчасці. Хіба ж не?

**Валер Гапееў**

# Калядны стол

**Гэта быў стары стол, які лічыў сябе цудатворцам. Ён стаяў не ў касцёле Святога Яна Хрысціцеля, а ў звычайнай хаце, але быў намоленым: ужо некалькі пакаленняў за ім збіралася адна сям'я. І канечне ж, стол лічыў, што збірае ўсіх ён.**



Ва ўсе вечары людзі елі, пілі і гаманілі — паміж сабою, а ў Калядны кожны звяртаўся яшчэ і да Бога (ці да Сусвету, Лёсу, хто як Яго называў), і таму здавалася, што Ён таксама сядзіць побач і нават калі-некалі зачэрпвае лыжку куцці. І, калі вы бывалі за тым сталом, то пагадзіліся б, што там Яго прысутнасць адчуць прасцей, чым ва ўзгаданым ужо касцёле.

Змяняліся гады, змяняліся людзі, але сям'я была адна, і думкі былі аб адным, калі за стол, сярод весялосці, спускалася задуменная ціша:

*Браніслаў Сямёнавіч, за сталом у 1932 годзе,*

*Міхал Браніслававіч, у 1963 годзе,*

*Жанна Міхайлаўна, у 2003 годзе,*

*Віка, у 2015 годзе,*

*Браніслаў Сямёнавіч, 1932:*

*«Год быў складаны. Мо наступны будзе лягчэйшы. І калі ты ёсць, Госпадзі, дапамажы мне, дапамажы маёй сям'і, няхай будуць здаровыя і заўжды будзе хлеб на гэтым стале».*

Калі збіраліся есці, то на вячэру з сабою запрашалі сваіх любых — туліліся, шчыльна-шчыльна, адзін да аднаго, абы яны змясціліся, і сам пан Бог быў згодны крыху пасунуцца, каб уціснулі яшчэ адзін прыстаўны табурэт.

На лавах, на канапе і крэслах рассаджваліся блізкія, да якіх можна было дакрануцца рукой, і далёкія, прысутнасць якіх адчувала толькі сэрца. Месца хапала ўсім — такі гэта быў стол.

*Міхал, 1950*: «Дзе ты, Марыля? Сяджу тут, а думкі мае — там, з табою. Запрашаў жа да нас, не прыйшла. Хутчэй бы тут пад'елі ўсе, бо папярод бацькі не ўстанеш, а тады — на калядкі, да цябе!»

*Міхал, 1955*: «Дзе ты, Марыля! Нясі ўжо хутчэй гарачае! І сама сядай, до завіхацца!»

*Міхал, 2015:* «Дзе ты, Марыля... Чаму не забіраеш мяне. Кожны дзень прашу аб гэтым. Цяжка без цябе на свеце. Забяры, чуеш?».

Шмат хто яшчэ гэтым Калядным вечарам размаўляў з Марыляй і пра Марылю, бо свята без яе не было святам.

— Памятаеш, як маці любіла талеркі ды слоікі на стале перасоўваць?

— Але ж, толькі наважышся ўзяць кілбасу, а яна перасуне на другі бок — там прыгажэй. Віка, што ты, як бабуля твая, хопіць кісель туды-сюды па стале цягаць!

А між тым, кісялю не так і проста там знайсці месца: ён быў дванаццатай стравай, і яго ледзь уціснулі паміж селядцамі і абаранкамі з макам. Калі ж усе паелі і, ледзь дыхаючы, вылазілі з-за стала, кожны пачуў (а калі пачулі ўсе, то так яно і было) голас другой бабкі-нябожчыцы, што любіла гатаваць і частаваць:

— А ці ж вы пад'елі?

— Так, пад'елі! — адказаў кожны ў думках.

— Ат, якое там, і што тут было есці.

Засталося толькі сабраць посуд. Гэтым разам, як і звычайна, вызвалася Віка. Талерка за талеркай, відэлец за відэльцам, кубак за кубкам, яна збірала ўсё, што пакінулі, вельмі павольна, бо ведала: зніме абрус — скончыцца Святы вечар.

Стол памятаў яе яшчэ маленькай, калі яна важна прахозіла пад ім пешкам. Чакаў, калі прыязджала да бабулі на лета, а калі бабуля памерла, бачыў ужо радзей, але адчуваў, што на Каляды яна прыйдзе — калі не асабіста, дык будзе сярод тых, хто вяртаецца сюды ў думках, хоць і знаходзіцца ў іншых гарадах.

Напрацаваўшыся, Віка села адпачыць і прытуліла вуха да стала — так, як некаторыя слухаюць ракавіны, яна слухала дрэва. І яно парэпвала, спявала Каляду, ці калыханку, ці нешта сваё, застольнае.

Віка маўчала. Стол ведаў, пра што яна думае (бо ён жа быў цудатворцам). Думкі былі цяжкія, як чыгуны, і такія ж гарачыя: пра тое, што балюча пякло ўнутры. І як стамілася яна з гэтым змагацца. І што змагацца трэба будзе працягваць.

На шчасце, гэта быў той самы сямейны стол, які ўмее надаваць моц: да яго прыходзілі слабымі і зморанымі, а ўставалі вясёлымі і бадзёрымі — бо хто ж не павесялее, пад'еўшы? Ён памятаў, што гэтаксама, як Віка, да яго прыхіляла галаву яе прабабуля, пасля — бабуля, пасля — маці. І стол ведаў, як узяць на сябе іх боль і клопат.

Віка заснула, і пакуль спала, стол пакрыху ўбіраў у сябе яе боль — уцягваў, бы горкі святаянікавы ўзвар, які тая маленькай разлівала, наўмысна перакульваючы кубак. І гэтак стараўся, што трэснула драўляная ножка — але сямейныя сталы ад трэшчын робяцца толькі мацнейшымі.

Пасля Віку, сонную, перанеслі ў ложак. І спалася ёй так, як спіцца толькі аднойчы на год, на Каляды, толькі ў доме, дзе табе дапамагаюць і сцены, і стары стол. А калі прачнулася, то здзівілася: «Дзе мой боль?» А болю ўжо не было побач: яго разабралі па калівах і вынеслі з-пад стала, бы смецце, тыя, хто прыходзіў сюды на Каляды — аднаму не знесці, але ж калі ўсе возьмуцца разам!

А што стол? Стол стаіць і цяпер ды чакае, калі зноў збярэ ўсю сям'ю, бо гэта найпершы яго абавязак — таму не трэба саромецца, калі ў Шчодры вечар вас вядзе не Калядная зорка, а Калядны стол.

Як будзеце за тым сталом, то пакладзіце на яго рукі і паўтарыце: «Дзякуй табе, столе. Дзякуй, што ты нас сабраў». Яму будзе прыемна.

**Зараслава Камінская**

# Чалом, Уроцлаў

— Ну, як там твая паездка ў Польшчу? — пытаецца даўняя сяброўка, з якой выпадкова сустрэліся ў метро.

— Ну, па-першае, не паездка, а палётка, — іранічна адказваю я — а па-другое, ведаеш, усё, як заўсёды — прыляцелі, пагудзелі і дамоў.

Гэтая размова вялася пра маю нядаўнюю выправу ва Ўроцлаў — горад нябёснай чыгункі. Адкуль узяўся такі эпітэт? Рэч вось у чым. Калі мы каціліся на таксоўцы з цікаваю назвай «Рыба» па вечаровым, яшчэ досыць шумным горадзе, я раптам заўважыў на скрыжаванні вельмі смелую і арыгінальную скульптуру — паравоз, які стаяў не на колах, як у большасці нашых чыгуначных гарадоў, а ледзь не вертыкальна, нібыта гэта не лакаматыў, а якая-небудзь паравая ракета. Тады я падумаў, што гэта не проста так, гэта змова, далібог змова супраць мяне. Бо для пачатку, я ўпершыню ляцеў на самалёце, які выявіўся мне хутчэй паветраным цягнікам, бо ў аэрапорце Шапэна мы селі праз хвілін сорак, а потым давялося чакаць яшчэ пяць гадзін, пакуль урэшце аб'явілі, што рэйс-такі затрымліваецца, а ў выніку яшчэ гадзіна чакання і прыкладна сорак пяць хвілін палёту. Тады я падумаў, якую ж рацыю меў мой спадарожнік, менскі паэт і перакладнік Андрэй Х., калі напісаў верш «Цягнік Чыкага-Токіё», які пачынаўся так:

*Сёння я дабіраўся*
*з Чыкага ў Токіё на цягніку,*
*бо калі самалёт ляціць*
*13 гадзінаў,*
*гэта ўжо цягнік.*

Наш пералёт заняў агулам 9 з нечым гадзінаў. Ва Уроцлаве мы селі недзе а дзясятай увечары. З вышыні аблокаў вечаровы горад са сваімі бясконцымі агнямі нагадвае вялізны пакой з безліччу свечак. Рамантычна, як і цягнік, які ляціць да зораў, а можа і да сонца. Як знаць?

Аб адзінаццатай мы былі ў гатэлі. Аглядаць раскошны і багата абстаўлены пакой, у які мяне засялілі, не было ані часу, ані фізічных магчымасцяў. Пасля душу я плюхнуўся на мяккі ложак у абдымкі цёплай і пяшчотнай коўдры.

Наступнага ранку прахапіўся досыць рана. На пачатку восьмай. Усё ж такі дзвюхгадзінная розніца ў часе адчуваецца вельмі моцна.

Паснедаўшы, выбраўся ў горад.

Звычайная еўрапейская зіма. Хутчэй падобная да ранняй беларускай вясны. Сонца ідзе па тратуарах, ступаючы, нібыта яшчэ непрабуджанае дзіця, ленавата і развольна. Снег тут з'ява рэдкая і нядоўгая, таму хіба што ўпрыгожаныя цацкамі ялінкі нагадваюць пра тое, што неўзабаве Каляды. На Рынкавай плошчы толькі-толькі расчыняюцца сувенірныя лаўкі, людзей няшмат. Зайшоўшы на пошту, цікаўлюся, колькі каштуе перасылка бандэрольки ў Лондан. Трэба павіншаваць аднаго паважанага чалавека. Даведаўшыся, што пошта працуе кругласутачна, я вырашыў адкласці справу да вечара.

А на вуліцы пахне Раством. Ярмарка расчыняе свае вакенцы, і водар вэнджанага мяса і кіўбасаў круціў у носе, так і вабячы да сябе. Драўляныя цацкі, вырабы з гліны, метала, усё, чаго і ў нас апошнім часам хапае, але такіх ярмарак і кірмашоў пакуль няма.

Фатаграфуючы краявіды, вока зачапілася за нейкую дзіўную фігурку на ліхтарным слупе. Толькі прыгледзеўшыся, зразумеў, што гэта гномік, які вісіць уніз галавою. Я зусім забыўся, што Уроцлаў — горад, дзе гномаў можна сустрэць у самых розных і нечаканых месцах. Існуюць нават спецыяльныя мапы і шляхаводы, на якіх пазначана, дзе знаходзяцца гэтыя самыя гномы, якія ў іх мянушкі, гісторыя і да т. п. Самае цікавае, што гномы тут з'яўляюцца рэгулярна, пачынаючы з 2001 года. Цяпер іх налічваецца штосьці каля трохсот, хаця іх нярэдка і крадуць — прыезджыя або мясцовыя, невядома, але сама па сабе з'ява файная (я маю на ўвазе не крадзеж гномаў, а іх з'яўленне), да таго ж спрыяе турыстычнаму бізнэсу.

Экскурсія па горадзе, прапанаваная арганізатарамі, хутчэй нагадвала азнаямляльную праходку. І гэта было лепей, чым спрынт з якім-небудзь картавым гідам.

Як заведзена, усякае мерапрыемтсва такога кшталту, пачынаецца з цэнтра, у нашым выпадку гэта была, вядома, Рынкавая плошча і ратуша. Пасля традыцыйны паход па культавых месцах і касцёлах.

Больш за ўсё ўразіла ўкраінская ўніяцкая царква, у якую нас ласкава запрашала гаваркая жанчына сталага веку. З уласцівым усім прадстаўніцам украінскай нацыянальнасці каларытным маўленнем, яна паспела за некалькі секунд запрасіць нас на імшу, распавесці пра гісторыю ўкраінскай уроцлаўскай дыяспары і пра храм. Уся кампанія застыгла на месцы і не мела магчымасці нават міргнуць, а не тое, каб адкрыць рот. І пасля такой палымянай прамовы прагучала наступная фраза, ужо па-руску, з пераскокам на польскую — «А вы хоць што-небудзь зразумелі?». Так магла сказаць толькі жанчына са славянскай супольнасці.

Яшчэ адна славутасць, якая чамусьці ніяк не ідзе з памяці, гэта мост праз Одэр, увесь завешаны замкамі з імёнамі закаханых. Вядома, такога дабра паўсюль, як бобу, але тутэйшыя замочкі ўсе як адзін і розніца хіба толькі колерам. Аказваецца, гэта таксама бізнес. Блізка моста сядзіць спецыяльны чалавек, які гандлюе не толькі замкамі, але і маркерамі, каб адразу ж і напісаць доўгачаканыя словы.

«Пераход», альбо другая назва гэтай інсталяцыі, якая знаходзіцца на скрыжаванні вуліцаў Пілсудскага і Швідніцкай, «Помнік ахвярам вайсковага становішча». Ён вельмі ўражвае натуральнасцю і жвавасцю формаў. Бронзавыя людзі з аднаго боку спускаюцца пад зямлю, прабіваючы брук і выходзяць гэткім самым чынам на другім баку.

Гледзячы на гэтых людзей, усведамляеш, аж можна і вось так — ісці й на сцяну, і праз сцяну, і змагацца да апошняга.

Пасля смачнага абеду пабег на пошту і па гасцінцы дачцэ і жонцы. Таму распавесці тут і няма чаго. А пяройдзем лепш да самага галоўнага — прычыны майго прыезду ва Уроцлаў.

Дык вось. Усё пачалося са слова, дакладней паэтычнага слова. А калі быць яшчэ больш дакладным, то з перакладу вершаў цудоўнай польскай паэткі Віславы Шымборскай на рускую, беларускую і ўкраінскую мовы. Цырымонія ўганаравання, як почасту бывае, прайшла ўрачыста, пафасна і з шыкам. Пасля быў фуршэт, многа смачнага і цікавага, вершы, пераклады, песні, карысныя знаёмствы і шмат чаго яшчэ.

Такім застаўся ў маёй памяці горад нябёснай чыгункі і сталіца Сілезіі — Уроцлаў.

**Алесь Шыловіч**

Літаратурная Беларусь
**Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.**
Тэлефон для даведак: **(8-017) 200-80-91.** Адрас электроннай пошты: **sbp@tut.by**

# Нашто Польшчы кароль?

Алег НОВІКАЎ

**Епіскапат Польшчы вырашыў, што краіне патрэбны кароль, якім можа стаць толькі Ісус Хрыстос. Таму 19 лістапада 2016 года ў сілезскім горадзе Лагевнікі (Łagiewniki) адбудзецца акт «intronizacja» — узваходжанне на трон. Іншыя дэталі імпрэзы зараз абмяркоўваюцца сярод кіраўніцтва кліру і каталіцкай грамадскасці.**

Каб зразумець, у чым сэнс незвычайнай ініцыятывы, патрэбны экскурс у гісторыю пытання. І перш за ўсё трэба нагадаць, што Польшча прыняла хрысціянства ў 966 годзе. Таму на ўсе юбілеі, нават не круглыя, актывізуецца клерыкальная частка палякаў. Так было і ў 2006 годзе, калі адзін з дэпутатаў ад кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) прапанаваў Сейму абвясціць Ісуса каралём Польшчы. Матываваў ён гэта тым, што «тысячагадовая гісторыя польскага народа пачынаецца хрышчэннем Польшчы ў 966, дзякуючы чаму наша радзіма сфармавалася як дзяржава». Таксама палітык акцэнтаваў увагу на тым, што «ідэнтычнасць польскага народа неаддзельная ад каталіцкай веры».

Прапанова падалася тады шмат каму дзіўнай. Незвычайны законапраект пра караля Ісуса падтрымалі толькі 46 дэпутатаў. Нават сярод сябраў фракцыі PiS адзінай думкі наконт ідэі не было. Напэўна, гэта было таксама звязана з асцярожнай пазіцыяй царквы, якая на той час не мела кансалідаванай думкі на гэты конт. Напрыклад, адзін з біскупаў пабачыў тут спробу ўмяшання дзяржавы ў справы Касцёлу.

Хапала і тэалагічных нестасовак. Напрыклад, не зразумела, нашто абвяшчаць Хрыста каралём, калі ён па біблейскай аксіёме і так сын Божы. «Замест гэтага (абвяшчэння Ісусам каралём) мы павінны прызнаць і прыняць яго царства, падпарадкавацца яго ўладзе, моц якой даруе нам магчымасць пачаць жыць новым жыццём, з перспектывай жыць вечна», — гаварылася ў адным з царкоўных дакументаў 2012 года.




Фота www.dpp24.blogspot.com

**Яшчэ ў тэзісах да святкавання 1050-й гадавіны хрышчэння Польшчы кіраўніцтва царквы ўзгадала ідэю прызначэння каралём Ісуса. Улада, якая цалкам кантралюецца прадстаўнікамі партыі «Права і Справядлівасць», напэўна, таксама не будзе супраць**

Блытаніну ў мазгах выклікаў і той факт, што ў свой час польскі Касцёл надаў Дзеве Марыі тытул каралевы Польшчы. Фармальна, гэтаму папярэднічала гісторыя аднаго езуіта, якому двойчы ў трансе прыходзіла Дзева Марыя, патрабуючы, каб яе называлі каралевай Польшчы. Аднак, хутчэй за ўсё, гэта стала наступствам каласальнай папулярнасці асобы Божай Маці ў Польшчы і ў ВКЛ, дзе віленскі Вострабрамскі абраз у 1620 годзе стаў першым прызнаным аб'ектам гэтага культу.

Паспяховая абарона Яснагорскага манастыра ад шведаў у 1655 годзе — ключавы эпізод у эпапеі вызвалення Рэчы Паспалітай — успрынялі як цуд Божай Маці, якую 1 красавіка 1656 года ў Львове кароль Ян ІІ Казімір Ваза абвясціў каралевай. З улікам апісанай вышэй ідэі прызначыць Ісуса каралём, усё выглядала як нейкі пераварот супраць Дзевы Марыі, паколькі ў адным каралеўстве не могуць быць адначасова два роўных у правах манарха. Гэтая супярэчнасць таксама тармазіла рэалізацыю праекта.

Мяркуючы па ўсім, на сённяшні згаданыя тэалагічныя праблемы вырашаныя. Яшчэ ў мінулым годзе ў тэзісах да святкавання 1050-й гадавіны хрышчэння Польшчы кіраўніцтва царквы ўзгадала ідэю прызначэння каралём Ісуса. Цяпер дзяржаўная адміністрацыя, якая цалкам кантралюецца прадстаўнікамі партыі «Права і Справядлівасць», напэўна, таксама не будзе супраць.

У прынцыпе, гісторыя з каралевай Марыяй дае падставы казаць, што запланаваная «intronizacja» — гэта ўнутраная справа царквы і яе вернікаў. Абвяшчэнне Ісуса каралём Польшчы не будзе мець нейкіх прававых наступстваў. Прынамсі, каралеўскі тытул Дзевы Марыі ніяк не ўплывае на польскі палітычны працэс.

Аднак шмат палякаў так не думае. Ідэя пра караля Ісуса была агучаная ў вельмі напружанай грамадска-палітычнай атмасферы, калі шмат каму паўсюль бачацца нейкія інтрыгі апанентаў. Кансерватыўныя рэформы ўраду PiS ужо вывелі на вуліцы ліберальную частку грамадства, з якой салідарныя ў Брусэлі, дзе кажуць пра пагрозу пуцінізацыі краіны. Праз прызму наступу на грамадзянскія свабоды шмат хто разглядае і тэму пра каралеўскі тытул для Ісуса. Напрыклад, ліберальныя экспертамі прапануецца версія пра тое, што кансерватары намагаюцца папулярызаваць у народзе тэрмін «манархія», «кароль», што паслабляе крытыку на адрас аўтарытарнага курсу PiS.

Пра канспіратыўную прыроду праекту караля Ісуса, маўляў, таксама сведчыць і гісторыя ідэі, якую раскапалі антыклерыкалы. Па іх словах, у Касцёле не могуць не ведаць, што раней — у 1920-м, 1951-м і 1969-м — Ісуса ўжо абвяшчалі польскім каралём. У першым выпадку цырымонія праходзіла ў прысутнасці ўсяго епіскапату. Апошні два выпадкі мелі месца ў сацыялістычнай Польшчы і былі хутчэй акцыямі пратэсту каталікоў супраць дыктатуры камуністаў. Пытанне — нашто зноў рабіць тое, што ўжо мела месца?

Праект з каралём таксама разглядаюць як першы крок наступу царквы на свецкі характар Трэцяй Рэчы Паспалітай. Некаторыя ліберальныя калумністы прагназуюць, што Польшча ў выніку маштабных святаў з нагоды каранацыі можа ператварыцца ў краіну накшталт Турцыі, дзе рэлігія вельмі моцна ўплывае на профіль уладных інстытутаў. Грамадства пужаюць тым, што кансерватыўная палітычная эліта дзеля рэйтынгаў не спыніцца перад тым, каб сапраўды абвясціць Польшчу каралеўствам.

Цікава, што сярод ліберальных крытыкаў праекту хапае тых, хто ўскладае апошнюю надзею на Ватыкан. «Вы хочаце, каб ваш фанатызм прывёў да таго, што сам Папа Рымскі будзе вымушаны ўмяшацца, каб спыніць гэтыя блюзнерскія планы? Нельга ўявіць, што Ісус марыў апранацца ў футра з гарнастаю або насіць залатую карону. Няўжо Рымскі Папа адказны за ўсе каталіцкія народы, дазволіць, каб толькі адзін з гэтых народаў называўся «падданыя Хрыста». Няўжо тое, што вы робіце, можа быць сумяшчальна з дактрынай руху, які называе сябе каталіцкі Касцёл?» — абураецца ліберальны часопіс «Polityka».

Пакуль у Ватыкане не пракаментавалі цяперашнія дэбаты ў Польшчы, аднак з улікам імклівa нарастаючых эмоцый, думаецца, нейкую рэакцыю можа чакаць.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Цяпер відавочна, што «братэрская інтэграцыя» цалкам праваліласяя ўшчэ і эканамічна: скончылася халява, Расія становіцца слабай ад вельмі таннай нафты і санкцый, а вось Беларусь ужо страціла 20 гадоў без рэформаў. У будучыні цяжкая спадчына «братэрскай інтэграцыі» менавіта ў выглядзе каласальнай залежнасці ад суседняй Масквы ва ўсіх сферах Беларусі будзе заступаць дарогу да дэмакратычнага самастойнага развіцця, нейтралітэту, да Еўропы. Таму сёння беларуская ўлада адчайна манеўруе і спрабуе стварыць пэўныя геапалітычныя працівагі.

**«Диалог» (Украіна)**

Падаецца, беларускае кіраўніцтва зрабіла вельмі небяспечную стаўку на «беларусізацыю», якая заключаецца ў адрыве краіны ад Расіі, пазіцыянаванні яе як часткі Заходняга свету, якая павінная быць не ў саюзе з Масквой, але рухацца насустрач Брусэлю і Вашынгтону. Уся гэтая палітыка відавочна нічым добрым не скончыцца, і чым хутчэй кіраўніцтва Беларусі ўсвядоміць усю бесперспектыўнасць узятага ім курсу, тым лепш і для яго самога, і для краіны, якой яно кіруе. Распаўсюджваннем антырасійскіх настрояў у Беларусі варта заклапаціцца і нашай краіне, якая, калі не хоча страціць яе гэтак жа, як і Украіну, павінна пачаць дзейнічаць для прадухілення нацыяналістычнай пагрозы.

**«Колокол» (Расія)**

Расія разбярэцца з незалежнасцю Беларусі — Аляксандра Лукашэнку вывезуць у Падмаскоўе, туды ж, куды і Віктара Януковіча. Прэтэнзіі беларускай грамадскасці наўрад ці будуць значнымі. З «Беларускай федэральнай акругі» Расія будзе спрабаваць прабіваць калідор да праблемнай Калінінградскай вобласці.

**«Нова Україна» (Украіна)**

Усе меры, што прымаюцца беларускім урадам у бягучым годзе, якія будуць спрыяць выхаду эканомікі краіны з крызісу, так ці інакш адаб'юцца на скарачэнні даходаў насельніцтва і будуць непапулярнымі. У беларускай дзяржавы на разнастайныя прэферэнцыі і датацыі, якія практыкаваліся раней, сёння проста больш няма грошай.

**«Deutshe Welle» (Германія)**

Навошта «бацьку» гэта трэба? Чаму ён у апошні час дэманстратыўна ігнаруе (або нават негалосна заахвочвае) нацыяналістаў? Адзіным больш-менш лагічным тлумачэннем можа быць шантаж Расіі. Па прынцыпе: «Дайце грошай, а не то да ўлады прыйдуць вось гэтыя!». Але калі Лукашэнка сапраўды задумаў такую рызыкоўную гульню, то яна можа для яго вельмі дрэнна скончыцца. Нават горш, чым для Януковіча, бо Расія можа і не даслаць за ім верталёт.

**«Москотон» (Расія)**

Не абыходзіць Захад сваёй увагай і Рэспубліку Беларусь, разлічваючы на тое, што з сыходам Лукашэнкі з пасады прэзідэнта з лаяльнасцю Беларусі да Расіі будзе скончана. А Беларусь можа рухацца да ўстанаўлення сувязяў з суседзямі і патэнцыйна да стварэння блока, падобнага на польска-літоўскую садружнасць, які будзе ўключаць у сябе Украіну і краіны Балтыі. ЗША з-за доўгатэрміновай зацікаўленасці ў стрымліванні Расіі такі блок, хутчэй за ўсё, падтрымае.

**«Рабочая газета» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Дзіцячая праграма толькі для заможных

У ЗША пачаўся 46-ы сезон самай папулярнай у краіне дзіцячай праграмы «Вуліца Сезам» (Sesame Street). Ужо першыя выпускі выклікалі скандал, паколькі аўтары праграмы цалкам змянілі яе канцэпцыю. Традыцыйна амерыканская праграма была арыентаваная на дзяцей, якім не хапае ўвагі ў сям'і, дзяцей з не вельмі заможных сем'яў. Таму антураж і героі праграмы выглядалі дастаткова проста, і нават недзе прымітыўна. У гэтым сезоне лялькі з «Вуліцы Сезам» носяць шыкоўныя касцюмы, жывуць у дамках, падобныя на асабнякі япі, актыўна карыстаюцца дарагімі мабільнымі тэлефонамі і г.д. Такі падыход не спадабаўся прыхільнікам традыцыйнага фармату. У сваю чаргу, вытворцы цяперашняй «Вуліцы Сезам» кажуць, што часы мяняюцца і, адпаведна, мяняюцца задачы дзіцячых праграм. Цяпер трэба з дзяцінства вучыць дзіця «выконваць функцыі ў калектыве» і адначасова «самастойна думаць». Пра неабходнасць пераменаў сведчыць і статыстыка — за тры апошнія сезоны праграма настолькі страціла папулярнасць, што дырэкцыя публічнага каналу, на якім яе дэманстравалі, нават думала зачыніць праект. У выніку правы на праграму набыла прыватная студыя HBO. Тое, што канал HBO глядзіць, як правіла, моладзь і сярэдні клас, відавочна, таксама паўплывала на новую формулу «Вуліцы Сезам».

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ТУРЦЫЯ. Партыі фінансуюць расійскую апазіцыю

Расійская патрыятычная прэса канстатуе, што турэцка-расійскі канфлікт прывёў да росту інтарэсу да панцюркізму ў нацыянальных аўтаноміях. Больш за тое, турэцкія партыі не супраць фінансава падтрымаць праекты, якія выступаюць за пашырэнне правоў нацменаў у Расіі. Так, стала вядома, што адна з правых турэцкіх арганізацый прафінансавала выданне ў Татарстане газеты «Тюркский взгляд», асноўны лейтматыў якой — неабходнасць узмацнення адзінства цюркскіх народаў. Хаця маладыя татарскія актывісты, якія распаўсюджвалі «Тюркский взгляд», кажуць, што самі сабралі сродкі на друк, ім мала хто верыць. Выданне двух выпускаў газеты на 16-ці старонках накладам у 5000 экземпляраў патрабуе пэўных сродкаў. На думку расійскай прэсы, грошы маладыя татары атрымалі ад нацыяналістычнай турэцкай групоўкі «Ulku Ocaklari».

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. Як рэабілітаваць Пятлюру?

У рамках урачыстасцяў Дня Саборнасці Украіны прэзідэнт Пётр Парашэнка абвясціў пра намер шырока адзначыць стогадовы юбілей стварэння Цэнтральнай Рады, якая паўстала ў 1917 годзе і стала падмуркам украінскага дзяржаўнага адраджэння. З гэтай нагоды таксама плануецца адчыніць у Кіеве помнік Сымону Пятлюры — аднаму з лідараў Цэнтральнай Рады і створанай пазней дырэкторыі Украінскай Народнай Рэспублікі (УНР). Аднак пры гэтым узніклі праблемы. Справа ў тым, што ў сакавіку 1920 года Пятлюра пагадзіўся аддаць Польшчы Заходнюю Украіну ў абмен на падтрымку ў барацьбе з бальшавікамі. Гэта рашэнне выклікала такое незадавальненне сярод заходніх украінскіх нацыяналістаў, што яны нават заявілі пра выхад краю са складу УНР. Вырашэнне праблемы бачыцца ў тым, каб даводзіць арыгінальную тэзу пра тое, што знаходжанне заходніх украінцаў у складзе Польшчы выратавала іх ад Галадамору, ахвярамі якога сталі ўкраінцы, якія апынуліся ў СССР. Праўда, гэта яшчэ не самая вялікая праблема. Ізраільская прэса ў сувязі з заявай Парашэнкі актыўна ўзгадвае, што імя Пятлюры было звязанае з яўрэйскімі пагромамі.

**Паводле ўкраінскай і ізраільскай прэсы**

### ЗША. Панды — зброя Кітаю

Амерыканская правая прэса асудзіла моду сярод суайчыннікаў на TianTian — панду з вашынгтонскага заапарку, якая стала ўлюбёнцам усёй Амерыкі. Усё дзякуючы шматлікім відэа пра мядзведзя, які вядзе вельмі актыўны лад жыцця. На думку кансерватараў, грамадства забывае, што Пекін праводзіць спецыяльную палітыку, каб увесь Захад быў у захапленні ад пандаў. Справа не ў тым, што інтарэс да жывёлы выклікае добрае стаўленне да Кітаю і яго рэжыму. Напрыклад, атрымаць панду з Кітаю ў арэнду замежнаму заапарку вельмі цяжка, хаця за гэта гатовыя плаціць да мільёна долараў за год. У доказ тэорыі прыводзяцца цікавыя факты. Напрыклад, у заапарку Эдынбурга панда з Кітаю з'явілася пасля таго, як у Шатландыі перамагла партыя нацыяналістаў, што выступае за супрацоўніцтва з КНР. Адпаведна, бацькі шатландскіх дзяцей баяцца, што панды знікнуць з мясцовага заапарку ў выпадку правалу нацыяналістаў, і маюць стымул галасаваць за іх. Аўтары прапануюць быць больш пільнымі адносна кітайскай камуністычнай прапаганды, аднак альтэрнатывы пандам прапанаваць не здольныя.

**Паводле брытанскай прэсы**



Фота www.ravilasadov.wordpress.com

# Цяжкія часы Аліева

Алег НОВІКАЎ

**Азербайджан перажывае ці не самы глыбокі крызіс за ўсе гады праўлення прэзідэнта Ільхама Аліева, што праяўляецца ў росце пратэстных акцый у адной з самых моцных паліцэйскіх дзяржаў зоны СНД. Бакінскі эколаг і эканаміст Намік Мамедаў у інтэрв'ю НЧ дапамагае разабрацца ў сітуацыі.**

***— Наколькі моцна адбіўся нафтавы крызіс на эканоміцы Азербайджану і на становішчы людзей?***

— Спатрэбілася некалькі месяцаў, каб імклівы абвал коштаў на сыравіну пахаваў міф пра азербайджанскі эканамічны цуд і развеяў папулярныя тут арабскія міражы. Дастаткова сказаць, што з-за фінансавых праблем пад пагрозай правядзенне ў чэрвені ў Баку этапу «Формулы–1». Яшчэ ўчора ралі разглядалася як ледзь не галоўны доказ высокага аўтарытэту краіны ў свеце. Прыкладна з восені інфляцыя набыла галапуючы характар (манат упаў на 50 працэнтаў), што выклікала падзенне прыбыткаў насельніцтва і рост беспрацоўя. Адначасова ўзняліся кошты на асноўныя прадукты, прычым на некаторыя — на парадак за лічаныя дні. Паўстала праблема выплаты па крэдытах, якія паспелі нахапаць у лепшыя гады. Вось, напэўна, асноўныя прычыны масавых хваляванняў, якія гэтай зімой ахапілі правінцыю. На працягу студзеня выступы адбыліся прыкладна ў 10–12 населеных пунктах, спарадычна там-сям перарастаючы ў сутыкненні з паліцыяй.

***— Ці гучаць на правінцыйных пратэстах палітычныя лозунгі?***

— Практычна ўсе пратэсты маюць стыхійны характар, а іх патрабаванні не выходзяць за рамкі лозунгаў: даць працоўныя месцы або спыніць рост коштаў. Часта крытыкуюць мясцовых чыноўнікаў. У некаторых месцах бунт быў выкліканы дэфіцытам у крамах спіртных напояў і тытунёвых вырабаў, па прычыне іх продажу з 1 студзеня 2016 года па пластыкавых картках (пасля гэтую пастанову аператыўна скасавалі). Пакуль што толькі падчас адной акцыі можна было пачуць лозунгі за адстаўку ўраду і прэзідэнта.

***— Ці спрабуюць апаненты рэжыму Аліева неяк узначаліць цяперашнюю пратэстную хвалю?***

— Кажучы спартовымі тэрмінамі, апазіцыя выйшла на момант пачатку пратэстаў яўна не ў аптымальнай форме. У тым ліку таму, што аказалася эфектыўнай тактыка ўлады. Яна даўно намагаецца прыкарміць пэўную частку апазіцыі, абяцаючы яе сябрам у перспектыве парламенцкія мандаты. У выніку лагер дэмакратаў за апошнія гады страціў адзінства. Некаторыя, мроячы пра тыя мандаты, кінуліся імітаваць канструктыўных, так званых «незалежных», палітыкаў. Другія сканцэнтраваліся на крытыцы апартуністаў. Нарэшце, самыя радыкальныя аказалася ў турмах або ў эміграцыі. Яшчэ адзін палітычны накірунак — ісламісты — проста загнаныя ў падполле. Як вынік — нават уплывовых інфармацыйных рэсурсаў, каб уздзейнічаць на патрабаванні пратэстоўцаў, у апазіцыі цяпер не аказалася. Праўда, апазіцыянераў усё роўна на ўсялякі выпадак выклікалі куды трэба і папярэдзілі пра магчымую суровую адказнасць.

***— Адным з цэнтраў пратэсту стаў горад Ленкарань — сталіца кампактнага пражывання іранскага этнасу талышоў. Ці сапраўды меў гэты пратэст сепаратысцкі прысмак, як пішуць СМІ?***

— Хутчэй за ўсё, гэта спекуляцыі або пажаданні талышскай эміграцыі. Талышскі палітычны нацыяналізм, хаця і мае традыцыю (у 1993 годзе нават два месяцы існавала аўтаномная рэспубліка), знаходзіцца ў такім жа каматозным стане, як і іншыя апазіцыйныя сілы Азербайджану. Акцыя ў Ленкарані прайшла паводле гэткай жа схемы, што і ў іншых гарадах. Некалькі сотняў пратэстоўцаў пад сацыяльнымі лозунгамі перакрылі трасу на Баку. Пасля прыехалі паліцыя і прадстаўнікі мясцовай выканаўчай улады. Хаця паведамляецца пра шэраг затрыманых, у выніку, пасля размовы з чыноўнікамі ўсе пайшлі дахаты.

***— Якая рэакцыя ўлады на сітуацыю?***

— Безумоўна, улада баіцца палітызацыі выступаў. Нездарма крайнімі за пратэсты дзяржаўныя СМІ зрабілі не пратэстоўцаў, а так званых «спекулянтаў». Іх абяцаюць бязлітасна судзіць. Стаўка робіцца на раздачу пернікаў і дырэктыўнае кіраванне сітуацыяй. Улады намагаюцца неяк стабілізаваць курс маната, хаця афіцыйна Цэнтрабанк паслаў яго «ў вольнае плаванне». Узнятыя пенсіі і заробкі бюджэтнікам. Узмоцнены кантроль над коштамі на прадукты айчыннай вытворчасці. У ахвяру прынесеная частка мясцовай эліты. Тыя супрацоўнікі адміністрацый, якія пабаяліся выйсці і паразмаўляць з бунтуючым натоўпам, будуць пазбаўленыя пасадаў.

Актыўна працуе прапаганда, якая падводзіць абывацеля да дылемы: або Аліеў, або хаос лівійскай ці ўкраінскай мадэлі. У прынцыпе, градус пратэстаў трошкі знізіўся, аднак любая памылка ўраду можа зноў наэлектрызаваць сітуацыю. Большасць палітолагаў лічыць, што якасна сітуацыя можа змяніцца ў выпадку, калі пратэстны вірус правярэцца ў сталіцу.

Што да схемаў выжывання мясцовай эканомікі, то афіцыёз заклікае перачакаць неспрыяльны сезон. Ёсць думка, што вельмі хутка на рынку сыравіны пачнецца рост. Пакуль там усё сумна, можна нарасціць экспарт нашых памідораў у Кітай або ў Індыю. Аднак усё гэта гучыць не вельмі аптымістычна і трошкі абстрактна. З іншага боку, нейкая актыўная дыскусія пра мадэль, альтэрнатыўную цяперашняй, сапраўды пачалася, што, дарэчы, доўгі час было адным з патрабаванняў дэмапазіцыі.

# Кёльн і фемінізм

Алег НОВІКАЎ

**Навагодні гвалт у Кёльне ўжо адбіваецца на розных сферах грамадскага жыцця. У тым ліку гэта тычыцца феміністкага руху, які, падаецца, чакаюць вялікія перамены.**




Фота www.thenewslens.com

На першы погляд, кёльнская сітуацыя для феміністак простая. Нават без вынікаў следства і вердыктаў судоў факт сексуальных злачынстваў відавочны. Тое, што кажуць сведкі, шакуе. «Я ніколі такога не бачыла. Мужчыны скакалі на жанчын, быццам перад імі быў батут. Мяне трэба было прайсці 200 метраў да цягніку. За гэты час мяне мінімум сто раз хапалі за грудзі і столькі ж за сцёгны», — апісвае тую ноч адна з маладых немак у газеце «Welt am Sonntag». Такіх расповедаў дастаткова, каб канстатаваць злачынствы і рашуча асудзіць гвалтаўнікоў. У дадзеным выпадку падазрэнні, як правіла, падаюць на эмігрантаў з Сірыі. Аднак нават павярхоўны прагляд феміністычных СМІ ў той жа Германіі сведчыць, што большасць матэрыялаў пра Кёльн маюць не абвінаваўчы, а дыскусійны характар.

Гендэрны рух аказаўся разгубленым перад падзеямі ў Кёльне праз некалькі прычынаў. Справа не толькі ў тым, што вобраз іміграната ў тэорыі фемінізму часта экстрапаляваўся на вобраз жанчыны, якая, маўляў, таксама ёсць бяспраўным суб'ектам у сучасным грамадстве. Падтрымаць агрэсіўную кампанію супраць эмігрантаў будзе значыць для феміністак ліць ваду на млын правых папулістаў. Менавіта рост папулярнасці гэтых палітструктур фіксуюць сацыёлагі па слядах кёльнскіх падзей.

Прыход ва ўладу партый накшталт «Альтэрнатывы для Германіі» (AfD) — жудасны сон нямецкіх абаронцаў правоў жанчын. AfD наўпрост афішуе ідэю пра неабходнасць правядзення сямейнай палітыкі, якая павінна падпарадкоўвацца дзяржаўным і нацыянальным інтарэсам. Гэта, натуральна, не славутая ўстаноўка прускіх кансерватараў XIX стагоддзя: «Kuhe, Kinder, Kirche», аднак як мінімум рэвізія цяперашняга ліберальнага разумення статусу і ролі жанчыны ў соцыуме, права на недатыкальнасць яе прыватнага жыцця.

Асобна трэба адзначыць, што феміністычны рух гістарычна моцна звязаны з леваліберальнымі і экалагічнымі партыямі, якія, напэўна, найбольш паслядоўна крытыкуюць пуцінскі рэжым. Між тым, не сакрэт, што тая ж AfD з'яўляецца вядучым палітычным лабістам Пуціна ў Германіі. Тэма Кёльну, дарэчы, таксама адна з любімых у прамовах расійскіх прапагандыстаў.

**Адказнасць за кёльнскія падзеі феміністкі перакладаюць з мігрантаў на заходнюю масавую культуру, якая эксплуатуе жаночую сексуальнасць у камерцыйных мэтах**

Аднак заплюшчыць вочы на праблему Кёльна для феміністак таксама немагчыма. Выхад з сітуацыі розныя цэнтры вырашаюць па-рознаму. Некаторыя арганізацыі феміністак намагаюцца трымацца дагматычных левых прынцыпаў. Іх супрацоўнікі імкнуцца знайсці ў падзеях у Кёльне нейкія прыкметы таго, што гэта была добра прадуманая медыйная аперацыя, каб выкарыстаць тэму гвалту над жанчынамі як палітычны інструмент.

Звяртаецца ўвага на шмат дробных дэталяў. Напрыклад, на тое, што сярод кёльнскіх ахвяр былі і мусульманкі, і на тое, што ў 99 працэнтах гаворка ідзе пра дамаганні вербальнага характару, і тое, што Кёльн — гэта ледзь не сталіца турэцкай камуны ў Германіі, аднак засілле туркаў-мусульман не ўплывае на статыстыку сексуальных злачынстваў.

Самы галоўны пасыл — у тым, што ў ФРГ хапае падобных кёльнскаму злачынстваў, прычым стаяць за імі не орды намадаў-мігрантаў, а адукаваныя культурныя нямецкія бюргеры. Каб далёка не хадзіць, можна ўзгадаць славуты мюнхенскі піўны фестываль Актобэрфэст. Ён у тым ліку не абыходзіцца без скаргаў на сексуальны гвалт. Звычайна штогод такіх скаргаў каля 2–3, аднак спецыялісты лічаць, што на самай справе выпадкаў такога кшталту ў некалькі разоў больш. Увогуле, паводле статыстыкі, кожная сёмая жанчына ў Германіі мела праблемы на гэтай глебе, а ўсяго штогод па краіне фіксуецца 8 000 выпадкаў згвалтаванняў.

Фактычна, галоўную адказнасць за кёльнскія падзеі адны феміністкі перакладаюць з мігрантаў на заходнюю масавую культуру, якая на кожным кроку эксплуатуе жаночую сексуальнасць у камерцыйных мэтах. Сцвярджаецца, што ўзровень сексуальнай агрэсіі можна маштабна знізіць за кошт ціску грамадства на буйны капітал, які кантралюе кіно, прэсу, рэкламу.

Другія феміністкі спрабуюць знайсці залатую сярэдзіну. Яны гатовыя крытыкаваць сексізм, характэрны для вялікай колькасці мужчын-мігрантаў, аднак лічаць, што такія ж забабоны характэрныя і для шматлікіх еўрапейцаў. Таму рэакцыя жанчын на кёльнскія падзеі, на іх думку, павінна даць адпор на ўсіх франтах. Вялікую надзею гэта група феміністак ускладае на запланаваную на гэта лета ў Германіі рэформу артыкула Крымінальнага кодэксу аб сексуальных дамаганнях. Калі законапраект, які лабіруюць «Зялёныя» і хрысціянскія дэмакраты, пройдзе, то да катэгорыі такога цяжкага крымінальнага злачынства, як «згвалтаванне», будуць адносіцца таксама сексуальныя дамаганні.

Нарэшце, ёсць спробы цалкам перафарматаваць жаночы рух праз адмову ад левай традыцыі. «Сімптаматычная хвароба сучаснага фемінізму заключаецца ў тым, што ён думае дасюль шаблонамі 1968 года, калі з аднаго боку мы маем ахвяру — жанчыну або мігранта, а з іншага агрэсара — белага мужчыну», — піша французскае правае выданне «Valeurs actuelles». На думку выдання, будучыня руху за правы жанчын палягае ў нізавых ініцыятывах супраць вулічнага сексуальнага гвалту. Выданне лічыць, што такі рух будзе мець выразна антыіміграцкі фармат, паколькі трэнд росту атак на жанчын з боку мігрантаў відавочны. У якасці ілюстрацыі выданне палохае чытачоў экспартам імігрантамі ў Еўропу т.зв. taharrush gamea — практыкі, калі група сексуальна агрэсіўных мужчын бярэ жанчыну на вуліцы ў кола.

«Valeurs actuelles» не прыводзіць ніводнай назвы нейкай жаночай арганізацыі, якая падзяляе тэзісы пра неабходнасць новай мадэлі фемінізму. Аднак, напэўна, такі накірунак у фемінізме з'явіцца. 25 студзеня стала вядома, што ў Швецыі 15-гадовы мігрант зарэзаў 22-гадовую швэдку, што выклікала вельмі адмоўную рэакцыю па ўсёй Еўропе, рэакцыю, якая часам нагадвае ксенафобію.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Серыкжан Мамбеталін



Казахскі апазіцыйны палітык разам з грамадскім актывістам Ермекам Нарымбаевым быў прызнаны вінаватым у распальванні нацыянальнай нянавісці і асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі. Яны асуджаныя за рэпост на сваіх старонках у сацыяльных сетках фрагмента з кнігі «Вецер з вуліцы», аўтарства якой прыпісваецца лідару «Саюза мусульман Казахстана» Мурату Тэлібекаву. Пры гэтым справа была распачата на падставе ананімнага паведамлення, а асоба ананіма да гэтага часу не ўстаноўлена. Сам Серыкжан у каментарах пад рэпостам ясна даў зразумець, што ставіцца да зместу кнігі негатыўна. Нарэшце, кніга «Вецер з вуліцы» афіцыйна ў Казахстане не забароненая, а сам Тэлібекаў кажа, што ў арыгінальным варыянце часткі кнігі, за публікацыю якой асудзілі Мамбеталіна, увогуле не было. Яго нехта дапісаў пазней. Варта адзначыць, што сам Мамбеталін не ўяўляе вялікую пагрозу для рэжыму. Ён — былы кіраўнік гандлёвай палаты Казахстану, які нешта не падзяліў з кланам прэзідэнта і спрабаваў палітызаваць гэты канфлікт. Расправу над Мамбеталінам аналітыкі звязваюць са стартам выбарчай парламенцкай кампаніі. Такім чынам улада, маўляў, дасылае апазіцыі сігнал — сядзець і не рыпацца.

### Карл Більдт



Экс-прэм'ер і экс-кіраўнік МЗС Швецыі можа ўзначаліць урад Украіны. Паводле інфармацыі ўкраінскага сайта «Главком», у адміністрацыі прэзідэнта Парашэнкі актыўна прапрацоўваецца такі варыянт. Більдт у час Еўрамайдану сапраўды займаўся ўкраінскай тэматыкай. Таксама Більдт — палітык з шырокімі сувязямі, які можа на роўных дамаўляцца з міжнароднымі донарамі Украіны. Прыход Більдта мог бы таксама часткова зняць з Парашэнкі маральную віну за крызіс, якую можна «павесіць» на Кабмін Яцанюка, вярнуўшы расчараваным украінцам медыйную веру ў цуд, што паабяцае зрабіць «вараг». Нарэшце, як гаворыцца ў публікацыі «Главкома», «Більдт не нясе пагрозы для палітычных перспектыў самога Парашэнкі». Ёсць і мінусы. Більдт вядомы як заўзяты крытык шведскай сацыяльнай мадэлі, і яго антысацыяльныя пасажы і ўчынкі могуць хутка падарваць давер да новага кабінету. Стаўка на Більдта таксама можа сведчыць пра глыбіню ўнутрыпалітычнага крызісу ва Украіне, дзе няма ніводнага палітыка з агульнанацыянальным аўтарытэтам. У любым выпадку, лёс прэм'ерства Більдта будзе вядомы вельмі хутка. У Кіеве пачаўся ўрадавы крызіс, выкліканы патрабаваннем кіраўнікоў трох з чатырох фармуючых урадавую большасць фракцый ад Парашэнкі прызначыць новага прэм'ера.

### Мігель Анхель Мансера



Кіраўнік федэральнай акругі Мехіка дабіўся таго, за што амаль 200 гадоў змагаліся жыхары сталіцы — парламент Мексікі ўхваліў рэформу, якая змяняе статус горада, ствараючы на месцы федэральнай сталічнай акругі новы штат — «горад Мехіка». Да гэтага моманту ў Мексіцы існаваў 31 штат і асобная тэрытарыяльная адзінка — федэральная акруга, якая мела асаблівы статус. З 1824 года гэтая адмысловая тэрытарыяльная адзінка была месцам размяшчэння цэнтральных уладаў Мексікі і не адносілася ні да аднаго штату. Цяпер Мехіка, калі стане штатам, зможа прыняць сваю Канстытуцыю, атрымае фінансавую і падатковую незалежнасць ад рашэнняў цэнтральных уладаў, а новага мэра нельга будзе зняць нават рашэннем сената. З улікам таго, што менавіта ў сталіцы сканцэнтраваны фінансы, можна казаць, што рост статусу горада паўплывае на будучыню ўсёй краіны. Паколькі Мехіка — адзін з самых вялікіх гарадоў у свеце, змяненні могуць паскорыць падобныя працэсы ў іншых краінах, дзе сталіцы патрабуюць дадатковых правоў. Сярод іх Вашынгтон: сталіца ЗША ўваходзіць у федэральную акругу Калумбія, якая, не будучы штатам, не мае свайго прадстаўніцтва ў парламенце, хаця падаткі жыхары Вашынгтону ў федэральны бюджэт плацяць.


ДАК у памежнай зоне пад Брэстам


Немцы ля знішчанага савецкага ДАКа


Знішчаны савецкі танк БТ-7


Нямецкі кулямётчык ля знішчанага савецкага ДАКа

# БЛУР: ні дапамогі, ні пашаны


Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У чэрвені 1941 года першы ўдар вермахта сустрэлі не толькі савецкія памежнікі, але і жаўнеры ўмацаванага раёна Чырвонай Арміі, які быў пабудаваны на новай савецка-германскай мяжы. Гераізм гэтых абаронцаў заслугоўвае ўвагі.**

### «Новая» і «старая» мяжа

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР дзяржаўная мяжа перамясцілася на сотні кіламетраў на Захад, і ўжо там трэба было будаваць абарончыя лініі. Пры гэтым пра ўмацаванні на былой «рыжскай» мяжы быццам бы забылі. Крэмль засяродзіў сваю ўвагу на будаўніцтве ўмацаванняў на захадзе савецкай Беларусі. У гэтым сэнсе брэсцкі накірунак адыгрываў важнейшую ролю. Ужо ў чэрвені 1940 года тут пачалося ўзвядзенне 62-га Брэст-Літоўскага ўмацаванага раёна (БЛУР). Планавалася, што ён будзе прыкрываць 180 кіламетраў памежнай тэрыторыі, а ў яго паласе будзе эфектыўна абараняцца савецкая 4-я армія. У Маскве разлічвалі падрыхтаваць тут каля 400 доўгатэрміновых умацаваных кропак рознага тыпу (у тым ліку і артылерыйскіх паўкапаніраў), аднак удалося пабудаваць толькі палову. Кіраваў гэтай працай геній савецкай фартыфікацыі генерал-лейтэнант Дзмітрый Міхайлавіч Карбышаў, які пасля фінскай кампаніі Чырвонай Арміі быў упэўнены, што добра падрыхтаваныя абарончыя збудаванні могуць стрымаць нават самы моцны ўдар ворага (фінская «Лінія Манергейма» з гэтай роляй выдатна справілася). Камендантам Брэсцкага ўмацраёна быў генерал-маёр Міхаіл Пузыраў.

### З чым сустрэлі немцаў

У 62-гі БЛУР, які канчаткова быў сфармаваны 4 чэрвеня 1941 года, уваходзіла тры (16, 17, 18) асобныя кулямётна-артылерыйскія батальёны (АКАБ), па 350–400 чалавек кожны. 16-ты батальён займаў пазіцыі ля Драгічына, 17-ты — у раёне Сямятыч, 18-ты — у Брэсце (3-я рота з яго складу несла службу ля Воўчына). Штаб умацраёна першапачаткова знаходзіўся ў Брэсце, аднак 20 чэрвеня 1941 года быў пераведзены ў Высока-Літоўскае. ДАКі на новай мяжы былі ўзброены амаль ідэнтычна з тымі, што стаялі пад Мінскам, Полацкам, Мазыром (76 мм і 45 мм гарматы, кулямёты «Максім» і кулямёты Дзегцярова).

Бетонныя ўмацаванні на Бугу былі першымі, хто сустрэў пяхоту вермахта раніцай 22 чэрвеня 1941 года. У раёне Казловічы — Рэчыца мужна змагаліся байцы 18-га кулямётна-артылерыйскага батальёна. Немцы спрабавалі знішчыць гарнізоны савецкіх умацаванняў агнямётамі. Штаб батальёна знаходзіўся на Поўнач ад Брэста, у так званых «чырвоных казармах», і сваёй ролі ў кіраванні абароны не адыграў. Вось як апісваў першыя гадзіны вайны старшы палітрук Фёдар Кокін:

«Калі пачаўся абстрэл горада, я пабег у 18-ты батальён. Гарэлі казармы, склады. З крэпасці беглі жаўнеры, многія ў адной бялізне, без зброі. Хутка пасля мяне ў гарадок прыбег начальнік хімслужбы малодшы лейтэнант Сёмкін. Мы адчынілі склады, выдалі вінтоўкі, гранаты і патроны байцам. Усё гэта адбывалася пад агнём фашыстаў. Хутка з'явіліся немцы. Мы сустрэлі іх агнём. Ворагі заляглі, а нас абстраляла артылерыя».

Самі ж гарнізоны ДАКаў 18-га батальёна, якія не мелі сувязі са штабам, на паўднёвай ускраіне Брэста адбілі 11 нямецкіх атак і знішчылі каля 400 жаўнераў вермахта. Ліквідаваць агнявыя кропкі ўдалося толькі тады, калі ў іх гарнізонаў скончыліся боепрыпасы. Ля вёсак Агароднікі — Арляя — Навасёлкі немцы абстэльвалі савецкія доўгатэрміновыя ўмацаванні з гармат, аднак «кропкі» трымаліся некалькі дзён. Усяго, паводле беларускіх даследчыкаў, з 258 байцоў і камандзіраў 18-га батальёна выжыць і прабіцца да сваіх удалося адзінкам.

### Стаялі на смерць

У раёне Сямятычы (зараз Польшча) абараняліся жаўнеры 17-га артылерыйска-кулямётнага батальёна, якім камандаваў былы памежнік, капітан Аляксей Паставалаў. Ужо ў першыя гадзіны вайны ротныя ўчасткі абароны апынуліся ў акружэнні. 1-я рота прыкрывала шашу на Сямятычы. У яе склад увайшла група памежнікаў. Байцы аднаго з паўкапаніраў падбілі нямецкі бронецягнік і знішчылі значную колькасць пяхоты праціўніка на чыгуначным мосце. Некаторыя «кропкі» змагаліся тыдзень. Дарэчы, разам з камандзірамі ў ДАКах знаходзіліся іх жонкі і дзеці. Некаторыя з іх загінулі, іншым удалося прабіцца да сваіх. Калі ў 1944 годзе савецкая армія выйшла на лінію дзяржаўнай мяжы пад Брэстам, жаўнеры знайшлі ў разбітых умацаваннях напаўспарахнелыя целы чырвонаармейцаў і камандзіраў у даваенных гімнасцёрках.

Немцы высока адзначалі гераізм абаронцаў савецкіх ДАКаў (дарэчы, як на новай мяжы, так і на старой, «рыжскай»). У адным з данясенняў 293-й дывізіі вермахта адзначалася: «На чале гарнізона заўсёды былі афіцэры. Яны і іх падначаленыя абараняліся да апошняга патрона. Адбывалася і так, калі нашыя жаўнеры ўваходзілі ў знішчаны ДАК, яны падвяргаліся абстрэлу. Патрабаванне аб здачы ў палон не аказвала ніякага ўплыву на абаронцаў». Дарэчы, пра ўпартасць баёў на лініі ДАКаў пад Брэстам сведчыць і той факт, што па некаторых дадзеных для знішчэння гарнізонаў умацаванняў на ўчастку 3-й роты 17-га батальёна немцы вымушаны былі выкарыстаць атрутныя газы. Адной з апошніх кропак, якая абаранялася на гэтым участку, быў ДАК «Арол». Яго супраціў быў падаўлены... 3 ліпеня 1941 года. Пасля баёў на месцы знішчанага ўмацавання было знойдзена больш за 20 цел чырвонаармейцаў — іх пахавалі побач з бетоннай крэпасцю, якую яны абаранялі да апошняга.

**Часткі вермахта, якія перайшлі савецкую мяжу, не затрымліваліся ля савецкіх ДАКаў, а ішлі наперад**

### І адзін воін

Паміж вёскамі Крупіца і Путкавіцы змагаўся 16-ты кулямётна-артылерыйскі батальён. Яго жаўнерам удалося знішчыць некалькі нямецкіх танкаў. Справа ў тым, што тут савецкае каманданне зрабіла імправізаваныя агнявыя кропкі з укапаных у зямлю танкаў без рухавікоў. Ля вёскі Заенчыкі ў ДАКу абарону трымаў адзін чырвонаармеец. З дапамогай кулямёта «Максім» ён адбіў некалькі нямецкіх атак, але пазней трапіў у палон і быў забіты. Сем дзён змагаўся ДАК ля вёскі Машона Крулеўская. Яго гарнізон складаўся з шасці радавых і 12 маладых лейтэнантаў, якія 21 чэрвеня прыбылі на новае месца службы са Смаленскага пяхотнага вучылішча. Усе яны загінулі.

Падчас баёў на лініі дзяржаўнай мяжы пад Брэстам загінуў камендант Брэсцкага ўмацаванага раёна, генерал-маёр Міхаіл Пузыроў. Рэшткі 17 і 18 батальёнаў змаглі адысці на Усход і спалучыліся з 49-й стралковай дывізіяй РСЧА. У жніўні 1941 года савецкае каманданне спрабавала рэанімаваць 62-і ўмацаваны раён на Поўнач ад Ельні, аднак нямецкае наступленне ў кастрычніку таго ж года канчаткова знішчыла гэтую вайсковую адзінку. Усяго з 1500 байцоў і камандзіраў БЛУРа да канца вайны дайшло не больш за 30 чалавек.

***

Часткі вермахта, якія перайшлі савецкую мяжу раніцай 22 чэрвеня 1941 года, не затрымліваліся ля савецкіх ДАКаў і іншых умацаванняў, а ішлі наперад. Пакінутыя ў тыле бетонныя агнявыя кропкі знішчалі сапёры і штурмавыя групы. З другога боку, гарнізоны ДАКаў да канца выканалі загад і на некаторых участках затрымалі прасоўванне вялікіх тактычных адзінак немцаў (нават дывізій). Абаронцы гэтых умацаванняў змагаліся заўзята яшчэ таму, што ў адпаведнасці з абарончымі планамі ім на дапамогу павінны былі прыйсці падраздзяленні з эшалону прыкрыцця.

У 1974 годзе Савет ветэранаў былой 4-й арміі спрабаваў дагрукацца да ўладаў у Маскве, каб тыя ўсё ж адзначылі подзвіг абаронцаў ДАКаў і ўзнагародзілі камандзіраў і радавых пасмяротна. Аднак з гэтага нічога не выйшла. Пры гэтым на польскім баку, на адным з ДАКаў мясцовыя жыхары павесілі памятную дошку. Такая ж зараз вісіць на адной з «кропак» і на беларускай частцы былога ўмацаванага раёна.

**Фота з архіву аўтара**

# Да мясцовага насельніцтва бязлітасныя

## Казацкія аддзелы вермахта ў Беларусі ў 1942–1944 гадах

Зміцер ЗАХАРЭВІЧ

**У апошні час пачалі шмат казаць пра «адраджэнне казацтва ў Беларусі». На тэрыторыі нашай краіны сёння дзейнічаюць некалькі арганізацый, сярод якіх найбуйнейшыя — «Казацкі спас», «Нёманскае казацтва», «Беларускае казацтва». Яны ладзяць штудыі для моладзі і падлеткаў, «хросныя хады», а «вярхоўны атаман» нават удзельнічаў у якасці кандыдата ў прэзідэнцкіх выбарах.**

Але месца, што адвяла гісторыя «нашым казакам», нічым не адрозніваецца ад таго, якое занялі на поўдні рэгіёна іх браты па духу — янычары. Кожная вайна з Масковіяй, кожнае вызвольнае паўстанне суправаджаліся ўварваннем у Беларусь казацкіх ордаў, якія пакідалі пасля сябе рэкі крыві і спаленыя паселішчы. Падобным яны «адзначыліся» ў нас і падчас Другой сусветнай вайны.

З'яўленню ў складзе вермахта казацкіх аддзелаў найперш спрыяла рэпутацыя казакоў як зацятых ворагаў бальшавізму, прыдбаная імі ў гады Грамадзянскай вайны ў Расіі. Да таго ж і рэпрэсіі супраць казацтва, праведзеныя ў СССР у 1920–1930-х гадах, таксама распалілі нянавісць да Саветаў.



Палкоўнік Сяргей Паўлаў



Падпалкоўнік Іван Конанаў

Казацкія палкі, разбітыя на дывізіёны, сотні і невялікія аддзелы, пачалі з'яўляцца на тэрыторыі Беларусі ўжо ў першай палове 1942 года. І калі на Палессі яны галоўным чынам займаліся аховай такіх важных чыгуначных і шасэйных магістраляў, як Лунінец — Калінкавічы, Мазыр — Жытомір, Жыткавічы — Васілевічы (напрыклад, гэтак званы «асобны Мазырскі казацкі аддзел», які пазней прымаў удзел у антыпартызанскіх акцыях у раёне Пінскіх балотаў), дык у іншых мясцовасцях Беларусі асноўнай задачай казацкіх фармаванняў былі барацьба з партызанамі і правядзенне карных акцыяў супраць цывільнага насельніцтва.

Першым буйным казацкім фармаваннем стаў 102-і казацкі батальён (пазней пераўтвораны ў 600-ы асобны казацкі дывізіён 1-й казацкай кавалерыйскай дывізіі) пад камандаваннем былога маёра Чырвонай Арміі Івана Конанава, патомнага казака, чые бацька, маці і тры родныя браты загінулі ў розныя гады ад рук Саветаў. Праўда, дэкларараваная для немцаў Конанавым нянавісць да бальшавікоў чамусьці не перашкодзіла яму скончыць і кавалерыйскае аддзяленне Аб'яднанай ваеннай школы, і Ваенную акадэмію імя Фрунзе, а таксама пазбегнуць сталінскай «чысткі» камсаставу. Тым не менш, немцы захавалі яму званне маёра (а пазней нават прысвоілі «падпалкоўніка»), і з вясны 1942 года Іван Конанаў са сваім батальёнам удзельнічаў у змаганні з партызанамі пад Магілёвам, з часам пашыраючы геаграфію сваіх рэйдаў да Бабруйска, Невеля, Полацка і Смаленска.

Што гэта было за змаганне, гаворыць рапарт савецкіх партызанаў: «[казакі] палілі населеныя пункты, расстрэльвалі як партызанаў, так і цывільнае насельніцтва, што хавалася ў лясах, арыштоўвалі альбо знішчалі асобаў, падазраваных у сувязях з партызанамі».

Захаваліся і іншыя сведчанні. Падчас чарговага рэйду (у межах аперацыі «Рысь», што праводзілася ў Бешанковіцкім і Сенненскім раёнах з 7 да 17 верасня 1942 года), былі спаленыя каля дзесяці вёсак, забітыя 400 беларускіх сялянаў і 300 чалавек схопленыя для вывазу на прымусовую працу ў Нямеччыну. Камандуючы часткамі забеспячэння тылу групы арміяў «Цэнтр» генерал фон Шэнкендорф у запісе ад 29 кастрычніка 1942 года ў сваім дзённіку даў наступную характарыстыку «конанаўцам»: «Настрой у казакоў добры... Паводзіны ў адносінах да мясцовага насельніцтва бязлітасныя».



Фота з архіву Зміцера Захарэвіча

7 чэрвеня 1943 года дывізіён Конанава (да двух з паловай тысяч чалавек) пачаў па частках пераводзіцца ў Польшчу, адкуль увосень таго ж года быў пераведзены ў Югаславію, дзе прыняў удзел у баях з мясцовымі партызанамі, адзначыўшыся там, як і ў Беларусі, надзвычай жорсткім абыходжаннем з цывільным насельніцтвам.

У лютым 1943 года ў Беларусь была перадыслакаваная яшчэ адна казацкая фармацыя — 360-ы казацкі полк пад камандаваннем Эверта Вальдэмара фон Рэнтэльна, былога афіцэра Лейб-гвардыі коннага палка Расійскай імператарскай арміі, заможнага землеўладальніка. Батальёны фон Рэнтэльна дзейнічалі супраць партызанаў у раёне Віцебска, Полацка, Лепеля, а з 18 чэрвеня полк займаўся аховай чыгункі Віцебск—Полацк, пасля чаго ў сярэдзіне ліпеня 1943 года быў перакінуты ў Францыю, дзе ахоўваў узбярэжжа ад Бардо да Руаёна.

**Ці варта казаць, што ў беларусаў казакі прыдбалі сабе кепскую славу. Акрамя забойстваў падчас карных акцыяў, яны займаліся рэквізіцыямі коней, харчавання і фуражу ў сялян, што звычайна заканчвалася масавым рабаўніцтвам і гвалтам**

Ці варта казаць, што ў беларусаў казакі прыдбалі сабе кепскую славу. Акрамя забойстваў падчас карных акцыяў, яны, у адпаведнасці з загадамі пра самазабеспячэнне, займаліся рэквізіцыямі коней, харчавання і фуражу ў сялян, што звычайна заканчвалася масавым рабаўніцтвам і гвалтам.

Хто ж служыў у казацкіх фармаваннях? Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што сапраўднымі казакамі ў іх былі толькі каля 60% ад усяго асабовага складу, але непасрэдныя ўдзельнікі падзеяў гавораць адваротнае. Так, Чарвякоў, камандзір адной з сотняў дывізіёна Конанава, згадваў: «Адбіраючы казакоў у лагерах ваеннапалонных, я сыходзіў з наступнага: па-першае, адбіраў чыстакроўных казакоў, а не іншагародніх; па-другое, згодна з іхнім сацыяльным становішчам — у каго ёсць бацька, брат альбо дзядзька за мяжой; па-трэцяе, тых, хто сам рэпрэсаваны Савецкай уладай ці нехта з ягоных сваякоў, а таксама казакоў, пацярпелых праз Савецкую ўладу за штосьці-небудзь іншае. Я рабіў адбор казакоў вельмі пільна... каб у нашу казацкую сям'ю не прабраліся чужыя нам элементы — хахлы і мужыкі-лапатнікі».

Апошнім (і найбольш вялікім — да 20 тысяч чалавек, праўда, з сем'ямі ў тым ліку) казацкім фармаваннем, што прыйшло на нашу зямлю, быў г. зв. «Казацкі Стан» пад камандаваннем былога палкоўніка Белай арміі Сяргея Паўлава. «Казацкі Стан» пасля працяглых блуканняў з Дона праз Украіну ў Польшчу ў траўні 1944 года быў накіраваны ў Беларусь, каб сеткай абарончых вёсак стварыць антыпартызанскую зону ў раёне гарадоў Баранавічы, Ельня, Навагрудак, Слонім.

Дабіраліся да нас гэтыя «абаронцы» хто чыгункай, а хто пехатой разам з сем'ямі, якія рухаліся за «войскам-станам» у абозе. Як згадваюць сведкі, «калі гэты табар набліжаўся да якога-небудзь паселішча, дык усё цывільнае насельніцтва ў сполаху разбягалася і хавалася, бо «змагары з бальшавізмам» незнарок маглі абрабаваць і забіць... нават арыйца».

Праўда, дзеля таго, каб разгарнуцца ў Беларусі напоўніцу, у іх было занадта мала часу, хоць прыняць удзел у некаторых антыпартызанскіх аперацыях яны паспелі. І заканчвалі жыццё па-рознаму. Атаман Паўлаў, як згадвалі кіраўнік Агульнаказацкага аб'яднання ў Нямецкім Рэйху атаман Балабін і дзеяч казацкай эміграцыі С. Маракуяў, «знаходзіўся з дзвюма сотнямі казакоў у сяле блізу Барановічаў. Нямецкі афіцэр Мюлер паведаміў яму, што непадалёк адтуль збіраецца банда партызанаў, і прапанаваў уначы акружыць іх, узяць у палон альбо знішчыць. Паўлаў з казакамі мусіў абысці банду з поўдня, Мюлер — з поўначы. Пра сваё прыбыццё на месца Мюлер мусіў сігналізаваць чырвонай ракетай, Паўлаў — белай. Паўлаў быў п'яны, казакі таксама. Мюлер даў ракету, але Паўлаў НЕ МОГ (вылучана мной. — **Зм. Захарэвіч**) адказаць. Мюлер даў другую ракету. Партызаны, заўважыўшы тое, разбегліся, а немцы адкрылі страляніну, але не па зніклых партызанах, а па казаках... Адной з першых кулямётных чэргаў былі забітыя Паўлаў і ягоны ад'ютант...» На думку ж Кубанскага атамана, аднаго з лідараў казацкай эміграцыі В. Г. Навуменкі, «зважаючы на ўсе дадзеныя, атрыманыя падчас правядзення расследавання і апытання непасрэдных сведкаў трагедыі, няма аніякага сумневу, што паходны атаман С. Паўлаў быў забіты куляй з беларускай заставы»...

# Кавалер «Ордэна ўсмешкі» запрашае!

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Калі размова заходзіць пра гродзенскага барда Віктара Шалкевіча, дык адразу падкрэсліваецца ўніверсальны характар яго творчай асобы: ён і аўтар-выканаўца, і актор, а таксама літаратар, перакладчык, аўкцыяніст.**

І толькі калі прагучыць апошняя кампазіцыя, узнікае пачуццё таго, што стаў удзельнікам вельмі пазітыўнай і светлай дзеі! Слухачы абавязкова ўзгадваюць, што нездарма Віктар Шалкевіч з'яўляецца кавалерам самага пазітыўнага ў свеце «Ордэна Усмешкі».

Хутка сталічныя прыхільнікі творчасці Шалкевіча сустрэнуцца на сольным канцэрце са сваім улюбёным выканаўцам. Напярэдадні выступлення ў сталіцы бард адказвае на пытанні нашага карэспандэнта.

***— Віктар, мы ведаем, што не так даўно вы далі некалькі паспяховых і важных у творчым плане канцэртаў у Львове (разам з Ю. Хілаўцом) і ў Беластоку. Як сустракала вас замежная публіка, беларусы Украіны і Падляшша, ці добра вядомыя там вашы песні?***

— Мінулы год быў для нас з гітарыстам Юрам Хілаўцом сапраўды паспяховым: апрача выступу на фестывалі «Бард-рыбалка» пад Магілёвам (нават Беларускае тэлебачанне транслявала нашы песні), мы адыгралі сольныя канцэрты ў Мронгове (Польшча) і ў Львове ў рамках фестывалю Усходняга партнёрства. Таксама быў сольны канцэрт у Вроцлаве на фестывалі незалежнай беларускай культуры, на якім я разам са спевамі прэзентаваў мой літаратурны зборнік «Рэквіем па непатрэбных рэчах», які пабачыў свет у Беластоку ў перакладзе на польскую мову. Яшчэ я пабываў з канцэртам у Таліне. Так што за мінулы год давялося аб'ехаць амаль усю старую краіну ВКЛ ад мора да мора. Публіка паўсюль выхаваная, чуллівая і часам сентыментальная. Адным словам — адэкватная і добра знаёмая з маімі песнямі. Для такой публікі нічога не шкада: ні голасу, ні сэрца...

***— Прыкладна раз на год вы даяце аншлагавы канцэрт у сталіцы. Што для вас азначае сустрэча з мінскай публікай?***

— Лічыцца, што колькасць адукаваных людзей у Мінску, беручы на квадратны кіламетр, самая вялікая ў краіне. Адукаваныя людзі і запатрабаванні маюць вышэйшыя: тут на рытмаванай і рыфмаванай голай любові да Радзімы і нянавісці да яе ворагаў далёка не паедзеш. Тут трэба больш тонкі падыход: так рабіць, каб усе ўсё зразумелі. Галоўнае — трэба, каб зразумелі, што беларус без беларускасці — нішто! Таму я страшэнна люблю мінчукоў і карэнных, і прыезджых, і стараюся час ад часу іх здзіўляць!

***— Канцэрт у Мінску запланаваны на Дзень усіх закаханых — 14 лютага. Якія песні вы прапануеце мінчукам у якасці музычных «валянцінак»? Ці прагучаць вашы новыя кампазіцыі?***

— Безумоўна, амаль усе мае песні будуць адрасаваныя закаханым. Я буду спяваць і спяваць для тых, хто ведае, што такое гэтае цудоўнае пачуццё! І новыя песні для іх будуць. А пакуль я стараюся падрыхтавацца да сустрэчы з вамі, паважаныя слухачы: мучаю сябе, шукаю рыфмы, патрэбныя сімвалы і алегорыі. Карацей, сваю творчасць скіроўваю ў стваральна-пазітыўнае рэчышча.



> **Мой стары сябра, цудоўнейшы нямецкі бард Дзітэр Калька (Dieter Kalka) вырашыў пазнаёміць нямецкіх слухачоў з маёй творчай біяграфіяй і напісаў артыкул для мясцовага часопіса «5 Minuten Mit...»**

***— Слухачы, і мінская не выключэнне, вельмі любяць вашы імправізацыі, а таксама аўтарскія літаратурныя творы. Ці будуць гучаць на канцэрце навелы і апавяданні з вашай кнігі «Рэквіем па непатрэбных рэчах»?***

— Цяжка сказаць загадзя, усё залежыць ад настрою публікі. Таму, калі ўбачу прыхільнасць да маіх літаратурных эксперыментаў, то прачытаю маленькую навелу з майго новага рамана «Маланабздзейкаўскія гістарычныя хронікі» — так я назваў свой новы літаратурны твор. Мае таварышы па пяру мне параілі не прабаўляцца дробязямі, трэба выдаць нешта эпахальнае. Вось і выдаю пацыху!

***— З моманту выдання дыска «Шчаслівая сямёрка» прайшло даволі шмат часу. І вось не так даўно вы анансавалі чарговы альбом. У якой стадыі цяпер знаходзіцца гэтая праца, калі нам чакаць рэлізу вашага новага дыска?***

— Спадзяюся, мой альбом у гэтым годзе будзе дакладна. Цяпер у нас падрыхтоўчы перыяд: узгадняем са спонсарам арганізацыйныя дробязі, а потым засядзем у студыю і запішам кампазіцыі да яго. Шкада, што падрыхтоўчы перыяд да выдання новай кружэлкі атрымаўся такім працяглым!

***— Не так даўно ў нямецкім друку з'явіўся артыкул Д. Калькі «Прафесія — жартаўнік», дзе аўтар сцвярджае: «...Між тым, ён (Шалкевіч) стаў культавым у краіне. Верагодна, апошні сапраўдны бард...» Некалькі слоў пра тое, чаму нямецкую прэсу зацікавіла ваша песенная творчасць?***

— Мой стары сябра, цудоўнейшы нямецкі бард Дзітэр Калька (Dieter Kalka) вырашыў пазнаёміць нямецкіх слухачоў з маёй творчай біяграфіяй і напісаў артыкул для мясцовага часопіса «5 Minuten Mit...». Відаць, нехта з падачы «акулы беларускага шоў-бізу» В. Супрановіча ўжо з'ўзяўся яго перакласці з мовы Гётэ і Шылера на мову Кузьмы Чорнага і Аляксея Белага... Так што хутка ўсе даведаемся, чым я цікавы і як выглядаю насамрэч з нямецкага пункту гледжання!

Да сустрэчы на канцэрце да Дня ўсіх закаханых 14 лютага ў Палацы культуры ветэранаў (вул. Я. Купалы, 21). Пачатак а 19 гадзіне.

**Фота з архіву аўтара**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 | Лицевой счет: Код 739

УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Кассир

Пеня ____
Всего ____

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Падпісацца на «Новы Час» можна, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі.

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», УНН 190790926; код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.

**Падпісацца таксама можна ў рэдакцыі і ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **32 000** руб., **квартала — 90 000 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар
**Пяроўская Святлана Віктараўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 625 57 51; +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81; novychas@gmail.com
**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 86

Падпісана да друку 29. 01. 2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.